

# УЛАДЗІМІР ДУБОЎКА

## ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ

ТОМ ПЕРШЫ

ВЕРШЫ

ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСЬ»
МІНСК 1965

## АБЛІЧЧА ДРУГА

Чытаючы дарагіх майму сэрцу паэтаў, я люблю, калі ў кнізе ёсць партрэт аўтара, падоўгу ўглядацца ў яго аблічча, у яго вочы. Хочацца як мага болей пабыць сам-насам з другам, жывое слова якога адгукнулася радасным водгуллем у тваёй душы.

Роднае аблічча аднаго з любімых мною паэтаў я маю шчасце бачыць не толькі ў кнігах, але і ў самім жыцці. І гэта мне асабліва дорага.

Я радуюся кожнаі сустрэчы з ім. І калі гляджу ў яго вочы — імклівыя і вясёлыя, праніклівыя і ясныя, мне заўсёды здаецца, што за доўгай сівой барадой схаваўся чарадзей з душой юнака, да самазабыцця закаханага ў жыццё і ва ўсё прыгожае на свеце.

Пэўна, гэта і ёсць шчасце сапраўднага паэта, які не мае права старэць. І колькі б не было яму гадоў, ён застаецца маладым, здольным заўсёды адчуваць радасць маладосці.

Да Уладзіміра Мікалаевіча Дубоўкі, аднаго з пачынальнікаў беларускай савецкай паэзіі, ніяк не прыстаюць ні хрэстаматыйны глянец, ні эпітэты санавітасці, без якіх ужо ў такім узросце звычайна і не вымаўляецца славутае імя.

Уладзіміра Дубоўку і ў яго 65 год па праву можна назваць маладым паэтам за маладосць яго паэзіі, за творчую нястом-

насць і няўрымслівасць, за смелыя пошукі і за тую задзёрыстасць, якая ўласціва толькі маладосці.

Усе, хто любіць нашу паэзію, вельмі часта могуць сустрэць яго імя то на кнізе лірыкі, то на вокладцы збору цудоўных казак для дзяцей, то пад вершамі, поўнымі глыбокага роздуму над жыццём, пад эпічнымі паэмамі аб сучаснасці і гістарычнымі паданнямі, што вабяць нас сваёй народнай мудрасцю.

Старэйшы майстар паэтычнага слова перажывае цяпер сапраўдны ўздым творчага натхнення. І ўсе мы — і равеснікі, і маладзейшыя сябры, шчыра радуемся высокаму ўзлёту яго жыццярадаснага таленту.

Нялёгкім быў лёс паэта. Пачынаючы з 1930 года і да дзён аднаўлення ў правах савецкага грамадзяніна, ён прайшоў нямала выпрабаванняў у час культу асобы, які прынёс савецкім людзям нямала страт.

Сам паэт, вельмі неахвотна і скупа прыгадваючы той, нядобрай памяці, час, зазначае, што «за тыя гады, як пісьменнік, нічога не рабіў».

Вось чаму, калі пасля трох дзесяткаў год творчага перапынку Уладзімір Дубоўка адразу ж актыўна ўключыўся ў нашу паэзію і голас яго загучаў з той жа свежасцю, як і ў дні юнацтва, але яшчэ з большай грамадзянскай палымянасцю, нельга было не парадавацца сапраўднаму байцу, які стаў у строй песняроў свайго народа.

І хоць паэт вярнуўся ў родныя мясціны ўжо чалавекам, які шмат перажыў у сваіх доўгіх і суровых вандроўках, і хоць за ўсе самыя цяжкія гады свайго жыцця не напісаў ні аднаго верша, ён, аднак, заставаўся паэтам, якому заўсёды былі вядомы не толькі таямніцы нясказанага слова, але і паэзія любой нялёгкай працы.

«Дзе б я ні быў, на якой бы працы ні стаяў, я ўсюды знаходзіў шмат прыгожага, шмат цікавага, сустракаў вельмі доб-

рых людзей. Для мяне ніякая работа ніколі не была пакутай — яна заўсёды была для мяне жаданай, бо ўрэшце — ішла на карысць нашай сацыялістычнай бацькаўшчыны».

І Волгу бачыў я і Дон,
багата рэк сібірскіх бачыў.
Такі мой лёс: з юнацкіх дзён
ён вандраванні мне прызначыў.

Вадзіў праз горныя хрыбты,
цераз Байкал і за Байкалам.
А харaства, а пекнаты
аж цераз самый край бывала...

Так шчыра і задушэўна гучаць першыя ж радкі, напісаныя паэтам пасля звароту на радзіму.

Дапытлівымі, шырока раскрытымі вачыма свайго юнацтва паэт, поўны захаплення, глядзіць на дарагія сэрцу мясціны, дзівячыся пераўтварэнням, якія непазнавальна змянілі родную зямлю.

Памятаю, як летам 1959 года мы з Уладзімірам Мікалаевічам выправіліся ў вандроўку па Палессю. І правандравалі цэлы месяц.

З якой няўтольнай прагнасцю ўбірала ў сябе юнацкая душа паэта ўсе ўражанні нашай, не такой ужо і лёгкай паездкі. Майму дапытліваму спадарожніку хацелася як мага болей убачыць, пачуць, пагаварыць з кожным новым знаёмым.

У чыстым і вясёлым, падобным на прыморскі гарадок, Кобрыне мы выхадзілі ўсе вуліцы і зялёныя яго ўскраіны, аб'ездзілі Днепра-Бугскі канал, з цікавасцю наглядалі, як ідуць па ім у самы поравень з берагамі караваны цяжкіх рудавозаў з грузам, на які спатрэбіліся б дзесяткі чыгуначных эшалонаў. Дабіраючыся на кацеры з Пінска ў старажытны Тураў, мы не маг-

лі надзівіцца той цягавітай нястомнасці, з якой дзень і ноч працуе на людзей казачна прыгожая Прыпяць, што ўвабрала ў сябе ўсе рэкі і крыніцы палескага краю.

Прыехаўшы ў Тураў, мы палічылі, што знаходзімся, нарэшце, у цэнтры Палесся. «Не, гэта яшчэ не Палессе! — пачулі мы ад тураўлян.— Палесся адгэтуль не ўбачыце». І Уладзімір Мікалаевіч наважыў абавязкова паглядзець сапраўднае Палессе, дабрацца да самай глыбіннай мясціны. І мы паехалі ў Радзівілавічы.

На газіку сакратара райкома па лясных і балотных дарогах, па глыбокім пяску, па карчах і карэннях у каляінах мы дабраліся нарэшце і да палескай глушы, але глушы якраз і не ўбачылі. Вялікія вёскі, адбудаваныя нанава пасля вайны, Букча, Тонеж і Радзівілавічы на ўсё Палессе славяцца сваімі спеваками і танцорамі, вышывальшчыцамі і ткачыхамі.

Вельмі радасна было бачыць, як новы побыт, што ўваходзіць у жыццё палешукоў, суладна спалучаецца з нацыянальным каларытам, з даўнімі добрымі народнымі звычаямі. Бадай ні ў якой іншай мясцовасці Беларусі вы не ўбачыце такой вясёлай яркасці ва ўборах, у адзенні, як на Палессі. У святочны дзень палеская вуліца пераліваецца ўсімі колерамі вясёлкі ад палосаў і стужак, якімі абшыты шырокія спадніцы маладзіц. Лёгкія белыя блузкі, вышытыя самымі дзівоснымі ўзорамі,— любімае ўбранне дзяўчат.

У тураўскай гасцініцы Уладзімір Мікалаевіч доўга і з веданнем справы выпытваў у нашай дзяжурнай Галі, як яна вышывае, дзе бярэ ўзоры. Сарамяжая дзяўчына, сумеўшыся ад такой нечаканай цікаўнасці, адказвала не зусім ахвотна, відаць, палічыўшы незнаёмага дзеда за вясёлага жартаўніка.

Затое ў тым жа Тураве, разгаварыўшыся са сталярамі, што рабілі дзверы і аконныя шуфляды для новага дома, паэт знайшоў сабе субяседнікаў на цэлы вечар. Майстар гаварыў і май-

страмі аб паэзіі той працы, якая зразумелая і дарагая яму гэтак жа, як і паэзія слова.

І я, слухаючы гэтую гаворку, у глыбіні душы пазайздросціў шчодрасці таленту, якім валодае мой старэйшы друг. Такія людзі сапраўды бачаць радасць у кожнай рабоце, якую яны робяць. Гэта майстры, блізкія і патрэбныя людзям.

Але такое майстэрства і ў працы і ў паэзіі даецца нялёгка. Яно выпрабоўваецца жыццём.

Уладзімір Дубоўка прайшоў суровую школу жыццёвай загартоўкі. «Аглядаючыся назад, разважаючы пра сваё часам не вельмі лёгкае жыццё, думаю, што вытрываць яго, застацца працаздольным да сённяшняга дня мне дапамагло працоўнае выхаванне, гартоўка, якую я атрымаў у сваёй сям'і ў маладыя гады»,— гаворыць сам паэт.

Уладзімір Мікалаевіч Дубоўка нарадзіўся 15 ліпеня 1900 года ў вёсцы Агароднікі, Манькаўскай воласці, Вілейскага павета, непадалёк ад славутага возера Нарач.

«Мая маці,— успамінае паэт,— была непісьменная, але мела ясны прыродны розум, вельмі добра ведала беларускую мову і, паўжыцця пражыўшы ў Маскве, гаварыла толькі па-беларуску. Я ніколі не вучыўся ні ў якіх беларускіх школах, усё маё веданне беларускай мовы — ад маці і з вёскі. Вось чаму я маю поўную падставу называць беларускую мову — матчынай мовай...

У вёсцы я чуў толькі беларускую мову. Вось чаму мне так запала яна ў душу і сэрца. Некаторыя дзівяцца: «Вы ніколі не вучыліся ў беларускіх школах, пражылі бадай усё жыццё за межамі Беларусі, а мову ведаеце». Як жа яе не ведаць, калі яна родная! Як жа яе не любіць, калі яе стваралі на працягу вякоў твае продкі, гаварылі на ёй, перадалі табе ў спадчыну, як самы вялікі скарб свой...

Замілаванне да народнай творчасці было ў мяне ад малых гадоў і ідзе са мной усё жыццё.

Хата, начлег, млын, да якога прыязджалі памольшчыкі з розных вёсак,— гэта былі наша школа, наша бібліятэка, наша радыё — уся наша пачатковая адукацыя. А песні... ідуць са жніва, з поля маці, суседкі ды спяваюць:

А пара дамоў, пара-а-а-а...
Ужо ўзышла вячэрняя зара-а-а-а...

І цяпер гучаць тыя песні мне»,— гаворыць з душэўным хваляваннем Уладзімір Мікалаевіч.

Маленства і юнацтва запалі ў душу паэта незабыўнымі ўражаннямі прынарачанскага краю.

Калі пачалася імперыялістычная вайна, чатырнаццацігадовы Уладзік разам з бацькамі, як і многія выгнаннікі, з бежанскім абозам цераз усю Беларусь едзе на Усход. Неўзабаве ж, у час грамадзянскай, юнак бярэ ў рукі зброю і, як салдат новай арміі рабочых і сялян, становіцца ў рады абаронцаў маладой Савецкай дзяржавы, змагаецца супроць усіх яе ворагаў, супроць тых захопнікаў, што выгналі яго сям'ю і сотні тысяч такіх сем'яў з роднай і дарагой сэрцу бацькаўшчыны.

Яшчэ ў франтавым шынялі ўражлівы юнак, успамінаючы песні сваёй маці, пачынае прабаваць свае сілы ў паэзіі, складае свае першыя вершы. І адразу ж, як толькі канчаецца вайна, малады, але ўжо загартаваны ў баях салдат, бярэцца за вучобу. Ён паступае ў Вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут, які быў тады толькі што заснаваны ў Маскве вядомым рускім паэтам В. Я. Брусавым.

«Даведаўшыся, што я беларус,— расказвае Дубоўка,— Валерый Якаўлевіч запытаўся, творы якіх беларускіх паэтаў я ведаю. Калі я назваў яму некалькі імён, ён запытаўся далей, якія творы Янкі Купалы я ведаю і якія больш за ўсё мне падабаюцца. Я назваў некалькі вершаў, у тым ліку «Адцвітанне». Вале-

рый Якаўлевіч ухваліў мой густ і сказаў, што яму таксама падабаюцца гэтыя вершы.

Заўважыўшы маё здзіўленне, ён сказаў:

— Я не толькі ведаю творы вашага вялікага паэта, але і сам перакладаў іх на рускую мову. Тым больш павінны ведаць і любіць яго творы дзеці беларускага народа».

Уладзімір Дубоўка становіцца адным з лепшых вучняў строгага патрабавальнага майстра рускай паэзіі. 28 мая 1921 года газета «Савецкая Беларусь» друкуе першы верш маладога паэта. Да імён, ужо добра вядомых у той час, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, Цішкі Гартнага, Міхася Чарота, далучаецца імя Уладзіміра Дубоўкі, голас якога з кожным годам гучыць усё мацней і мацней. Яго творы друкуюцца ва ўсіх часопісах і газетах, якія выдаюцца ў тыя гады ў Беларусі. Адна за другой выходзяць кнігі яго вершаў «Строма» (1923), «Там, дзе кіпарысы», «Трысцё» (1925), «Credo» (1926), «Наля» (1927). У перыядычным друку паяўляюцца паэмы: «Кругі» (1927), «Браніслава», «І пурпуровых ветразей узвівы» (1929).

Уладзімір Дубоўка становіцца адным з самых вядомых і прызнаных майстроў нашай паэзіі. Пад яго прыкметным уплывам уваходзілі ў літаратуру многія маладыя паэты дваццатых гадоў.

Паэт вызначаецца сваім свежым, адметным талентам. Усхваляваныя словы маладога песняра глыбока западаюць у сэрцы яго сучаснікаў:

О Беларусь, мая шыпшына,
Зялёны ліст, чырвоны цвет,
У ветры дзікім не загінеш,
Чарнобылем не зарасцеш!

Так пісаў Дубоўка, пісаў з цвёрдай, нясхіснай упэўненасцю ў светлы лёс сваёй радзімы, у яе будучыню.

Вучоба беларускага паэта ў лепшых майстроў рускай паэзіі, яго жыццё і праца ў Маскве ўмацоўваюць жыватворчыя сувязі і плённы ўплыў выдатных рускіх пісьменнікаў на маладую беларускую літаратуру.

Нядзіва, што ў асобе Уладзіміра Дубоўкі наша паэзія атрымала майстра, які адным з першых у Беларусі раскрыў і паказаў новыя багацейшыя магчымасці народнага паэтычнага слова.

Авалодаўшы еўрапейскімі мовамі, Дубоўка перакладае на беларускую выдатныя творы сусветнай класічнай паэзіі. Упершыню ў яго перакладзе ў нас паяўляюцца многія творы Байрана. Паэт нястомна падымае культуру роднага слова на вышыню прафесійнай дасканаласці. Ён шукае новыя формы інструментоўкі верша, новыя рытмічныя ходы, слоўныя сугуччы і рыфмы.

Лепшымі ўзорамі сваёй творчасці ён паказвае, як пад рукой майстра-наватара можа загучаць ва ўсім сваім хараστве магутнае і самабытнае беларускае слова. Яго ўвагу захапляюць паэтычныя паданні, казкі і легенды. Пад пяром Уладзіміра Дубоўкі многія з іх набываюць другое жыццё, паўстаюць у новай героічнай велічы і душэўнай прыгажосці.

Радасна, што ў нашы дні, дні вялікага ўздыму і творчых здзяйсненняў, паўнакроўным, натхнёным жыццём народа жыве і наш старэйшы друг, заўсёды верны высокаму прызванню савецкага паэта.

Кніга вершаў «Палеская рапсодыя» .(1961) з'явілася як творчая справаздача паэта аб падарожжы на Палессе. Для мяне асабіста — вялікая асалода чытаць і перачытваць гэтую кнігу таму, што я быў сведкам яе нараджэння. За кожным вершам я пазнаю паэтычнае радаслоўе яго героя, прыгадваю тыя мясціны, аб якіх піша паэт, і людзей, з якімі мы сустракаліся,— і сакратара райкома, і шафёра, што ў вольныя гадзіны аддаецца свайму любімаму занятку — маляванню, і хлопчыка-рыбалова, які купляе сабе школьныя падручнікі за свае, самім запрацаваныя

грошы, і сараміжую дзяўчыну Галю, што так і не выдала нам сваіх сакрэтаў дзівосных, вышытых ёю ўзораў. Як жывыя паўстаюць перада мною ў палескіх вершах Дубоўкі і тыя светлыя вобразы, што абудзіла ў душы прыгажуня Прыпяць, па якой праплылі мы ад Пінска да Мазыра, а потым, перасеўшы на дняпроўскі параход, паплылі ў чароўны і сонечны братні Кіеў.

Мне асабліва прыемна, што за кнігу «Палеская рапсодыя» паэт быў удастоены дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы.

Значнай падзеяй у культурным жыцці Беларусі з'явілася кніга санетаў Вільяма Шэкспіра ў перакладзе Уладзіміра Дубоўкі. Гэта вынік яго натхнёнай працы да 400-годдзя найвялікшага волата сусветнай паэзіі.

У Дубоўкавай паэтычнай апрацоўцы выйшлі ў свет многія беларускія казкі для нашых самых удзячных чытачоў — для дзяцей.

Чуйным сэрцам паэта і грамадзяніна адгукаецца Уладзімір Дубоўка на ўсе падзеі, якія хвалююць савецкіх людзей.

Яго лірычная нізка «Чакае ля берагу човен мяне», поўная роздуму, светлая і радасная па свайму настрою, малюе суровую прыроду Сібіры, нязломны характар чалавека, які прыйшоў у бясконцыя нетры тайгі, на берагі магутных рэк, каб змяніць аблічча гэтага краю, аддаць яго багацці на карысць народа.

Яго новая паэма «Перад іменем Любові» пабудавана на выразна акрэсленым сюжэце. У ёй падаецца жыццёвы факт з часоў Айчыннай вайны, факт, якіх было нямала і аб якіх пісалі многія аўтары. Жонка атрымлівае паведамленне, што муж яе забіты, пасля высвятляецца, што смерць абмінула яго. Калі не выходзіць за межы факта, гэта сапраўды здарэнне, якія былі. Але Уладзімір Дубоўка зрабіў здарэнне прадметам паэзіі, падняў да абагульнення ў паэтычных вобразах, паказаўшы нам хараство людскіх пачуццяў, вернасць савецкага чалавека сваім запаветным ідэалам.

Упершыню за доўгі час нашы чытачы, якія сочаць за развіццём беларускай паэзіі, атрымліваюць магчымасць прачытаць творы Уладзіміра Дубоўкі, напісаныя болей трыццаці год таму назад. Некаторыя з іх аўтар перапрацаваў нанава, на некаторыя пагглядзеў з вышыні вопыту, які ўжо не можа пагадзіцца з няўдачамі і асобнымі пралікамі, што былі ўласцівы маладому паэту. У гэты двухтомнік па праву ўваходзяць і творы, якія напісаны нядаўна і паспелі ўжо набыць шырокую вядомасць.

Дзве кнігі, у якіх адлюстравалася вялікае і складанае жыццё, нялёгкі шлях, творчыя пошукі, маладосць і сталасць аднаго з цікавейшых беларускіх паэтаў, будуць каштоўным здабыткам усіх, хто любіць паэзію, хто ў яе лепшых майстрах заўсёды бачыць аблічча сваіх задушэўных сяброў.

*Васіль Вітка*

## ПАХОДНАЯ ПЕСНЯ

Не згасне сонца
на небе сінім.
Ніяк, ніколі
паход не спынім.
Здабудзем шчасце
сабе і свету.
Мы падыходзім
да яснай мэты.
    Вышэй узносьце
    штандар чырвоны!
    Нас у паходзе —
    міліёны!
Сябруе моцна
з навукай праца,
не давядзецца
ім разлучацца.
Шляхі пралажым
і цераз горы,
з крамлёўскіх вежаў
нам свецяць зоры.

Вышэй узносьце
штандар чырвоны!
Нас у паходзе —
міліёны!
Варожай сіле
найболей страшны
работы плённай
здабыткі нашы.
Іх павялічаць
хадой рытмічнай
брыгады працы
камуністычнай.
Вышэй узносьце
штандар чырвоны!
Нас у паходзе —
міліёны!
Дажджы нас мылі,
вятры сушылі,
а мы — да неба
ўзнімалі крылле.
Нас не прымусяць
цяпер спыніцца
ні гром з маланкай,
ні навальніцы!
Вышэй узносьце
штандар чырвоны!
Нас у паходзе —
міліёны!
Да камунізма,
да перамогі —
для нас адкрыты
шляхі-дарогі.

Здабудзем шчасце
сабе і свету.
Мы падыходзім
да яснай мэты.
    Вышэй узносьце
    штандар чырвоны!
    Нас у паходзе —
    міліёны!
Не згасне сонца
на небе сінім!
Ніяк, ніколі
паход не спынім.
Для нас адкрыты
шляхі-дарогі —
да камунізма!
Да перамогі!
    Вышэй узносьце
    штандар чырвоны!
    Нас у паходзе —
    міліёны!

*1958*

## ЗАЛАТАЯ, АСЕННЯЯ РАНІЦА...

Залатая, асенняя раніца!
Хараством ты на свеце адна.
Сонца ў пушчы глыбокай купаецца
і ніяк не дастане да дна...

Мітусіцца лісцё па аселіцы,
як дзвіна матылькоў-мітульгі.
І узвее яна, і пасцелецца,
распаветрыцца на берагі.

А яны, берагі-беражыстыя,
не стрымаюць асенні напеў.
І ліецца, віецца сукрысты ён
і разгортваецца каля дрэў.

Прытулі, прыхіні на апошняе
і згадай гэты дзень залаты,
што над пушчай, згалелымі пожнямі
рассыпаў залатыя лісты.

Рассыпаў і раскідваў прыгоршчамі
на акрасу, на жаль, на ўспамін.
Развітальная хвіля найгоршая,
яна можа і сэрца спаліць.

Не бядуй, не гаруй — пад цяжарамі
мне не йсці, шчасця ў іх не шукаць,
з-за балота мігціць, за выгарамі
прамяніцца пярэстая гаць.

Не гаруй! Ты дарэмна заплакала:
я прыйду, я вярнуся ізноў.
Лёс для ўсіх не бывае аднакавы,
як для тых засмучоных лістоў.

Залатая, асенняя раніца!
З харастром, з пекнатою — бывай!
Ужо сонца за пушчу хаваецца,
кармазынам гарыць небакрай...

*1922*

## ТЫ МНЕ ГАВОРЫШ

Ты мне гаворыш, што долю і волю
бачыць не суджана нашай айчыне?
Вецер ганяе тут попел над полем,
попел у спадчыну вораг пакінуў?

Беднасць пануе ў пясках і каменні,
стогне народ пад абцасам у пана?
І да святла ў нас не будзе імкнення,
бо найгарчэйшае наканавана?

Годзе і годзе, таварыш пакорны!
Так жа было, але гэтак не будзе!
Нас недарэмна малолі у жорнах,—
з кожнай пакруткай мацнелі ўсё людзі.

Выдзьме ўвесь попел, як ворага, вецер,
выжане рабскую кроў і пакору.
Зойме айчына пасад свой у свеце,
заўтра — не будзе падобна на ўчора.

Шчасце здабудуць мазольныя рукі,
шчасце мы створым сваімі рукамі.
Ведаць не будуць пра гора унукі,
што панавала ад веку над намі.

*1922*

## ЖЫЦЦЁ НАС ВАБІЦЬ

Не трэба мне спяваць на Беларусі? —
Жыццё нас вабіць, кліча нас жыццё.
І за радзіму песнямі малюся,
як па-над возерам лясным трысцё.

Не зараслі трыпутнікам дарогі
да родных, любых сэрцу берагоў.
Мінаюць дні, а з імі і трывогі
з павольным рокатам пакоцяцца далоў.

Далёка я... А ты у даляглядзе
з'яўляешся, як непазбыўны сон.
Спакой жаданы, ціхае суладдзе
дае на сэрца і на думкі ён.

І ў гэты час, узрочысты, узняты,
якіх даўно не адчуваў, не меў,
пад ціхі гоман пушчавае шаты
у сэрцы шчыры выспеліўся спеў.

Краіна працы, вечнага змагання,
надзеі нашы здзейсняцца усе.
Мы дачакаем светлае Світанне:
яно лагоду і спакой нясе.

*1922*

## СНЕГ ЗНІКАЕ

Снег знікае... Сустракаюць маладу вясну,
сонца грэе, абуджае свет увесь ад сну.
Птушкі мкнуцца, супраць волі, да сваіх краін.
    «Час дахаты, час»,—
    спеў чуваць адзін.
Кіну смутак я, маркоту аж на ніцы лозы,
ў вечар гэты, вечар траўня, вечар нецвярозы.
Вольны вецер я паклічу, як пяюць наўкола:
    «Час дахаты, час —
    ў жыццёвы золак»...
З ветрам шляхам бліскавіцы ў небе паляцім,
рупнай працай, клапатлівай край свой адрадзім.
Толькі крылле мне патрэбна, крылле мне, хутчэй!
    «Час дахаты, час»,—
    рвецца гук з грудзей...

*1922*

# СПАГАДАЕ ХТО БЯЗДОЛЬНАЙ

Спагадае хто бяздольнай,
і каму яна патрэбна?
Слёз глыне, а рэшту вытрэ
рукавом кашулі зрэбнай.

І па сцежках, па дарожках,
дзе трыпутнік і чарнобыль,
пройдуць босанькія ножкі
ўсё да долі, доля ж — воддаль...

Там, за лесам, там, за пушчай,
за сыпучымі пяскамі
будзеш, дзетка, вочы плюшчыць,
як падзьме пяскі вятрамі.

А як пушча загалосіць
стогалосым дзвенькам-енкам,
голлем будзе шоркаць косы,
шыгаллём пароць сукенку...

Напалохаешся, дзетка,
ты з такога падарожжа.
Кожны шолах кожнай веткі
тваё сэрца натрывожыць...

А ты ўсё ж ідзі наперад
цераз цемру, проці змроку.
Хай цябе бадзёрыць вера,
што да сонца — недалёка.

Сонца выйдзе, шлях асвеціць,
дойдзеш ты да мэты смела.
Знойдзеш тое ў белым свеце,
што пры мачысе не мела...

*1922*

## НОЧ НАПЛАКАЛІ БЯРОЗЫ

Ноч наплакалі бярозы,
нашумеў чарот.
Надышла ліловай крозай,
стала над гарой.

Разліліся, развіліся
вокал туманы.
І на кветках, і на лісці
ўсё яны, яны...

Струн кранае ціхі вецер,
доля ў іх мая.
Ты пра вошта сніш у вецці,
кветка любая?

Ані слова, ані гуку
не чутно ў адказ.
Шле зязюля — «Ку-ку, ку-ку»
ў засмучоны час...

*1922*

## БАЛАТЫ РАЗЛЯГЛІСЯ АБАПАЛ РАКІ

Балаты разляглiся абапал ракi,
i туман i дрыгва з прадвякоў у вякi.
Нi жыцця, нi шляхоў, нi людзям пекнаты.
Разляглiся абапал ракi балаты.

I адчайны, надрывiсты цягнецца плач:
гэта кнiгаўка жалiцца богу, няйнач.
Багна стогне надрыўна, а слёзы цякуць
i адна па адной — у ручай, у раку.

А над гэтым усiм непрыглядддзем балот
з похваў выкiнуў шаблi напорны чарот.
Як на варту усталi кiёўкi наўкол,
але сонцаў прамень
i ля варты прайшоў.

*1922*

* * *

Тугой спавіты небакрай,
наземяцца няспынна слёзы...
За імі восені адчай...
Тугой спавіты небакрай? —
Надзея родзіцца: няхай!
Бо вецер звее ў ніцы лозы
тугу, што йдзе за небакрай,
і неспыняныя ўсе слёзы...

*1922*

* * *

Час брыльянцісты, залацісты
нястрымана імкнецца ўдаль.
А мы на ім — убор квяцісты.
Час брыльянцісты, залацісты
настрой у сэрцы паліць чысты,
бязлітасна зжынае жаль.
Час брыльянцісты, залацісты
нястрымана імкнецца ўдаль.

*1922*

* * *

Дык чаму ж не пяяць, кажаш, мне;
калі песні ліюцца крыніцай?
Калі ветразі — вір скалыхне,
дык чаму ж не пяяць тады мне?
На усходзе ўжо стала віднець,
Беларусь азарылі зарніцы.
І аб шчасці, аб новай вясне
разліваюцца песні крыніцай.

*1922*

## ІМЖА, І СКЛІЗОТА, І ПРЫКРАЯ ЗОЛЬ

Імжа, і склізота, і прыкрая золь
за скрогатам ветру — навалай.
У чмарнасць убралася светава столь,
блакіт ад зямлі адарвала.

Журба расплялася кудлатай лазой,
у сэрца цярушыцца шэрань.
А вецер шпурляе, як морскі прыбой,
пясок і журбу аб каменне.

І скогат, і скарга — спакою нідзе,
пад засцілай ночы — варожасць.
А ўпартасць да мэты вяла і вядзе,
пра шчасце і радасць варожыць...

*1922*

# НАД СТАВАМ ХОДЗІЦЬ

Над ставам ходзіць смутны вечар,
купаюць зоры ў ім праменне.
З лазою вольхі ціха шэпчуць,
на хвалях крышацца іх сцені.

І дываны на небе цьмяным
узорам сцелюцца дзівосным.
Не накш, як вецер тчэ з туманаў
свае вялізманыя кросны.

Звіліся стужкамі імкненні
у гэты час на сінім полі.
Тут і сцюдзёнае каменне
і квет кунежная патоля.

Табе, юнацтва, зоры ў высі,
табе, юнацтва, ў далях кветы.
Табе узоры завіліся
і развіваюцца над светам.

Жыццё, твой шлях такі цярнёвы,
не разбівай жа нашы мары.
Напэўна дзень надыдзе новы,—
не вечна сонца будзе ў хмары.

*1922*

## ЗАХАПІЛА НАВАЛЬНІЦАЮ

Захапіла навальніцаю
неаглядны ўвесь прастор.
Захінулі хмары ніцыя
ад зямлі вяночкі зор.

Лементуе вецер кнігаўкай
і віхрыцца па страсе,
ў аканіцы б'е і скрыгае,
каб не спалі людзі ўсе.

Выбухаюць гукі пошчакам
і знікаюць, нібы дым.
Бліскавіца палкім росчыркам
выпякае ўсе сляды.

Загрымеў пярун над грэбляю,
у ракітах, над вадой.
А мы ўсё ідзём са стрэльбамі
пераможнаю хадой.

Нашы зоры ясна свецяцца,
цераз хмары зіхацяць.
Не ад сонца, не ад месяца —
іх праменне ад жыцця.

Навальніца плача стомлена,
сціхнуць, змоўкнуць галасы.
Нас вітаюць ветлым гоманам
прыдарожныя лясы...

*1922*

## НЕ ЖАЛЬБУЮ ПРА МІНУЛЫ ЧАС Я

Не жальбую пра мінулы час я,
адкаснецца ад мяне сумота.
Пашукаю і знайду акрасу,
што да новых прывядзе узлётаў.

Цераз гаці, цераз сенажаці,
дзе і багна, дзе і квет нямала,—
яна будзе песняй разлівацца,
абы струн хапала мне трывалых.

З-пад лясоў высокіх і шумлівых,
каля хмар суворых і пахмурных,—
разліюцца хваляй пералівы,
абы толькі вытрывалі струны.

Радасць дасць для сэрца асалоду,
дасць у тыя песні-пералівы.
Ці крыніца выбілася з лёду,
ці пяе пра шчасце нешчаслівы?..

*1922*

# КАМСАМОЛКА ГАННА

## 1

І верас ля лесу асыпаў красу,
і папараць адзелянела.
У полі, на лядах узносіўся сум,
радзілася песня нясмела.

Ляцелі далёка тады жураўы,
курлыкалі скаргаю ціхай.
І скарга злятала да самай травы,
казала аб неякім ліху.

А песня расла, калыхала прасцяг,
трывогаю сэрца кранала.
І чулі, як хмары трывожна шасцяць,
бы хвалі на згруджаных скалах.

І чулі, як вецер на гвалт зазваніў,
браждажаў ува ўсе аканіцы.
Гарэла каліна ў сцюдзёным агні,
лісцё пачало мітусіцца.

А песня расла, сітавала душу,
ляцела ў вяршаліны сосен.
Да шчасця гукала: прыйдзі, я прашу,
няўжо мы цябе не дапросім?

А клён галаву нахіліў і застыў
і плакаў слязой нечаканай.
У змроку здаваліся з клёну лісты
вялізманым войскам кажанным.

2

А можа яна, калыханка лясоў,
навеяла сон і на вёску?
У кожную хату ён ціха прыйшоў,
ля весніц пакінуўшы лёскат...

Як хутка мінае рабочая ноч,
здаецца — чуць вочы прыплюснуў,
а раніца стукае зноў у акно
і ціхенька шэпча, праз вусны:
«Суседзі твае паўставалі даўно,
а ты яшчэ... Ах ты, распусны!..»

3

Звычайная вёска стаяла,
а ў вёсцы — звычайная хата,
якіх і на свеце нямала,
і на Беларусі багата.

Стаяла на ўзгорку ці ў доле —
вось гэта, бадай, абыяка.

Вядома адно, што ніколі
не мела багацця адзнаку.

А шчасце, калі і трапляла,—
дык ледзьве трымаеш рукою.
А гора, калі прыступала,—
гарою вялікай затое.

Слізне яно, шчасце, праз пальцы:
ды дзе ж яна, тая драбніца?
А гора — яму заставацца,
аж покуль і крыж не сатліцца.

У Ганны быў некалі тата,
зусім нават тата нядрэнны.
Паслалі яго на Карпаты,
бо там ён быў вельмі патрэбны...

Пасля — у атаку, вядома,
паслалі яго без патронаў:
па шчасце высокаму дому,
па славу для царскага трону.

Вядомкі няма, ці адзначыў
маленькі хоць крыжык магілу,
якая без жалю, без плачу
глынула забітую сілу.

Затое прыслалі да хаты
за татаву храбрасць «Георгій»:
кавалачак срэбра за тату,
на памяць і для дапамогі...

Не плач, гарацешная маці,
адкуль жа іх, слёз, і набрацца?
Расце дапамога у хаце,
пакуль жа — не будзеш без працы...

І год праміну ў, і чатыры,
натугі — хапіла б на сорак.
Сыны падраслі — і у вырай:
табе, мама, ўвесь панадворак...

4

Устала матуля, варожыць
і лічыць дзянёчкі на пальцах.
З часінай зімовай, варожай,
ці здолее ў хаце змагацца?

Не хопіць ці хлеба, ці бульбы? —
Дарма! Дадасі яшчэ бобу.
Ды вось: на палёх жаўтагрудых
імгліцца з заходу жалоба.

Паны падыходзяць вайною.
І звод жа на іх не прыходзіць!
«Ганулька, дачушка, з табою
і нам сцерагчыся не шкодзіць!»

Страляюць паны камунараў,
страляюць паны камсамольцаў,
як з градам насланая хмара —
рабуюць, дратуюць бясконца...

5

У Ганны ды сінія вочы,
у Ганны ды русыя косы.
Асенні туман іх намочыць
і зложыць, як пасмы на кроснах.

Яловец за босыя ногі
ласкоча і ў вочы ёй лезе...
Ды клопату ў гэтым не многа:
расла на вядомай вынезе...

Расла, як трыпутнік на сцежцы,
на бацькаўшчыне сіратою.
Праходзяць, а след застаецца,
і жоўкне трыпутнік затое.

Нямнога яшчэ перажыта:
няхай не галосіць жалейка.
Аўсы кучаравыя, жыта
вітаюць пяшчотныя вейкі...

6

Паны падышлі запалёна,
мяцеліцай віўся пясок.
Да хмар слупавалі праклёны,
і рос ля акопа акоп.

Галовы галоце крышылі,
як пранікі лён на таку.
Такая ўжо, мусіць, прычына:
склікалі ваўкі талаку.

Заенчыў і вецер хаўтурна,
скудлаціў дзяўчат валасы.
На іх, на жалобных на струнах,
туга пачала галасіць.

Не глянуць узрочыста вочы
на родны прастор, небасхіл.
І смех жартаўлівы дзявочы
і думкі жандар загасіў.

Расла, вырастала трывога:
вясной не расце так трава.
Імкненні завіслі на вольхах,
імкненні ляглі далавах...

7

На лазні хавалася Ганна
у пакуллі розным, у мяллі.
А ў сэрцы дзявочым схавана
так многа апрыкрага жалю...

Гануля збіраецца ўпрочкі,
туды, да сяброў на падмогу.
Як толькі апусціцца ночка —
ў дарогу, ў дарогу, ў дарогу...

8

Азёры журбы напіліся,
салёнаю стала вада.
«— Казала я ў песнях калісьці,
што долю сваю не аддам...

Змагаюцца нашы з панамі
за вёскі і за гарады.
І я за сваімі братамі,
і я за тваімі сынамі
пайду, каб пазбыцца бяды...»

Дачка адыходзіла цвёрда,
аднойчы зірнула назад.
І быццам праз нейкае бёрда
вілася ў паветры каса...

9

Маці, маці! Ды колькі ж разоў
палыном твае вусны абносіць?
Адпусціла ты ў свет сыноў,
дык няхай бы на гэтым і досыць...

Не! — Цяпер узнялася дачка,
а такой жа была слухмянай...
І калі ж іх назад прычакаць? —
Абняло цябе зноў палынамі...

10

Камсамольцы ішлі у войска,
захіналі Айчыну сабой.
Каб і гораду, каб і вёскам
забяспечыць жыццё і спакой.

І да іх далучылася Ганна,
па дарозе пайшла баявой.

Адагналі далёка пана,
супакой стаў над роднай зямлёй.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прыгадаюцца Вільня, Варшава...
І багата, багата баёў...
І згадае пра тых, хто славу
для радзімы шукаў і знайшоў...

11

Працуе цяпер у друкарні,
на курсы увечары ходзіць.
Прымусу не чуе над каркам:
было ў дзевятнаццатым годзе.

Забыцца не можа пра тое,
як матчыны косці крышылі.
Гамоніць жыццё маладое:
«Не схілім юнацкае шыі!»

Часінаю ўспомніцца вёска:
лісты на аселіцы вянуць...
З асенняга жоўтага воску
салома на хатах драўляных...

Сакоча з вярбінай бяроза,
старыя ўжо, мусіць, таксама...
Над сцежкай іступлівай, роснай
усімі гамоняць лісткамі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І пройдуць яшчэ не аднойчы
хвіліны, часіны, гадочкі.
І новыя з'явяцца вочы,
і новыя з'явяцца дочкі...

Каб мелі шчаслівую долю,
каб гора не знялі ніколі!

*1923*

## АСЕННІ НАСТРОЙ

1

Журавінамі плача восень,
апавіўся тугою абшар.
Я не ведаю, можа здалося,—
надзвычайна баліць душа.

Апавіўся тугою абшар,
а верасень сэрца нявечыць.
Надзвычайна баліць душа,
быццам ціснe цяжар адвечны.

А верасень сэрца калечыць
пальцамі жоўтых кляновых лістоў.
Той цяжар непазбыўны адвечны
галаву схіляе на дол.

2

Ой туга! Хай ляціць з журавамі,
хай на ніцыя лозы туга ляціць.

Нас жыццё віратлівае вабіць
і спяваць будзе з намі ў трысці.

Хай на міцыя лозы туга ляціць,
доля наша павінна быць з намі.
І спяваць будзе з намі ў трысці
між сцюдзёна-ліловых туманаў.

Наша доля павінна быць з намі,
бо дагэтуль яе не было.
Між сцюдзёна-ліловых туманаў
апране нас сваім крылом.

3

Каля возера, пушчы з'імшалай
я на пасту калісьці ганяў.
Мне здавалася: жоўкне памалу
і засохне прыбалотны хмызняк.

Я на пасту калісьці ганяў,
дзераза пасцілалася ў ногі.
...І засохне прыбалотны хмызняк,
калі песня журбы не прагоніць...

Дзераза пасцілалася ў ногі,
вецер сыпаў лістоту далоў.
Калі песня журбы не прагоніць,
яе не адкіне далонь!

*1923*

## Я ШКАДУЮ УСЁ Ж ТКІ СЯБЕ

Я шкадую усё ж ткі сябе,
і мне сорамна сэрца ганіць.
Але ж праўду кажу цяпер:
я не верыў, што ёсць каханне.

Чуў заўсёды, што гэта жарт,
ад такіх жа ці крыху мудрэйшых,—
а калі запалае ў душы пажар,
трэба песняй гасіць або вершам.

І спяваў, браце ж мой! — пра вятры
і пра ўсе сенажатныя кветкі,
аж пакуль у жыццёвым віры
не спаткаў сінявокай суседкі.

Ведаў сам, што ратунак благі,
што загіну я, мабыць, сягоння.
Не чакаў, што вачэй блакіт
можа быць для мяне прадоннем.

Не чакаў, што кужэльная каса
абвівае залатым павуцiннем.
А цяперака, што б нi казаў,—
але песнi складаю дзяўчыне.

Бо прыгожай такой, як яна,—
яшчэ ў свеце не бачылi, мусiць.
Калi ў свеце яна не адна,—
дык напэўна адна ў Беларусi.

— Ты скажы, што на свеце адна,
хiба цуглi зрабiў хто для сэрца?
А яна?.. А яна?.. А яна?..
Яна цiхенька толькi смяецца!

Я шкадую, шкадую сябе,
i мне сорамна сэрца ганiць.
Але ж праўду кажу цяпер:
я пазнаў, што бывае каханне.

*1923*

## ХАДЗІЛІ, ТАВАРЫШ, З ТАБОЙ МЫ

Хадзілі, таварыш, з табой мы хадзілі
ў паходы за ўладу Саветаў.
Мы новую праўду тады станавілі
Айчыне сваёй і сусвету.

Чырвоныя зоркі зіхцелі яскрава,
шляхі асвятлялі і ўночы.
У бойку за нашу агульную справу
ішоў селянін і рабочы.

Адборнае белагвардзейскае войска
мы білі, крышылі і гналі,—
за нашы заводы і шэрыя вёскі,
за кожную родную цалю.

Знаходзілі кулі варожую сілу
у пушчах спрадвечных, у полі.
І кожная куля за нас гаварыла:
— Рабамі не будзем ніколі!

Разбілі, скрышылі дашчэнту, дазвання
варожую сілу тады мы.
Тады пачалося жыцця красаванне
ў прасторах любімай радзімы.

*1924*

# СТУДЭНТ

## І

Самы просты, звычайны пачатак:
нарадзіўся адзін чалавек.
Першым поп за яго ўзяў падатак,
мазануў алеем па галаве.

Запісаў у метрычныя кнігі,
а ў святцах імя знайшоў.
Без вялікай, казаўшы, фатыгі
у жыццё чалавек і прыйшоў.

Паляжаў у калысцы, ў пялёнках,
а падрос — і работу знайшлі:
за каровамі бег уздагонку,
кукай груддзе крышыў на раллі...

А затым — вясковая школа,
жыць пачаў звычайным жыццём,
пра якое простае кажа слова:
на кані быў і пад канём...

Не аднойчы хадзіў і да пана:
зарабіць на уборы траяк.—
На вячоркі прыйсці абшарпаным
ні адзін не захоча юнак...

Бацька сыну нічым не паможа:
трэці год ён сябруе з вайной.
Ён далёка ваюе, а можа
і з зямлёй пасябруе сырой...

Сын гаворыць сваёй матулі:
«А ці прыйдзе да нас такі дзень,
каб пра шчасце хоць раз мы пачулі,
ці яго і няма анідзе?»

2

Да паўстання!
Кастрычнік — зарніцай
палыхнуў занядбаным усім.
Што людзям не магло і прысніцца,—
ён прынёс на штандары сваім.

Як на моры сінім хвалі,
скалыхнуўся вялікі час.
Жыццё нанова кавалі,
нараджаліся людзі — яшчэ раз.

Не купаў іх поп у купелі
і не мазаў алеем галоў...
Апраналіся людзі ў шынелі,
бралі стрэльбы — знішчаць паноў...

І юнак з баявой трохлінейкай
перайшоў не маленькі прастор.
Ён пачаў свой паход ад Вілейкі,
а дайшоў да карэльскіх азёр...

Не пытаў, хто там больш вінаваты,
хто падпанкі у іх, хто паны,—
біў без промаху ўсіх іх, праклятых,
бо нядолю тварылі — яны...

Нам прынесла вайна перамогу.
Ды юнак не паехаў дамоў,
а знайшоў нечакана дарогу,
пра якую не сніў нават сноў.

Хіба можа такое прысніцца
там, дзе лёс вырашаў снарад?
Па навуку з'явіўся ў сталіцу
чырвонаармеец-салдат.

Ён пачаў ад азоў навуку...
А упартасці — не пазычаць:
і ёй праклалі мазольныя рукі
цераз багны адвечныя гаць.

Дзесь матуля чакае старая,
што з паходу вернецца сын.
На шляхі кожны дзень пазірае,
шчасце матчына ў ім, адным...

Перакроілі войны ўсе карты,
залягла паміж імі мяжа...

«Прыйдзе, пэўна, сыночак мой заўтра»...
А ў самой —
і вусны дрыжаць...

3

Днём — вагоны згружае, грузіць...
Хто з нас справы такой не ведаў?
Вечар — ён у рабочым вузе
мужным крокам ідзе да ведаў.

Не клялі мы цяжкога часу,
а змагаліся з ім аддана.
Скажам проста: упарта трымаўся
той, хто добра быў гартаваны.

Быў шынель нам і за адзежу,
а ўначы ён служыў за коўдру.
Мешкавіны кавалак адрэжаш —
вось і шалік на шыю добры.

У сталоўцы меню не шукалі,
а шукалі свабоднага месца.
І ўявіце сабе — не схуднялі,
[redacted] працы добрай — так добра ўсё есца...

Памаленьку, як людзі кажуць,
перайшоў сын шырокае поле.
Калі ўсё сваёй думкай узважыць,
дык і ў казцы не знойдзеш такое.

Без рамантыкі, прыкрай і лішняй,
і зусім непатрэбнай хвальботы

адзначаем — батрак калішні
і навуку любіў і работу.

Не схаваеш жыццёвае праўды:
забягаў да зямлячак у госці.
Хоць і вір на дарозе устаў бы,
а каханне свой мосцік намосціць...

Пасля ўсіх і турбот, і бяссоння,
тых пагрузак усіх і разгрузак,
дзень адзін і прыходзіцца помніць —
развітальны з сябрамі па вузу.

Перабытага шкода часу,
а наперадзе — толькі золак.
Вось чаму ён здэтанаваўся,
быў вясёлы і быў невясёлы...

Браў дыплом не аднойчы у рукі
з абшарпанага чамадана...
Згадваў ён і пачатак навукі,
і жыццё паднявольнае ў пана:

за двузлотку хадзіў на работу,
не з вялікага ж пэўна багацця,
каб дастаць хоць якога корту,
каб і соль не звялася у хаце...

Гэта ж ён пытаўся ў матулі:
«А ці прыйдзе да нас такі дзень,
каб пра шчасце хоць раз мы пачулі,
ці яго і няма анідзе?»

Ды прыйшло яно яснай зарніцай,
палыхнула занядбаным усім:
што людзям не магло і прысніцца,—
ўсё Кастрычнік прынёс
на штандары сваім.

Ліст прыйшоў да матулі ў вёску
ад адзінага любага сына.
І зняпраўдзілася пагалоска,
што нібыта ён недзе загінуў...

Непісьменная маці трымала
ліст у хаце сваёй сірочай...
І слязьмі яго аблівала,
цалавала яго не аднойчы...

Ён пісаў пра свае падзеі,
пра сваё вялікае шчасце.
Ён пісаў пра свае надзеі,
што загінуць усе напасці.

«Мама, мама!
Матуля мая ты!
Шлю табе сваё прывітанне!
Дачакаемся светлай мы раты!
Будзе ў нас з табою спатканне!..»

Ёй чытала той ліст суседка,
маці ведала ліст на памяць...
«А нядаўна ж мы з ім пад паветкай
малацілі гарох цапамі...

Сын мой любы! Якая радасць,
хоць адным бы пабачыць вокам...
Кожны дзень цябе буду згадваць,
прыляці да мяне, мой сокал!»

5

Інжынер-маставік, як належыць...
Прыйдзе час, мост намосцім усе,
праз які, скасаваўшы межы,
і на захад Кастрычнік свой сцяг пранясе.

Не адзін быў і ў школе вялікай,
трэці раз нарадзіўся на свет,—
сотняй зваць яго, тысячай клікаць,
міліёны ідуць услед.

*1924*

## ПАЧАЛОСЯ З-ПАД ХМАР ВАНДРОЎНЫХ

Пачалося з-пад хмар вандроўных,
калі сонца закрылася змрокам.
Вечар, плашч свой узняўшы чароўны,
атуліў ім прастор шырокі.

І замоўклі дразды над балотам,
сівагракі у пушчы замоўклі.
Паплылі туману палотны,
развіваючы цьмяныя столкі.

Праляцелі вятры па-над нівай,
вышывалі расою сцяжынкі.
Выхадзілі, істужкай цвятлівай,
маладзіцы, дзяўчаты з дажынкаў.

Ад усходу да сіняга змроку
за сярпом яны беглі гарбатым.
І кашулі ад поту іх моклі,
напякло на іржышчы ім пяты...

Ідучы заспявалі пра жыта,
васільковыя, сінія вочы,
што ніколі не будуць забыты
ані ў песні, ні сэрцам дзявочым...

Утапілася ў Прыпяці стома
ад вялікае крыўды і жалю,
што яе называлі знаёмай
толькі там, дзе шнуры дажыналі...

Пачалася ад сцежачкі песня,
пабыла і на небе высокім,
верасы зварухнула на ўзлессі,
ўсіх жывых зварухнула навокал...

Праляцелі вятры над далінай,
праляцелі вятры праз сасоннік.
Серп гарбаты на хмары ускінуць,
хай ускінуць яго сягоння.

Людзі скажуць, што серп — гэта месяц,
што зубілі яго каля зорак.
На яго з зямлі засмяецца
электрычная жнейка скора...

Пачалося з-пад хмар вандроўных,
каля неба было не аднойчы...
Вечар плашч свой згубіў чароўны,
бо заслухаўся песень дзявочых...

*1924*

# НАВАТ МОРА ЗМЯНІЛА СВОЙ КОЛЕР

*На магіле Максіма Багдановіча*

Нават мора змяніла свой колер:
стала не сінім, шэрым.
Пырскі салёныя носіць наўколле,
з іх жалоба снуе свой вэлюм.

Плача сэрца, сціскаюцца грудзі,
дзесь празрыста цыкады свіргочуць.
Над табою — сцюдзёнае груддзе,
хараства больш не бачаць вочы...

Там, у доле, крыжы, мінарэты,
несціханы горада рокат.
Па табе, дарагі наш паэта,
жаль над імі праходзіць далёка...

Навакола карункі з камення,
ў іх зацёрты ўсе любыя рысы.
Свечы зялёныя высока праменяць,
людзі кажуць, што гэта кіпарысы...

Вецер сумна імчыцца кудысьці,
на пяску свае скаргі друкуе.
Ты не знойдзеш, жалоба, выйсця,
нават песню пачуўшы другую.

Ці на полі цябе пакіну,
ці пасею цябе на скалах,—
узысці ты ізноў павінна,
бо самота цябе гадавала.

На магіле не ляжаш ты крыжам,
а ў труну угрызешся цвікамі.
І тады, у пырніку рыжым,
над табою паўстане камень.

Плач жа, сэрца, сціскайцеся, грудзі,
не зязюля — цыкады свіргочуць.
Над табою — сцюдзёнае груддзе,
хараства больш не бачаць вочы...

*1924*

## ЗМРОК ІМКЛІВІЎ

Змрок імклівіў наўсцяж даліны,
цені слаліся — біліся долу.
Спахмурнелі сінія вочы дзяўчыніны,
пазіраюць на свет невясёла.

Заспявай, можа песня паможа,
засталіся ж адны успаміны.
А затое, што там, адвячоркам прыгожым,
ты спявала калісьці каліну.

Заспявай, хоць жалоба і туліцца шчыльна,
бо не будзе спагады на слёзы.
Звее вецер той смутак нішчымны,
як увосень лісты з-пад бярозы.

Ён атуліць цябе супакоем,
пошчак змоўкне, пазбудзешся жалю.
Будуць сінія вочы затое
зноў узрочыстай казкай крышталіць...

*1924*

# ТЫ РУКУ СВАЮ ЗАБІНТАВАЛА...

Ты руку сваю забінтавала,
маладая... Як цябе і клікаць?
Маё сэрца рвецца на кавалкі,
спавіваецца тугой вялікай.

Вусны пацалую шчыра, моцна,
прытуліся... Не асудзяць людзі!
Быў на вуснах палыновы воцат,—
дык няхай і слодыч там пабудзе...

Я цябе спагадай не пакрыўдзіў,
бо і сам спагады не шукаю.
Добра ведаю: часіна прыйдзе,—
будзеш ты інакшая, другая...

Усміхнешся іншаю усмешкай
і другія сапічыкнеш ты кветкі.
Але ўсё ж і ты згадаеш сцежку,
што для нас з табой была за сведку...

Найглыбейшую зацягне рану,
знойдзе і рука твая ратунак.
А вось я, калі ж я перастану
шкадаваць не вартую шкадункаў?

Ты руку сваю забінтавала,
чым я раны сэрца забінтую?
Чаму ж ты пра гэта не сказала
ў развітальную хвіліну тую?..

*1924*

## НАФАРБАВАЛА НАВОШТА ВУСНЫ

Нафарбавала навошта вусны
і начапіла з пудры маску?
Быццам воўк на снягу — завалюся,
буду зубамі з роспачы ляскаць.

Што мне гаворыць твая гітара,
словы чужыя песні дзікай?
Буду, як вецер з варот Байдарскіх,
водары, песні наскія клікаць.

Раскалыхайся, сіняе мора,
распарасонься, вада-ваданіца!
Можа мне снішся і ты, і горад,
сніцца аднойчы — прыгожа сніцца!

...Гэта дзяўчына зусім чужая,
а я — таксама не свой дзяўчыне.
Рукі заломіць, паўзе вужакай,
быццам з марскога дна багавінне...

Дык прытулі мужыцкага сына,
дык ашчапер, каб грудзі смылелі.
Шэнціла ж косы табе рассыпаць
чорна-сіняй, не наскай кудзелі!..

Раскалыхалася мора ў запале,
пенаю плача, іглініць пыркі.
І напілася салёнаю злосцю
наша варта — шых кіпарысаў.

Нафарбавала навошта вусны
і начапіла з пудры маску?
Лістом кляновым на жвір пакачуся,
а ты даланямі з радасці ляскай...

*1924*

## НЕ ДЗІВІСЯ

Не дзівіся: ніколі на свеце
без змагання жыццё не дынаміць.
Што такога! — і зоры свецяць,
і зямля, як была, пад нагамі...

Вавілон, Егіпет, Фінікія
ці не дыхалі тым самым паветрам?
Бамбукі і лотасы ў гімнах маўклівых...
Мы ў сасонніку ці пад паветкай.

І адвечная казка сціскала
мільённыя грудзі народаў.
Хваля мкнецца імпэтна на скалы
і назад адыходзіць заўсёды.

Не дзівіся: жыццё ў змаганні,
дык змаганне вітай істотай!
Асалоды не возьмуць, не зганяць:
хай сляды твае зайздрасцю точаць.

Прыспусціся ў даліну [redacted] узвышша,
каб узняцца ізноў, і — вышай!
Гэта лёс на спатканне выйшаў
і пярэстасцю сцежку нам вышыў.

Хай спружыняцца мускулаў пасмы,
апранаецца зірк твой сталлю.
Не спыняй свайго лёту бясчасна:
яшчэ ногі ў шляхах не прысталі!

*1925*

* * *

У прасцягах празрыста-нязнаных
Думка імклівіць несупынны лёт.
Святкую дубэльты сваіх выгнанняў,
як зялёнае свята штогодзіць народ.

Помню і помніць буду да жвіру
словы і спевы, дзе слоў не было.
Сенажаці зорак маўклівых
турбавала на хвалях вясло.

Соўкала човен нямое прадонне,
месяц і сонца цвятлівілі шлях.
Дарагое і апрыкрае сягоння,
будзеш і ты ляжаць далавах!

Заўтрашняе чую, істотай вітаю,
кленчу на дзіды, растайны пыл.
Вясна мая, жыццём маладая,
табе я не здрадзіў, з табою быў!

*1925*

## ШУКАННЕ СЛОВА

Ці знайду шурпавата-звычайныя словы,
летуценні заістужыць шлях ці знайду?
Аб подыху жывіцы сасновай,
а таксама хварэе чым дуб?

Мае ногі спляліся з пяском бадзячым,
мае рукі карэннем у жвір і глей.
Ноч вераснёвую чым аддзячыць,
што спрыяла здранцвеласцю млець?

То-бо-то нурцуюць вочы ў прасторах
неабсяжных, непралётных, як лёс.
Дый навошта пытацца, які і каторы,
калі сіньшы за неба ад соку лён?

Разліюся струною дажджоў даўгазвонных
і прыкленчу едлянцовым куп'ём.
Я не хочу ніякіх нялюдскіх прыгонаў,
прадвясеннюю смагу ў вянок завіём.

Хай малодзіва сэрца не будзе гімнам,
імклівасць узмоцніць прасячнасць вясны.
Босая, занядбаная зрэб'ем дзяўчына,
ніц пасцілаюся лістамі дрэў лясных.

. . . . . . . . . . . . . . .

Твае косы, як сцежкі, ідуць што поплеч,
калі сіня-ліловы туман заквактаў.
На лілею асмужыўся шызы попел,
ці смагласць ірдзеніць затым на руках?

Нырцаваў я на дно, хадзіўшы на Нарач,
даставаў багавінне з марской глыбіні.
Толькі дрвівасць, невыразная мара
непрадонныя цяплівіць зірку агні.

Пурпуровай расою убралі каліну
і з шэрані восень карункі завіла...

*1925*

## О БЕЛАРУСЬ, МАЯ ШЫПШЫНА

О Беларусь, мая шыпшына,
зялёны ліст, чырвоны цвет!
У ветры дзікім не загінеш,
чарнобылем не зарасцеш.

Пялёсткамі тваімі стану,
на дзіды сэрца накалю.
Тваіх вачэй, пад колер сталі,
праменне яснае люблю.

Ніколі пройме з дзікім ветрам
не развіваць дзявочых кос.
Імкнешся да Камуны Свету,
каб радасць красавала скрозь.

Варожасць шляху не зачыніць:
у перашкодах дух расце.
О Беларусь, мая шыпшына,
зялёны ліст, чырвоны цвет!

*1925*

## ЖЫХАРЫ

Перамагаючы гора, — ён рос.
Так і набыў размашыстасць у працы.
Што перашкоды і што там лёс:
з гэткаю сілай —
з чортам у загрудкі брацца.

Выйдзе ў поле — аж крэкча плуг,
выйдзе з касою — гудзяць сенажаці.
Камень нагой разатрэ на жарству:
толькі б стаць добра,
толькі б упяцца.

Гэтая сіла — збудуе свет,
новы свет — права рукі мазольнай.
Песня узносіць:
хай жыве
сталёвая працоўная воля!

*1925*

## А ТЫ, СІРАЦІНА, ЖЫВІ

... А ты, сіраціна, жыві...
*Я. Купала*

А ты, сіраціна, жыві,—
хоць думкі ўсялякія зводзяць.
Тугу-безнадзейку — у вір,
каб кроплі не стала ў заводзе.

Імкніся наперад — угрунь,
ніколі не гніся ў нядолі.
Вітай, што над краем, зару
з-пад цьмянасці золкай і золі.

*1925*

## ШТО СКЛАДАЦЬ ПРА КАХАННЕ ВЕРШЫ

Што складаць пра каханне вершы?
Што з таго, што адным прыбудзе?
Хіба нам на свеце першым
май хвалюе і сэрца і грудзі?

Май прыдумаў такое спатканне,
распусціў, раскруціў твае косы.
Ён з усмешкай вясёлай і гляне,
як жаданне яго збылося.

Глянь і ты непрагляднасцю дзіўнай,
што цямней глыбіні азёрнай.
Ты была для мяне адзінай,
я табе быў ва ўсім пакорны.

Мы з табой летуценні снавалі,
завівалі ў вянкі летуценні.
Цёмна-сінія морскія хвалі
у салёнай купалі нас пене.

І ў шатрах тваіх продкаў былі мы,
каля пальм абышлі не аднойчы.
На узорных сядзелі кілімах,
песні слухалі долі дзявочай...

Караваны ішлі у пустыні,
ў караванах званочкі званілі.
Век у памяці нашай не згіне
летуценняя маёвага крылле...

Прыйдуць зноў, як на нашым заранку,
задушэўнага голасу гукі:
— Іх гей аройс афн ганэкул
ды штэтэлэ бакукун...

Прыйдуць зноў, як на нашым заранку,
у нябыце ніколі не спрахнуць:
— Іх гей аройс афн ганэкул
ды штэтэлэ батрахтн...

Што складаць пра каханне вершы?
Што з таго, што адным прыбудзе?
Калі май называеш ты першым,—
і без песні яго не забудзеш.

*1925*

# НАД ШЛЯХАМ — ПЫЛ

Над шляхам — пыл, цярушыцца на вочы,
а коні мкнуцца, не спыняюць крок.
Чагосьці лепшага істота хоча,
а лепшае — мяздрою пад карой.

Зялёныя бярозавыя сцены,
над імі вежы — волаты-дубы.
Імкнёмся мы, імкнуцца нашы сцені,
пытаецца душа:
— Куды? Куды?

Няхай і пыл цярушыцца над намі,
не спыніць ён упартую хаду.
Нас перашкоды цягам спатыкалі,
шляхі да мэты, як вялі, вядуць!

*1925*



Мой любы браце, блізкі і далёкі,
няма сталёвасці і арфазвоннасці.
Такая сцюжа на душы, навокал,
як дзень з дажджамі, быццам сённяшні.

Ці ж я не ведаю, ці я не знаю,
ці я не сын сваёй сучаснасці,—
жыццё крынічыць і музыкі граюць,
на лад папасці ўсё не шчасціцца.

Часінай — весела, часінай — сумна,
ідуць шляхі — ў балотах трацяцца.
А недзе злоснікі бразгочуць бубнамі...
Даруй, даруй, мой любы браце, мне...

*1925*

# ПАЛЬЦЫ ЖОЎТЫХ КЛЯНОВЫХ ЛІСТОЎ

Пальцы жоўтых кляновых лістоў
мкнуцца восень схапіць за шыю.
Не парушаць яе хараство,
не парушаць лісты залатыя.

Клён у вокны забразгатаў,
адгукнулася ка́няю рэха.
Месяц рваў арэхі з куста,
раскідаў над сусветам арэхі.

Яны ў воўне блакітнай ляглі,
сумавала ў даліне ляшчына.
Летуценні не змерклі ў галлі,
летуценняў згасіць немагчыма.

Расцярушацца ў далі і ўвысь,
каб нагадваць аб светлым над чорным.
Ці таму, што сумуюць журавы,
ненасытна свіргочуць жорны?..

Ліставея не моўкне, шуміць
ад вясны да вясны на прасторах.
Поверх стрэх і муроў камяніц
я пабачыў яе учора...

Дзесь далёка галосіць сава,
небакрай апрануўся жалем.
Людзі любяць душу прасаваць,
калі гэта душа чужая.

*1925*

## ОЙ! ДЫ ЯК ЖА ЗАГАРЭЛАСЯ НЕБА

Ой! Ды як жа загарэлася неба,
ды расхадзіліся хмары, жах!
Каму ж гэта,
ды што ж гэта трэба?
А зоры над хатай, над жорсткаю глебай,
а зоры ляглі далавах.

Калі ж гэта я выйшаў рана-рана,
калі зоры на пацеркі ўздзеў,
дык тады адусюль:
і з брамы, і з-пад брамы,
дзе толькі ні кіну-гляну,—
і людзей і не людзей.

Адзін кажа: «Чаго ты тут ходзіш навокал?»,
другі кажа: «Ты наша забраў!»
Трэці кажа:
«Прыйшоў ты з далёку,
мы зачынім і дзверы і вокны!»
І адзін толькі:
«Дзень добры, брат!»

Ой! Ды як жа загарэлася неба,
ды расхадзіліся хмары, жах!
Ды што ж гэта,
ды каму ж гэта трэба?
А зоры над хатай, над жорсткаю глебай,
а іх — спавівае краса...

*1925*



Цаля за цаляй і хваля за хваляй
мы адыходзім, імкнёмся наперад.
Хто б ён ні быў, а галоў нам не схіліць.
Вось ужо ў гэта — дык моцна я веру!

Любы мой браце! Не мы — дык другія,
справа жывая не можа памерці.
Можам і не расцвёўшы загінуць,
але не здрадзім ні думцы, ні сэрцу.

*1925*



Часіна ды з сокам рабіны,
качаеш мяне ў чарнобыллі.
На дзіды, на вострыя шыпшыннік
ці сэрца, ці дух мой узбілі.

Калышуцца скаргі і моўкнуць,
разносяцца разам пялёсткі.
Не хоча Уладзімір Дубоўка
спяваць пад зазубраны лёскат.

Пачаў — хай канчаюць другія,
шляхі — адшукаю сабе я.
Загіну — няхай і загіну,
мне гімнамі будуць завеі.

*1925*

## ПАЛЯЖАМ МЫ

Паляжам мы, і вецер нашы косці
паточыць, пылам над лясамі разнясе.
А ўсё ж ткі мы шукаем прыгажосці,
штодзённа кленчым мы сваёй красе.

Яны ў гаях, крыніцах гаманлівых,
у шуме-гомане лясных азёр,
у моры збожжа на палетках-нівах;
красой уквечаны увесь прастор...

Іграй, іграй, мой дружа цымбалісты,
каб дні вясны маёй са струн зляталі.
Ішлі яны пад вэлюмам імглістым
і гінулі ў жыцці, як хвалі ў хвалях.

Не шкадаваў, не скардзіўся нікому,
хоць часам дух звіваўся ў немы лямант,
а свет увесь, нязнаны і знаёмы,
мне выдаваўся нейкай чорнай плямай.

Іграй, іграй, каб струны галасілі
і захліпаліся, як я сягоння.
Загіну з гукамі ў тумане сінім,
а не схілю ні галаву, ні скроні.

Аддам усё за гукі шчырай песні,
якая прыйдзе ў барваванні новым.
Ад Віленскіх азёр да сумнага Палесся
яе сустрэнем задушэўным словам.

*1925*



Вы мелодый не слухаеце,
а я — прыкладаю вуха да долу:
Надазер'я, над лугам
вясна завілася столкамі.

Лясы і бярозы ніцыя
туманамі набраклі вохкімі.
Вецер з ліловымі спіцамі
у галлі над амшарай вохкае.

Каўнер адшпіляю шырока,
каб паветра цалавала грудзі.
Незвычайны, патаемны рокат
сенажаці думак запрудзіў.

Як сказаць, як знайсці такое
слова, каб было яно кволае?
Не катуе, але ўсё ж ткі коліць
і ногі быццам у волаве...

*1925*



Прабаваў запаліць папяросу,
каб забыцца аб стройным стане.
Тыя цудоўна-русыя косы
ў сінім дыме ніяк не растануць...

Так, здаецца, абняў бы аберуч
і жыццё, і лясы, і дзяўчыну.
Вобраз мілы страямі уберадь,
бо у сэрцы нітуецца шчыльна.

*1925*

## ВЫЙДУ, ВЫЙДУ, ДЗЕ ГОРАДА ГРУКАТ

Выйду, выйду, дзе горада грукат,
дзе афішы у фарбах яскравых.
Не сашчэпяцца вуліцай рукі,
як увосень золкасцю травы.

Мільгане зірк у вочы сінія,
каб усмешкаю вусны торгаць.
Паглядзець я люблю і на Сільву,
але іншая наша дарога.

Больш чаруе мяне твая постаць,
паўкажушак, хусцінка чырвоная.
Галаву трымаеш так проста
і сама сабой задаволена.

Сябраваў я таксама і з сокалам,
у юнацтве знаёміўся [illegible] кельняй.
Не глядзеў на работу збоку я —
сам з вялікім рабіў здавальненнем.

Пахадзіў я ў спяцоўцы нямала
каля вапны і алебастра.
Вось чаму ты мяне зацікавіла,
а не тым, што завуць цябе майстрам.

Ты раскажаш пра ўсё на свеце,
і пра тое, што заўтра, на ранні,
будзеш зноў, хоць у дождж ці вецер,
на сваім стаяць рыштаванні.

Заспяваеш без слоў мелодыю
і мяне згадаеш ты гукамі.
Я з вялікай прыму асалодаю
твой напеў,— праляціць ён над грукатам...

*1925*

## ДЗІВАВАЎСЯ І ТАК КАХАЎ

Дзіваваўся і так кахаў,—
наглядзецца не мог калісьці.
Зубцамі чорных валос —
галава
васільком здавалася шалясцістым...

Час імклівіў кудысьці, грунём,
а і мы не схілялі калені.
Супакой пагублялі, як восенню клён
лісцё на ўзвей вокамгненняў.

Задзівіла, дзяўчынка мая...
Дзе і што? Ці імпэт пахавала?
Сэрца стыне, на вуснах: «Ай-я!..»
А дакоры маўклівыя валам.

Прысягаліся або, можа, так?
Абяцалі узвышша, поплеч?
Што пытаць! Чый пульс не сакатаў?
Што згарае — пакіне попел.

І цяпер вось — усмешкі няма...
І вочы — бліснуць і згаснуць...
І пялёсткі наземіць мак,
бо і ён перажыў сваё шчасце...

*1925*

* * *

Узвіліся страі высока.
Ну, а далі? — Вохкія сцежкі.
Напілася каліна сокам.
Ну, а далі? — Сэрца цешыць.

Прыплюснула вейкі млосна.
Ну, а далі? — Жывём аднойчы.
Прастор у тумане росным.
Ну, а далі? — Купіны змочыць.

Пашчапаліся вусны ад смагі.
Ну, а далі? — Крыніца плюскочыць.
Пасплятаціся пахі пад пахі.
Ну, а далі? — І вочы на вочы.

Разлілася знямога і слодыч.
Ну, а далі? — Жыццё маладое!
Пад нагамі багна і слота,
дык вясна у істоце затое.

Узвіліся страі высока.
Ну, а далі? — Вохкія сцежкі.
Налілася каліна сокам.
Ну, а далі? — Сэрца цешыць.

*1925*



...І гінулі яны за косы Клеапатры,
за вочы тыя, што не сняцца нават.
Да ног прыносілі, —
а неслі ўпарта, —
жыццё, свой лёс і славу...

...І гінулі яны у хваляванні лавы,
якую слаў, радзіў Везувій.
Апошні раз на мармуровых лавах
лавілі вуснаў лоскат, цень надзеі.
Затым з Пампеяй казкаю заснулі...

...І гінулі яны штодзённа і штогодна,
за ласкі шчырыя, хвілінныя, за ласкі...
Дарма, што з блудніцай нягоднай,
дарма, што многакраць, не першы.
І так ад Рыму да Аляскі...

*1925*

## КАРМАЗЫНАМ АСМУЖАНЫ

Ведаеш добра: ты вельмі прыгожая,
вусны твае кармазынам асмужаны.
Вочы ненацкам жыццё устрывожылі
і агарнулі сукрыстасцю кужалю.

Чуў ды не верыў — спатканне на ростані.
Што ж, будзе сумная песня, мінорная.
Наша каханне звычайнае, простае,—
хоць незвычайнай тугой і агорнута.

Лёс табе даў пекнату чараўнічую,
дасць ён, напэўна, і шчасце вялікае.
Шчыра жадаю — не быць табе знічкаю,
каб і ўспамін да сябе ты не клікала...

Хвалямі ў хвалях, пакуль не загінулі,
сэрца твайго каб шкадункі не ўразілі...
Можа і мы на акрайках дэльфінавых,
быццам хлапчук Рафаэльвай фантазіі...

*1925*

## ПЕСНЯ, ЎШЧУНЬ!

Край не знаў наш песень чыстага мажору:
поруч з весялосцю смутак і туга.
Гэтыя палеткі, гэтыя разоры:
нельга... льга...

Чуў я навальніцы, чуў і пушчы гоман,
і азёр, і мора гоманы я чуў.
Жалю, крыўды нейкай так было ў іх многа...
Песня, ўшчунь!

А яна ліецца ды праз сенажаці
і з дзявочых вуснаў і з цымбальных струн.
У шчамлёткі сэрца пачало сціскацца
не ў пару...

Хай міноры песень сэрца болем пояць:
смутак родзіць радасць, родзіць весялосць.
Пунсавеюць хмары над радзімым полем...
Шчасце ёсць!

*1925*



Машына напорна па бруку, ўсё далей.
Сабака застаўся з нагой паламанай.
І з лямантам нёмым у сінія далі
надрыўная боль залунала.

Дзяўчынка спяшалася, крок прыпыніла
і кінула чорную лусту-скарынку.
Пакуту чужую ўшчувала маўкліва
сардэчная тая дзяўчынка...

І вось мільганулі дзве жоўтыя морды,
той хлеб адкаціўся далёка, далёка.
Калецтва забыта... А бой будзе цвёрды:
і зубы на зубы, і вока на вока...

*1925*



Навала мінула, навала далёка,
у сонца праменні ўвесь грукат загінуў.
Вяршаліна дуба схілілася толькі,
са жвірам цалуецца, то — успаміны...

Як белыя косці, наўсцяж астрыжонкі
ў карунках зялёных — туга ў футарале.
І страціцца ўся зеляніна, пажоўкне,
галосяць бязгучныя соку крышталі.

А ліпы красуюць і з верасу водар,
расою крышталіць кілім аксамітны.
Дубы маладыя з бярозамі воддаль
вясноваю смагай суздром апавіты...

*1925*

## І БЫЛО УВОСЕНЬ...

І было увосень, калі стрыглі поле
і на полі слалі дываны з лістоў.
Зашчымела сэрца ў нечуваным болю:
вельмі многа крыўды,
вельмі мала слоў.

І было увосень... Я сказаў аднойчы:
больш не дакрануцца пальцы мае струн.
І пайду да мэты, сцяўшы зубы, моўчкі,
і назад не гляну,
як калісьці Ван Чжао-цзюнь.

І было увосень... Я сказаў на ростань:
тое, што звінела, больш няма таго.
І апошняй песні завілася постаць:
жыватворчы праглынуў агонь.

*1925*

* * *

Не кажу — запявайце, цымбалы,
не кажу — струна да струны.
Нам нямала жыццё наіграла,
дык няхай спачываюць яны.

Разліваецца смага па жылах,
як пялёсткі ў павевах вятроў.
Мне калісьці цыганка варажыла,
што загубіць мяне — мая кроў.

Хай мяне, а нікога іншага,
хай мяне, а нікога больш.
Вось не ведаю нічога сіньшага,
чым вочы дзявочыя і — боль.

І нічога не ведаю больш белага,
чым ростань нечаканая і снег.
А сняжынкі ўсё лётаюць-бегаюць,
і здаецца, што гэта ўва сне.

Ой, браточкі мае, таварышы,
ды чаму ж гэта ў радасці сум?
Нечакана возьмеш — завалішся...
Столькі песень я ў сэрцы нясу!

Вось каб так праспяваць іх, як думаю,
вось каб так, як кладуцца яны...
Аплывае крыніца шумаю,
ці адкінуць яе далані?

Але ж песня ты, песня... Ой, песня!
Ты пакрышыш наносную твань!
Калі кажа паэт, што прадвесня,—
дык пачне зелянець трава!

Не кажу — запявайце, цымбалы,
не кажу — струна да струны.
Калі іх не парвала навала,—
будуць вечна іграць нам яны!

*1925*

## ПАЛЫНЫ ПАСІВЕЛІ НА ЎЗГОРКУ

Палыны пасівелі на ўзгорку,
запрыгоршчыць і кіне іх вецер.
Мо таму так на свеце горка,
мо таму часам горка на свеце?

Калі глянуць на тыя даліны,
калі глянуць на тыя далочкі,—
толькі ліст адвіхнуўся з каліны,
а яго ўжо у гліну топчуць.

А ў каліне, ў шыпшынніку дзікім
начавалі і сонца і росы.
А ў пялёстках — без меры, без ліку —
з сокам шчасце суздром разлілося.

Адцвітае, усё адцвітае —
і гады, і хвіліны, і кветкі.
Маладосць ты мая залатая,
і цябе панясе так па ветру.

Разлiешся пялёсткамi песень
ад мяне ды на тыя далiны.
Там i скруцiць iх вецер у дэсань,
бо да зор ад зямлi не дакiне.

Толькi знаю i веру цвёрда,
як у долю краiны роднай,—
маiх думак не кiне ў бёрда,
не затчэ утокам нягодным.

Вось затым дарую i крыўду,—
што мiнула i што надыдзе.
Калi сэрца каханнем спавiта,—
дык не будзе ў iм месца крыўдзе.

Палыны пасiвелi на ўзгорку,
а ў далiнах — пялёсткi ад кветак.
Iх калыша з вясёлай гаворкай,
гаркату вытрасае з iх ветрык...

*1925*

## ХАЙ ЗВОНЯЦЬ ШКЛЯНКАМІ

Хай звоняць шклянкамі, ты не зважай!
У іх душа — на дробныя каваλкі.
Даволі сэрца я ўжо наважаў,
калі жыццё — дык поўнай чаркай!

Спявай... А спеў — «Яшчэ, яшчэ!»
Чаго яшчэ? А можа шчасця?!
Забраў яго там неякі Кашчэй,
пакінуў смутак між людзей бадзяцца.

Дык трасца з ім!
Прыдумаем яго!
Тады —
прыемна будзе жыць на свеце...
Калі гарыць ва мне агонь,
дык па-над сцежкаю засвеціць!

І ціха так, і ціха так зусім...
Чутно:
на дах бразгочыць дождж сцюдзёны.
Калі дагэтуль ён не загасіў,
дык не загасіць пал мой і сягоння.

Спявай, цыганка любая, затым,
што навяваеш вобраз Інду, мора.
Такі нязвыклы гэты твой матыў,
такі нязвыклы: добры і нядобры.

У нас...
Ты ведаеш? —
Адна туга!
Як заспяваюць дзе пры сенажаці,—
здаецца — конь не ўстоіць на нагах,
здаецца — сына пахавала маці.

А ўсё ж ткі я люблю такую рэч:
праўдзіва і жыццёва.
Калі туга — дык у тузе гарэць,
пакуль не ляжа радасць у аснову.

А калі хто не каштаваў тугі,
адкуль ён смак пазнае ў весялосці?
. . . . . . . . . . . . . . .
Ці многа нас, як я з табой, такіх,—
шукаем, не згубіўшы, ўсё чагосьці?!

*1925*

## ЗАЦВІТАЙ, ЗАРА, НА НЕБАСХІЛЕ

Зацвітай, зара, на небасхіле,
заранiца, закрасуй ты ружай!
Што на свеце роўнага па сіле
знойдзецца да шчырай дружбы?

Злосць людскую скнара хай збірае,
абыходзім подласць мы здалёку.
А вось радасць, што цвіце над краем,
у юнацкіх сэрцах не замоўкне.

Яна з воч свіціцца светла-сініх,
яна з воч свіціцца васільковых,
і ў вачах не згасне, не застыне,
адгукнецца ў задушэўных словах.

Зацвітай, зара, ў ліловых сценях —
пунсавеюць і яны паволі.
Калі сёння думкі ў летуценнях, —
не загаснуць у жыцці ніколі.

Закрасуй ты кветкай, заранiца,
над прасторам родным з небасхiла,
каб краса, ў пялёстках што iльснiцца,
нас праменнем ясным азарыла.

Маладосцi сiла залатая
з заранiцаю красуе ружай.
Сэрцам шчырым мы яе вiтаем,
мы яе з табой i любiм, дружа.

*1926*

## ДУМКІ ЛЯТУЦЬ

Думкі лятуць, як дэпешы без адраса,
можа ад смутку, а можа ад радасці.

З тым размінуцца, а з тым прывітаюцца,
ці гэта вечар, ці можа і раніца?

Словамі яснымі, словамі сціплымі
так пакрысе сваю моладасць выпяю.

Усё адцвітае, таксама і моладасць,
вось і трывога з'яўляецца ў голасе.

Цешуся толькі, што марна не згіну я,
проста і чэсна іду пуцявінаю.

З братам — па-братняму, з ворагам — варожа.
Любы мой дружа! — заўсёды так хораша.

Праца — працую з імклівай напорнасцю;
думка у дзеях да светлага горнецца.

Ляманты вецер узніме над сцежкаю
і рассыпаецца долу усмешкамі...

Перамаглі яго песню і збочылі
незабываныя песні дзявочыя...

Можа не так? — Але ж сэрца адчынена
так і маё, як і сэрца дзяўчыніна!

Словамі сціплымі, яснымі словамі
я і ўшаную жыццёвае полымя.

Думкі лятуць, як дэпешы без адраса,
многа ў іх смутку, а больш яшчэ радасці...

*1926*

* * *

Ведаю, што і я памру, як і ўсе,
што па смерці нічога не будзе трэба.
Тым мацней люблю ўвесь шырокі свет
і гэта — пярэстае збольшага — неба.

Перачуць усю боль і ўсю слодыч жыцця,
акунуцца ў прадонне жыцця з галавою.
Перадлухаць, як хвалі ў вятрах шалясцяць,—
гэта шчасце! Хай скажуць — малое...

Перайначыць, спыніць можа сілы няма,
а плысці супроць плыні магчыма.
На шляху калі хто і залом заламаў,—
падарожжа не зменіць, не спыніць.

Церушыцеся шаты лісцём залатым,
вы красою праменілі гордай.
Чаравалі мяне (мо затым, не затым?)
ціхіх шэптаў акорды, акорды...

*1926*

## ЦІ СНЕГ, ЦІ ЗАВЕЯ

Ці снег, ці завея,
ці золкі туман.
Таго не жалею,
таго, што няма.

Гады маладыя,
юнацкая кроў!
Агонь гіне дымам,
не прыйдзе ізноў.

Дык, арфы і цытры,—
гучней і гучней!
Хай вашыя рытмы
абудзяць людзей.

У вочах узрочных
фіялкі з расой.
Нашто укарочваць
спатканні з красой.

Мінула — надыдзе,
надыдзе — міне.
Ніколі не скрыўдзіць
прыгожы нас дзень.

Раз келіх наліты,—
жыццё — не віно,—
пакуль не дапіты,
не ўбачыш ты дно.

Ці снег, ці завея,
ці золкі туман.
Таго не жалею,
чаго не стрымаць.

*1926*



Завіліся струны,
струны дзіка звоняць,
навальніца грае:
зацвіцеў мінор.

Ночка-начаніца
прымружыла скроні,
і галосіць пушча
смуткам у прастор.

У імкненні вечным,
у імкненні чыстым
я іду наперад,
мабыць, не адзін.

Мэта свеціць зоркай,
зоркай прамяністай.
Дык чаму ж пад змрокам
стужкі пуцявін?

Я іду праз пушчу,
я іду праз вецер,
навальніца плача,
пошчак не заціх.

Па-над маёй сцежкай
той агонь засвеціць,
што у маім сэрцы
і ў вачах маіх.

Папараць спялася
з верасам пад ногі,
распасцерла ніцам
досткі-далані.

Навальніца вокал
рассявае скогат,
утапіла зоры
ў пацерках суніц.

Я збяру суніцы,
я збяру жаданні:
запалю іх песняй
ці згару і сам.

Лепш пагібель вомірг
для красы Світання,
чым на сініх вочах
вечная раса.

*1926*

## ЗУБЦАМІ ЧОРНЫХ, СТРЫЖАНЫХ ВАЛОС

Зубцамі чорных, стрыжаных валос
ты мне нагадвала валошку ў жыце.
Балюча мне было, да горкіх слёз,
кахаць і памыліцца.

Да горкіх слёз балюча мне было,
мая зямлячка ты, мая Маруся.
Цяпер — адкрасавала, адцвіло,
ў жалобу не ўбяруся...

Адкрасавала, адцвіло цяпер,
і нават смутак прападае, гіне...
Яшчэ успомню, любую, цябе
ў апошнюю хвіліну...

Цябе успомню, любую, яшчэ,
як ты нагадвала валошку ў жыце.
А можа стане мне тады лягчэй,—
з такога надужыцця...

*1926*

## ЦЯГНІК СПЯШАЎСЯ

Цягнік спяшаўся, сакатаў маркотна,
цягнік сумленна мераў кіламетры.
На ўзгорку, бачылі усе праз вокны,
каліна красавала белым цветам.

Наводля дзеўчына ў кужэльных шатах
маю дарогу шчасцем вышыць выйшла.
І пад шатром, зялёным і бахматым,
застыла ў млявасці на ўзвышшы.

І хараство істоту агарнула,
каліна белая... нявеста маладая...
Праз вокамгненне з гоманам і гулам
далечыня ад воч яе схавала...

І скардзіцца няма каму, ды дзе там:
цягнік імкнуўся ў небасхіл, у далі.
Каліна красавала белым цветам,
пялёсткі следам ціха абляталі...

*1926*

## КАЛІ ВУСНЫ ШАПТАЛІ — НЕ ТРЭБА...

Калі вусны шапталі — не трэба! —
дык у вочах свіцілася — любы, імкніся...
І у вочах было вечна палкае мора і неба:
у нязмерных глыбінях нязмерныя высі.

А калі пасплятаціся сцені,
зоры ў небе і моры вянком завіліся.
Над зямлёю тады летуценні жылі ў летуценнях:
у нязмерных глыбінях нязмерныя высі.

І ў той час, што не знае падобных,
ў захапленні і месяц на хмарах спыніўся.
Векавечныя тайны ў адзін зніталіся подых:
у нязмерных глыбінях нязмерныя высі.

А калі рассыпаліся зоры,
што звіваліся ў небе і моры калісьці,
даляведныя вочы праменілі шчасце і гордасць:
у нязмерных глыбінях нязмерныя высі.

*1926*



Мы усе у большасці ранеты.
Песняй шлях —
надоўга хіба вытчаш?
Закрасуе ў Камуне Свету
песня хіміі каталітычнай.

Нашы крозы,
гімны краявідам
і часінай
дробныя сусцігі —

ці раўня з якім
цыанамідам
будуць там,
дзе плуг заменяць тыглі?

Засмяюцца людзі у наступным:
— Ну і ну!
Стваралі песні продкі!

Аб адным цяпер я і шкадую,
што жыццё каротка,
так каротка!..

Хто тады
пра смутак наш успомніць?
Пра мінор мінулы
і сучасны?

Што тады
якісьці наш сасоннік
і слязьмі крынічаныя пасмы?

А нашчадкі
будуць ведаць многа —
і не сніцца большасці
пра тое.

Нашы
абыдзённыя трывогі
будуць ім,
як выкапкі кратовы.

Стануць людзі будучыні
цвёрда
і на блізкіх зорах,
і на дальніх.

Капельмайстра
будучыні гордай
прывітае іх
мажорам трыумфальным.

Гэным рытмам,
гэным сугалоссям
ці зайздросціць нам,
ці памаліцца?

У інфузорнай плаваючы злосці,
дзе хто
душы ложыць на паліцы.

Многа песень
сумных і шчаслівых
мы ў сваім не чуем падарожжы,
а далёкіх песень пераліВы
нас сваёй нязвычнасцю трывожаць.

Горнемся мы ўсе
да блізкай мэты,
песняй шлях —
надоўга хіба вытчаш?
А напэўна будзе у Камуне Свету
песня хіміі каталітычнай.

*1926*

## ТЫ НАПОРНА ІДЗЕШ, МАЛАДАЯ

Ты напорна ідзеш, маладая,
да вядомага ўпартай хадою.
Табе песні, сястрыца, складаю,
заварожаны доляй такою.

Па-над сцежкаю месяц устане
і раскіне вяночкамі зоры.
У бязмежным сваім акіяне
свой ліхтар ён засвеціць нам скора.

Калі лёс нам кладзе перашкоды,
мы іх знішчым дашчэнту, у корань.
Найвялікшая ў тым асалода:
тады дух твой са светам гаворыць.

Калі сцежка травой зарастае
ці на сцежцы ламачча, карэнне,
о, дзяўчына! — не будзе адчаю, —
мы на лепшае сцежку павернем.

Думкай яснай злятаю у высі,
месяцовых вяночкаў дастану.
Бо яны для цябе завіліся
і табе яны будуць, каханай.

*1926*

## ЛЕТУЦЕННЕМ ПРОЙДЗЕМ МЫ НАД КРАЕМ

Летуценнем пройдзем мы над краем
і загінем, быццам летуценне.
Для айчыны шчасце мы ствараем —
для свайго і новых пакаленняў.

З сэрцам чыстым і душой адкрытай,
услаўляючы каханне, дружбу,
пройдзем мы на працу і на бітву
крокам несупынным, крокам мужным.

Разам з моцнымі у думцы смелай
пракладаем шлях такі трывалы,
каб яго парушыць не пасмела
самая зацятая навала.

У змаганні многа нас загіне,
у змаганні за Камуну Свету.
Загалосіць вецер пры даліне,
месяц будзе пагладаць, як сведка.

А пакуль у жылах кроў іграе,
славім і каханне мы, і дружбу.
Летуценнем пройдзем мы над краем,
крокам несупынным, крокам мужным...

*1926*



Я на ўзгорак выходжу круты,
я выходжу Сусвет прывітаць.
Шалясцяць у даліне лісты,
над узгоркам вятры шалясцяць.

У празрыстасці краю няма,
ў супакою трывогі не чуць.
Хоць на месцы істота мая,
мае думкі далёка лятуць.

Не спыніць іх зайздроснай рукой,
не сурочыць іх вокам благім.
Гнёмся мы пад цяжарам вякоў,
покуль самі не ляжам пад ім.

Хто развеецца пылам на тло,
хто адродзіцца ў дзеях ізноў.
А такое ж навокал святло,
хараство — от як быццам вясной.

Моцным подыхам, воляй жыцця
узварушана сёння зямля.
І цярушацца думкі наўсцяж,
як зярняты у глебу, маўляў.

Я стаю на узгорку крутым,
я на стромкім узгорку стаю.
Шалясцяць у даліне лісты,
дапяваюць там песню маю.

*1926*



Залатымі лёсткамі
зазванілі ключыкі:
кволыя жалейкі
з лютнямі іграюць.

Знікла тая прыкрая,
прыкрасцю балючая,
а цяпер — другая.

Даўкасць вадаровая
агартае столкамі,
смага нікне ў понырах
неадшкадавана.

Ціхая й шумлівая,
палкая і волкая
ў засціле туману.

Думкі а пачуцці,
любыя атожылкі,
падстрыгаць не буду вас,
падстрыгуць другія...

Гойкнуў-крыкнуў радасна —
паляцелі водзыўкі
ды цераз даліны.

Свет такі далёкі,
ах! ды як жа блізка ён! —
Чую — уздрыгаюцца
грудзі яго ў звівах...

Першыя зарніцы
ласкай шчырай бліскаюць,
першым — віват!

Залатымі лёсткамі
звоняць, звоняць ключыкі:
кволыя жалейкі
з лютнямі іграюць.

Адышлі кудысьці ўдаль
прыкрасці балючыя,
асалода пеніцца над берагамі...

*1927*



Вядзі мяне, як і вяло ты, сэрца,
на ясны шлях з табой мы узышлі.
Няхай краса любімае зямлі
у задушэўнай песні адгукнецца.

Я [illegible] кожным днём раблюся больш цвярозым,
хоць з большай смагай чару п'ю жыцця.
Мінаюць дні і крыллем шалясцяць,
кладуць адбіткі на дасціпны розум.

Пульсуе кроў мая спрадвечнаю крыніцай...
То не мая, то пакаленняў кроў!
Яны жылі і будуць жыць ізноў,
крылаты час над імі будзе віцца...

Схіляюся і слухаю пакорна,
маўклівасць слухаю і гэты шум.
Цяжар вялікі я ў сабе нашу,
[illegible] ён жа меншы быў, цяжар, учора...

У ім ляжаць здабыткі нашых продкаў,
ляжаць лятункі-мроі ўсе мае,
ляжыць усё, што нам жыццё дае
за век вялікі і такі кароткі...

Урэшце прыйдзе вокамгненне хіжа,
затуліць вочы, вушы мае, рот,
а вечнасці няўмольнае пяро
апошні верш мой на зямлі напіша...

І прыйдуць новыя на свет наш пакаленні,
якія будуць жыць у харастве Камун.
Жыццё аддам я харастеў таму,
найдаражэйшаму дам летуценню.

Бо там, за горамі гадоў, падзеі,
якія ўзмоцніць праца нашых рук.
За іх — усе цяжары падыму,
за іх і супраць розных ліхадзеяў.

Наколькі хопіць сілы ў мяне, змогі,
наколькі хопіць дзён жыцця майго, —
мы пойдзем хваляй, палкай, як агонь,
ад перамогі і да перамогі.

А ты вядзі мяне, маё ты сэрца,
на ясны шлях з табой мы узышлі.
Няхай краса любімае зямлі
у задушэўнай песні адгукнецца.

*1927*



Васількі збіралі, васількі
а у жыце спелым, ля ракі.

Васількі зайстужыла ў вянок,
любая — аджа ж даўно...

Красаваў вяночак і засох,
на пяску пялёсткі каля ног.

На пяску пялёсткі ад жыцця
шастаюць, шапочуць, шалясцяць...

Спахмурнелі вочы, смех замоўк,
ці мо твае вусны сцяў замок?

У люстэрку дзён дзесь погляд твой,
смех у пошчак стаўся над ракой...

І кусаеш вусны... Васількі
красавалі ў жыце ля ракі...

*1927*

## І ЧАМУ ГЛЯДЗІШ ТАК

І чаму глядзіш так:
з ласкай падазронай,
і чаму у думках:
той ён ці не той?

Гэтае спатканне
хіба падарунак?
Ты пра тую прошласць
не пытай...

Калі хочаш слухаць,
я адно згадаю:
дзяцельнік ля лесу,
пурпуры рабін.

Сцені набягалі
лёгкаю хадою.
Прабягалі — быццам
спуджаны табун...

Ты была другая.
Я — такі, як сёння.
Што ж: была і песня,
быў і звонкі смех.

І прайшло без следу,
знікла ўсё дазвання,
нават адгалосак
пралунаў і сціх.

Да зямлі я кленчу
перад успамінам:
хараства былога
не натрапіць зноў.

Сёння ты стаіш,
нібыта за туманам,—
я такой не ведаў,
я такой не знаў...

Не глядзі так даўка:
з ласкай падазронай.
Не адкажа думка:
той ён ці не той.

Гэтае спатканне
нам не падарунак —
ты мяне не катуй,
прошласць не пытай.

*1927*

* * *

Мінае дзень,
знікае за адхонам.
Як прачытаны ліст,
мінулы дзень...

І толькі сцень ліста,
і толькі сцень
паўстане часам
постаццю знаёмай...

Паглянеш-глянеш ты
на гэну постаць:
памылкі, спрэчкі,
радасць ды туга.

А недзе думка
ў памяці лягла:
— Навошта ты нагадваеш,
навошта?

Жыццё ідзе
у зменнасці нязменнай,
навокал розныя
кладзе сляды.

А мы, як беларускай казкі сын,
вагу людскога вока
ўпарта
мерым.

І самі ўсе,
і свет увесь таксама
у гэтым воку
і на той вазе.

Спрадвечным словам кажам:
— Балазе!
Яго узважылі
ля мора,
за лясамі...

Ізноў у памяці
паўсталі сцені...
Як прачытаны ліст,
мінае дзень...

Калі на постаць
зноў я паглядзеў:
на ёй уссыпана
пясочку жменя...

*1927*

## ПРЫМРУЖЫЛА БРОВЫ

Прымружыла бровы, упартыя бровы.
У чорныя зрэнкі ўтапіла спачуцце.
І твар, як ніколі, нібы мармуровы...
І хто ж гэта кінуў:
— Забудзьце?

А я, супакойны балючым спакоем,
гляджу на цябе і так шчыра дзіўлюся:
ці гэта яно, наша шчасце, такое?
А вусны... Не здрогнуць яны, мае вусны.

Мы пойдзем... На розныя сцежкі мы пойдзем.
Пасля,— ты успомні на гэтыя словы,—
хвілінаю сумнай, як страшаны злодзей,
за згадкай пра сёння не раз сябе зловім.

І ты пашкадуеш, і я пашкадую,
і скажам нячутна:
— Былі мы... як дзеці...
А можа і добра: часіну такую
прыемную бачылі ўсё ж ткі на свеце...

*1927*

## ШУМІЦЬ ШЫГАЛЛЁМ І ЛІСТАМІ

Шуміць шыгаллём і лістамі
адвечная пушча, не моўкне.
Адны шапацець перасталі,
другія ўзрастаюць на ўзгорках.

Ні вецер бадзяжны не зможа,
не скрышыць навала ніколі.
Адновіцца зноў-ткі прыгожасць,
не лесам — дык вораным полем.

Забраць можна ўсё ад зямелькі,—
зямлю ад зямлі не забераць.
Вясною пасыпяць амелькі
насенне для новае эры.

Шумі шыгаллём і лістамі,
адвечная пушча, не моўкні!
Адны шалясцець перастануць,
другія ўзрастуць над узгоркам.

*1927*

# ПРАМЕРЫЦЬ ГОНІ ШМАТ РАЗОЎ АРАТЫ

Прамерыць гоні шмат разоў араты,
пакуль даручыць зерне пухкай глебе,
не раз вачыма павартуе ў небе
спарнейшай хмары для засмаглай шаты.

Загон у часе добрым будзе зжаты,
ў тарпу не трапіць зелле-непатрэб'е.
Спажытак, схованы жыццём у хлебе,
дадуць табе цудоўныя зярняты.

Кіруючыся вечнаю умовай,
і ты, паэт, працуй уважна з мовай:
рыхтуй упарта грунт і працавіта.

Бо закрасуе скарбам неўміручым,
адвечнай працы хараством спавіта,
калі ад слова шумавінне злушчым.

*1927*

# ДА ДЗЕСЯТАЙ ГАДАВІНЫ КАСТРЫЧНІКА

У гэты урачысты дзень,
вітаць які мы шчыра мусім,
аж пошчак з водгукаў ідзе
паўз любай нашай Беларусі.

Праз доўгі час за годам год
нас вёў да новых дасягненняў.
І гэта ўсё праз дзесяць год
здаецца толькі вокамгненнем.

Замест пажарышч і руін,
якія ў спадчыну мы ўзялі,
паўсталі рэйкі каляін
і гуты новыя паўсталі.

Растуць заводы, гарады,
надзея наша — без трывогі.
Праз незлічоныя сляды
раўнейшай робіцца дарога.

Калі паэт спяваў раней:
«Загляне сонца уваконца»,
«І будзе школа для дзяцей»,
«І будзе ў торбе талаконца»,—

дык зараз песняй не абняць
усю сучасную асвету,
і нельга ў песні ўсё сказаць
пра школы і ўніверсітэты.

І нельга ў песні ўсё сказаць
пра цуды калектыўнай волі,
якімі будзем адзначаць
мы паляпшэнне нашай долі.

Магчыма, здарыцца не раз
наперадзе бяда якая,
але хто ў прошлым не заграз,
таго й наступнасць не злякае.

Часіна горкая міне,
ўсе перашкоды зможа праца,
і песня ў нашай старане
ў страях святочных будзе слацца.

Бо вось і ў гэты ясны дзень,
які мы шчыра ўсе вітаем,
да шчасця нас усіх вядзеш,
Айчына наша дарагая!

*1927*

## ЯКОЕ ШЧАСЦЕ СПАТЫКАЦЬ УСХОД

*ДА X КАСТРЫЧНІКА*

Якое шчасце спатыкаць усход,
якое шчасце бачыць сонца захад!
І творчай працы радасны узлёт
упарта мкліўіць праз сягоння ў заўтра.

Краіны росквіт просіць моцных рук,
мінулае пахована сучасным.
Як морскі вецер, пераможны рух
разгортваецца ў далягдядзе ясным.

Наперад непакорны мкнецца дух,
за дасягнёнай мэтай сочыць новай.
А нашу несупынную хаду
натхняюць ленінскія словы.

Далёкія і блізкія гады!
Вы сэрцу любы будзеце заўсёды!
Яшчэ шчыльней злучалі мы рады,
калі знішчаць хадзілі перашкоды.

Нягоды толькі узмацнялі нас,
скрышылі мы нягоды ўсе дазвання.
А перамогі незабыўны час
Айчыне даў цудоўнае світанне.

Яна згадае пра сыноў сваіх,
якія не дайшлі да яснай мэты.
Агорне прамяністасцю усіх
і ушануе эпітафам светлым:

— На Беларусі ён не марна жыў.
Ён працаваў сумленна і няспынна.
Тугой затым ён сэрца надужыў,
што доўг не ўвесь адбыў сваёй Айчыне.

*1927*

## НА РОДНЫХ ПРАСТОРАХ

У даліны звіваецца змрок,
па снягу пакаціліся пасмы.
Пазлацістай убраны зарой
небакрай усміхаецца ясны.

З небакраю істужкі ляглі
на вяршаліны стромкага бору.
Срэбра снегу ільсніцца ў галлі,
срэбра зімнага, чыстага ўбору.

Цішыня... цішыня... цішыня...
Быццам сон з гэтай сцюжай сябруе.
Капыты толькі ў звеях звіняць,
шарахціць над аглоблямі збруя.

А ўначы галасілі вятры,
абрывалі ў мяцеліцы крылле.
Бор стагнаў у павевах стары,
ды ваўкі за амшарою вылі.

Па-над шляхам спляліся сукі,
у бахматым убранні сцюдзёным.
Надзвычайным здаецца такім
гэты лес, харараством атулёны.

Калі глянеш ты раптам услед,
уцякаюць зялёныя хвоі.
І шумяць мнагатонна ўсе
з непазбыўным сваім непакоем...

Ягад зімных вяночкі з рабін
пунсавеюць на фоне срабрыстым.
Ці сумысля іх тут хто завіў,
ці рассыпала восень маністы?

Дрэвы нікнуць, сплываюць назад,
усміхаюцца ветліва вёскі.
Між бярозавых даўніх прысад —
шыза-сіняга дыму палоскі.

Так знаёма усё наваколл,
быццам быў тут нядаўна, учора.
А здаецца, не выстарчыць слоў,
каб сказаць пра знаёмае добра.

Слоў такіх і на свеце няма:
толькі сэрцам адчуеш ты шчырым.
А калі ў тваім сэрцы зіма,
палятуць ад цябе яны ў вырай...

Карагод непазбыўных часін,
хараство тваё сэрцам вітаю!

Як лісцё ці з бяроз, ці з асін,
дні адзін за адным адлятаюць...

У паветры зімовым лягла
надзвычайная нейкая сіла.
Можа, сілаю гэтай імгла
наваколле усё напаіла.

І такая надзея ў грудзях,
і такая бадзёрасць і слодыч!
Не навечна снягі на палях,
а рака — пад скляпеннямі лёду.

Распрастайцеся, плечы мае!
Яшчэ толькі жыццё пачалося!
Падарожнаму вецер пяе
з палазамі у тон сугалоссі.

Адпачынку пара не прыйшла,
ў снег сцюдзёны турботы ўсе высып.
У бясконцасці трацінца шлях,
пры шляху незлічоныя выспы.

Пазнаюць тут і радасць і сум,
за свет цэлы хварэе хто-небудзь.
Набываюць і трацяць красу
на спажытак і глебе і небу.

Новы дзень нас наперад заве,—
не шкадуй сваіх сіл для айчыны!

Пераможа усё чалавек
пры змаганні упартым, няспынным.

У даліны ссуваецца змрок,
быццам кужалем выслана поле.
Пазлацістай убраны зарой
не зацьміцца штандар наш ніколі.

*1928*



Увосень, кажуць, сумныя ўсё дні,
і млявасці, і летуценняў звівы.
Не грэюць сэрца восені агні,—
люструюцца кволістаю палівай...

Каму што як... А я люблю хаду
пад змроклым, волкасцю цяжкім уборам,
калі бары шасцяць, шумяць, гудуць,
вятры асеннія імкліваць борам.

Здаецца, сіла пырскае з вятроў,
хоць з імі часам сцюжа і трывога.
І супакой адрывісты ізноў
правіс абапал нашае дарогі.

Іду вось я, хоць вецер моцны дзьме,
іглінець пырскі дожджу у аблічча.
І гэта ўсё ахутвае мяне,
да дзейнасці і да упартай кліча.

Мае сябры! З жыццём вітаю вас,
вітаю з харaством зямелькі роднай.
Такі прыгожы незвычайна час
хай гоніць смутак ваш і жаль нягодны.

Адкуль да нас каснуўся гэты сум,
адкуль хвароба панская узята?
Услаўім найвялікшую красу,
якой жыццё айчыны ўсё пранята.

*1928*

## ТВАЕ ВОЧЫ...

Твае вочы не такія,
што не кінуць следу.
Лепш бы глянуў на другія,
каб я гэта ведаў.

Тваё імя не такое,
што забыцца можна.
Адгукаецца вясною
на стакротцы кожнай.

І сама ты не такая,
каб цябе не ўспомніць.
Сэрца ўсё яшчэ чакае,
нават і сягоння...

Маргарытка ты, стакротка,
для цябе — дзве назвы!
Для мяне — адной, кароткай,
не знайшла ні разу...

Я пазнаў цябе, такую,
і пазнаў нядрэнна:
ты сябе, стакротка, чуеш
хрызантэмай, пэўна...

*1928*



У зімовы заснежаны дзень
кветку шчасця дахаты я нёс,
прытуліўшы да самых грудзей,
каб яе не зняверыў мароз.

З зеляніны зіхцяць аганькі,
асвятлілі раптоўна пакой.
І з'явіўся прыемны такі,
сапраўды, як святочны, настрой.

Усміхнулася любая мне:
— Гэта цуд, а не кветак вазон!
Хай нагадваюць нам аб вясне,
напрарочаць прыгожых нам дзён.

Калі вечар са змрокам прыйшоў,
я пачуў ад сяброўкі загад:
— Не ўключай электрычных агнёў,
кветкі свецяць на тысячу ват!

Дарагая! Яны не адны,—
з імі разам надзея зіхціць.
Для цудоўнай такой сябрыні
не патрэбна вальфрамная ніць...

*1928*

## КОЖНЫ ГОЛАС МНЕ КРАНАЕ СЭРЦА

Жыта спее, жыта палавее,
васількі закрасавалі ў жыце.
Што ж ты, вецер, смутку не развееш,
дазваляеш нада мной кружыці?

Пранясі яго над спелым жытам,
пранясі яго над верасамі.
У пясках няхай ляжыць забыты
са сваімі ўсімі галасамі.

Кожны голас мне кранае сэрца
і прыносіць горкія ўспаміны.
Ён і плача, смутак, і смяецца,
быццам сэрцу гаспадар адзіны...

*1928*

# КРЫХУ ВОСЕНІ І ЖМЕНЬКА КЛЯНОВЫХ ЛІСТОЎ[1]

*Вершы з заўвагамі*

---

[1] Нядаўна крытык у мяне пытаў:
— А што вы пішаце цяпер, Дубоўка?
Даўно я вашых вершаў не чытаў,
вію для іх крытычную вяроўку.
Вясною, з той вядомай лабуды,
якую трызніў я на вашы творы,
гарнітур файны справіў, хоць куды,
і з'ездзіў на курорт, не быўшы хворым.
Не шкодзіла б на новы зарабіць...
Дык што вы пішаце цяпер, паэта?
— Цябе такога ў Свіслачы ўтапіць
за лабуду гарнітурную гэту!
Павеся лепш на той вяроўцы сам,
што мне віеш, вяровачных дзел майстар.
Свой твор на бесстаронні суд аддам,
на суд будаўнікоў-энтузіястаў.
Без жаднай крыўды на брыду і злосць *
пытаюся прытым у людцаў мілых:
няўжо і надалей падобны ягамосць
з паэтаў будзе «выганяць ухілы»?!

---

* Цікава Лермантаў пра гэта
пісаў для «выбранага свету»:
«В чернилах ваших, господа,
И жёлчи едкой даже нету,
а просто грязная вода...»

## 1. ЖУРАВЫ КУРЛЫКАЛІ НА ПОЎДЗЕНЬ

Журавы курлыкалі на поўдзень,
даганялі лета пасняхова.
Ну, а мы — куды з табою пойдзем?
Не прыстроіў крылля нам Ягова [1].

За палціну купім два білеты,
кіламетраў дваццаць перакінем.
Нават калі і не знойдзем лета,
свет для нас не выдзюбіцца клінам.

Паглядзім на розныя аздобы,
на лясы у вопратках пярэстых.
І настрой развеецца нядобры,
і туга развеецца дарэшты.

Скажам: ходзіць залатая восень,
не пытае плану і маршруту.
Цьміцца ветразямі неба просінь,
водар з верасу і мяты-руты.

---

[1] «Не ствараў сабе куміра
ні з пагона, ні з мундзіра»,—
гаварыў паэта нейкі
ці са Слуцку, ці з Вілейкі.
Не твару яго з Яговы —
падыходзяць добра словы.
Разумей жа ў тым кірунку,
што зацяжка лётаць шлунку.
Бо, на жаль, не маем крылля
мы з табой, мая Марыля.

## 2. ВЕРАСЫ ЦЯПЕР АДКРАСАВАЛІ

Верасы цяпер адкрасавалі,
у мільёнах кветак верасы.
Пераходзяць, надыходзяць хвалі
невыказнай восеньскай красы.

Назбірай букет з ліловых кветак,
пазлацістым ахіні лісцём.
Гэта будзе згадкаю пра лета,
што пяройдзена тваім жыццём.

Не саромся, прынясі дахаты:
у букеце вывіху няма.
Ўсё падзелена даўно на раты:
неўзабаве выслізне зіма.

Зашуміць у вокны вея злая,
снег шпульне скамечаны ў акно.
Хай на сэрцы радасць заіграе:
будзе сонейка й вясна ізноў.

Паглядзі з усмешкаю на кветы:
сам стварае радасць чалавек.
І зімою павявае лета,
ціха шастае ў сухой траве.

Будуць зноў лясы ў прыгожых шатах,
радасць і бадзёры супакой.
Ты ізноў, мой дружа, ў тую рату
жменьку кветак возьмеш у пакой...

### 3. СПЯВАЙ, МОЙ ДРУГ, ЯШЧЭ, ЯШЧЭ...

Спявай, мой друг, яшчэ, яшчэ,
такую песню слухаць люба.
Развей жалобу ўсю ушчэнт,
з чарцямі хай ідзе да шлюбу! [1]

Пустэльнай вулкі цішыня
ўзвіваецца і дробным шротам.
Не супыніць і не абняць
маёю струджанай істотай.

Надыдзе гэткая пара,
замоўкнуць вусны назаўсёды.
І друг, і горшы супарат,
і шкода будзе, і не шкода...

Захочаш песню завясці —
не ў тыя рукі трапіў, хлопец!
Было датуль цвісці, гусці,
пакуль нябыт у лона хопіць.

---

[1] Усе мы знаем, што чарцей
няма наогул у прыродзе.
І тым не менш — усё часцей
на іх пакуты ўсё узводзім.
Дзівіцца тут няма чаго:
такая мода ў нас прынята.
Калі ступіў не той нагой,
не ты, а нехта вінаваты.
Тым лепш на чорта ўсё валіць:
не адгукнецца ён з балота.
Няхай пакутуе, пішчыць
яго міфічная істота...
Каб не застацца ад людзей,
і я спаслаўся на чарцей.

...І, як ад чорта дзед даўней,
рысую круг я на падлозе:
згінь, думка злая, ад мяне,
пераканайся ў перамозе.

Ды ўсё ідзе, ды ўсё гудзе,
абцасы ляскаюць па бруку.
І не схаваешся нідзе,
пакуль не возьмеш з ёй разлуку...

Спявай пра гэта ўсё яшчэ,
такую песню слухаць люба.
Развей жалобу ўсю ушчэнт,
з чарцямі хай ідзе да шлюбу...

## 4. ІЗНОЎ ШУМЯЦЬ І ШАСТАЮЦЬ КЛЯНОВЫЯ ЛІСТЫ...

Ізноў шумяць і шастаюць кляновыя лісты
над галавою,
далавах.
Павевы невыказнае асенняй пекнаты
прынеслі радасць з непакоем,
у адцвітанні маладое.
Кляновыя лісты ізноў трымаю я ў руках [1].

[1] Калісьці... Так пачаць заўвагу
пра сэнс лістоў кляновых варта.
У гэтым слове браў адвагу
для паступовасці упартай.
Калісьці — слова дарагое!
Як многа згадвае «калісьці»!
Жыццё мінулае, другое,

Прыйшла, аздобіла іх восень.
І лятуць яны:
у прыгажосці прыгажосць.
Маўклівыя і нерухомыя стаяць кляны:
ў сваім жыцці і маладосці
гаспадары яны ці госці? [1]
І мне здаецца, што ўсяго ў лістах па крыху ёсць.

Узвее вецер.
Звее скрозь кляновыя лісты:

---

шуканні сонечнага выйсця...
Лісты кляновыя збіралі
старанна кожны год малыя,
калі пунсовыя каралі
гарэлі ў восені на шыі.
Іх пасцілалі гаспадыні
пад хлеб, саджаючы у печы.
Згадаў я гэныя часіны,
і сэрца ластаўкай трапечыць.
Затым цяпер з такою ласкай
лісты кляновыя трымаю.
Маленства згадваецца казкай
пад грукат шпаркага трамваю.
Лятуць пад ногі пахаджанам
лісты кляновыя увосень.
І, пазлацістасцю убраны,
мне смутак шэлест іх прыносіць.

[1] Без пантэізму гэты вобраз
прыняць належыць, мой чытальнік.
Калі паслухаеце добра,
туга ў акордах развітальных.
І што сказаць павінен аўтар?
Жадаць вам сонечнага заўтра,
без тых акордаў за плячыма?
Усё немагчымае магчыма...

над галавою,
далавах.
Павевы невыказнае асенняй пекнаты
прыносяць радасць з непакоем
і ў адцвітанні
маладое.
Кляновыя лісты
ізноў трымаю я ў руках.

## 5. ЛІСТЫ, ПРЫГОЖЫЯ ЛІСТЫ

Лісты,
прыгожыя лісты
лятуць над галавой.
Які з кляновай пекнаты
цудоўны будзе гной [1].

Набракнуць вільгаццю яны,
спрасуюцца ў пласты.
Маўчаць суворыя кляны,
чаго шкадуеш ты?

---

[1] Ці не пара ужо стварыць
нам таварыства для таго,
каб не раскідаваць дары,
што восень дорыць кожны год?
Прыблізна толькі падлічыць,
якая колькасць тых лістоў!
Зграбсці і крыху памачыць,
з іх будзе найвялікшы толк.
Такі шыкарны перагной,
а прападае задарма...
Лятуць лісты над галавой,
гаспадара на іх няма...

Не трэба, дружа, сумаваць,—
у гэтым прыгажосць.
Натое восень, каб змятаць
усё, што з гніллю ёсць.

*1929*

## НІКОЛІ ПРАЎДА НЕ ЎМІРАЕ

Жыццё закон нязломны мае:
ніколі праўда не ўмірае.

Адно хоць зёрнетка малое
ды застанецца пра былое.

Ні на пяску, ні на каменні
ушчэнт не выпетрэе зерне:

узыдзе, ўсходы будуць з плёнам,
з адзінак вырастуць мільёны...

*1929*



# НА УСХОДЗЕ КРАСУЕ ЗАРА...

*Памяці змагароў, якія загінулі*
*за вызваленне Заходняй Беларусі*

# НАЛЯ

*Мелодыі*

## ПРАМЕННЕМ СПАВІТАЯ РАДАСЦЬ

Імжа,
і склізота,
і прыкрая золь:
нязнанае стала знаёмым.
Квяцістасць,
барвовасць
сцюдзёнай расой
няхай разліюцца
на стромы.

Пурпурнасць
з ліловасцю
вечар саткаў,
размашыста
кінуў Сусвету.
Яе разняслі
ў залатых капытах
над ветлымі хатамі
ветры.

І выплыў над борам
тады маладзік
і стаў
над вяршалінай бору.
Узяўшы з свае
сіня-цьмянай ладдзі,
рассыпаў прыгоршчамі
зоры.

І радасць ад зор
палілася на дол,
праменнем спавітая радасць.
З надхмарнага мора,
з надхмарных садоў
някупленае —
не прадасца...

На хвалях азёрных,
з прадонных глыбінь
агні зіхацелі,
палалі.
Каб гэта бясконца
і жыць, і любіць,
праменнем пярэстым
крышталіць...

Імжа,
і склізота,
і прыкрая золь
у засціле
сцелюцца
чорнай.

Не змыць іх са свету
сцюдзёнай расой,
затым жа так крыўдна
і —
горна...

## АГНІ ГАРАЦЬ, АГНІ ГАРАЦЬ НАД КРАЕМ

Досыць каліне,
досыць маліне
у лузе стаяці.
Тую каліну,
тую маліну
птушкі склявалі.

*Народная песня*

Агні гарацць, агні гарацць над краем,
а дні лятуцць, а дні лятуцць угрунь.
За што, за што нас доля пакарала,
парэзала на часткі дзве зару?

Адна зара, ой зорка-зараніца! —
у літарах БССР цвіце.
Другая ночы, ночы-начаніцы
дапамагае крыллем шалясцецць.

Агні гарацць, гарацць агні, не меркнуцць,
не верне дзён анічыя рука.
Дык мо таму смяецца месяц зверху,
дык мо таму не варта наракацць?

Спружынім мускулы — расце напорнасць,
і размахнёмся — надыходзіць час.
Што будзе заўтра — не было ўчора,
цяжар не вечна будзе на плячах.

І зложыць крылле начаніца сціпла,
жыццё адной заільсніцца зарой.
Або пясок на грудзі нам ууссыпяць,
або да мэты прыйдзем — вось зарок!

Шумі, прасцяг,— у нецвярозым шуме
я нецвярозым такжа стаў даўно.
І кроў мая ў адно з табой пульсуе,
і вусны п'юць спрадвечнасці віно.

Яно з лясоў, яно з глыбінь бяскрайніх —
крыніцай, стромай крышыць берагі.
Пасля — расой звіваецца ў каралі,
звіваецца ў вянкі на дне далін.

На дне далін вянкі цвітуць адвечна,
істоту акрынічылі красой.
І чую — кволасць іх лягла на плечы
і вецер запявае ў верасох:

Досыць крыніцы
ў хвалях бруіцца
пры сенажаці.

Дні зіхацелі
ў сонца-праменні,
ў срэбранай шаце.

Ляцелі нізенька журавы,
зварухнулі голлейка верхавін.

Зварухнулі голлейка верхавін,
рассявалі скаргі ў цвет калін.

Хто іх паберыць,
ды ў гэты вечар,
хто, калі?

Выйдзі на бераг,
стань ля парэчак,
ля калін.

Злятае лісцейка на ваду,
а я ж маё лецейка ці знайду?
Злятае лісцейка ды на мох,
а я ж маё лецейка не ўсцярог.

Досыць крыніцы
ў хвалях бруіцца
пры сенажаці.

Дні зіхацелі
ў сонца-праменні,
ў срэбранай шаце.

Гарацъ агні, агні гараць над краем,
а дні лятуць, а дні лятуць угрунь.
А мо й мяне ты, доля, пакарала,
і я ў мелодыях жыцця згару...

## ВЫХАДЗІЛА ДЗЕЎЧЫНА

Выхадзіла дзеўчына,
выхадзіла раніцай,
выхадзіла дзеўчына
з сінімі вачыма.
Восень ціха шастала,
лета ў грудзі раніла,
сенажаці восень
слязьмі атачыла.
    Не палічыць слёзы
    аніхто на свеце.
    Не ўблагае ніцы лозы
    аніводзін вецер.
Заспявала дзеўчына,
заспявала раніцай,
заспявала дзеўчына
з сінімі вачыма:
«Мяне восень крыўдзіла,
мяне ў сэрца раніла,
сенажаці восень
слязьмі атачыла.

Ані табе волі,
ані табе часу.
Як каліна тая ў полі,
адна засталася».
Праляталі гусанькі,
праляталі шэрыя,
праляталі гусанькі
ды над верасамі.
Слёзы насыпалі
ў футаралы з шэрані,
ў футаралы з шэрані,
ды не завязалі.
Сэрца не завяжуць
кужэльнай тканінай.
Не напралі гэткай пражы
ды ў нашай краіне.
Праляцелі гусанькі,
зніклі за далінамі,
зніклі за далінамі,
шэрань зноў згартаецца.
Шэрань растапілася
ды ад слёз дзяўчыніных,
красавала раніца
і красуе раніца.
Не палічыць слёзы
аніхто на свеце.
Іх развее ў ніцых лозах
сёння-заўтра вецер.

## МАГЧЫМА, ДРУГІЯ ПАХОДНЮ НЯСУЦЬ

Магчыма, другія паходню нясуць,
што шлях наш да шчасця асвецяць.
Услаўляць яны і жыццё і красу,
а я —
цябе, любы мой кветцы!

Ты помніш той дзень, калі ў нашых палёх
пасеяла смутак Ніоба?
«Расцём, як расце пры дарозе гарох», —
адгэтуль і тая жалоба.

Усё коціцца зерне адно за адным,
нікому не трэба палова.
А вецер разносіць і смутак, і дым,
і зерне віюх палыновых.

Праpокі, прарокі...
Дабранач ім даць? —
Сачыўку ніяк не падзеляць.
Якая турбота? Якая наўда?
А сцені звіліся, згусцелі.

Сагнуўшыся крукам, свідрую зямлю
і камень —
рукамі,
памалу...
Спявай: «Васілёчкі у полі люблю,
дзікунскія такжа навалы...»

Сачыўка — сачыўка,
вядомая рэч,
адвечна-вядомая нават.
А я —
ім у дубальт не буду гарэць,
а я —
заспяваю ім... «Слава!»

За зернеткам зерне жалобу збяру,
на занізі ў сэрца загруджу.
Дык хто там не бачыць над краем зару, —
з пялёсткамі шчаснымі ружу?!

. . . . . . . . . . . . .

Ці гэта я здужаю словам сваім
падаць, што ірдзіцца ў крышталях?
Абняць неабдымнае, смутак спавіць? —
З табою ўсё здужаю, Наля!

## ТВОЙ ГОЛАС ПЕСНЯЮ ЗВІНІЦЬ

Чую!
Твой голас песняю звініць,
словы —
як музыка тайгі далёкай.
Помніш — у тыя дні,
у тыя дні
ты падышла хадою лёгкай.

Ты пра тайгу
тады спявала мне,
таёжны гоман
вечны і няспынны.
Яна ж у нас,
у нашай старане,
усюды там —
Савецкая айчына.

Адна нітуе — лучыць думка нас,
усе для ўсіх шукаем долі роўнай.
Ён надыходзіць,
блізка светлы час,
агорнуты суздром красой чароўнай.

Ты раскажы там,
любая мая,
што я без бацькаўшчыны гадаваўся.
Сусвет гатоў пацалаваць,
абняць,
каб не рабіў ён катавасій.

Над працай каб прымусу не было,
каб жыў працоўны там,
дзе вокам кіне,
на ўзбрэжжа акіяна ад балот
ішоў з краіны у краіну.

Ты кажаш, што прастору шмат
за край — Сібір,
на самым сонцаўсходзе?
З манголам беларус жыве, як брат,
і ў мове розніца не шкодзіць?

Скажы ты,
любая,
маім братам,
што я без бацькаўшчыны й застануся.
Пакуль душу у песнях не раздам, —
не кіну толькі
Беларусі.

Пасля прыйду у той далёкі край,
дзе песня Захаду
цвіце Усходам.
На дзікім камені
рассыпіцца кара

і згіне з сэрца
цяжкі холад.

Тады ўкленчу на жарству,
дзірван,
на ўсход,
на захад пакланюся ніцам.
І паліецца спеў за акіян,
пакоціцца лясной суніцай.

Раскажа спеў,
што Беларусь жыве,
непераможная
у працы сціплай,
што долю гадавала на жарстве
не горш
каралавых паліпаў.

Крышылі хвалі,
білі ў берагі
і руйнавалі —
цяжка так! —
дашчэнту.
А ўсё ж ткі
зноў сходзіліся рагі,
хоць выкупалі кроўю мэту.

Набыткі,
скарбы —
аддавалі ўсё.
Душы
і сэрца
толькі не давалі.

Таму — раслі,
цяпер таму расцём
і не паклонімся навале.

Скажы так песняй,
добранька скажы,
каб словы парадзілі так жа словы.
Не выскрабуць
ніякія нажы,
ўзяла што песня у аснову.

Чую!
Твой голас песняю звініць,
словы —
як музыка тайгі далёкай.
Помніш — у тыя дні,
у тыя дні
ты адышла хадою лёгкай...

## ЦІХА... ЦІХА...

Ціха... ціха...
    Гэта добра... так жа лепш...
Не фіялкі, не...
Пад нагамі снег...
    Перламутны смутак у імгле...

Спевы... спевы...
    Сэрца боль надрыўная...
Штосьці кагадзе:
ці дзянніца дзе?
    То душа, душа гарыць мая...

Хвалі... хвалі...
    Не шумі з лазой трава...
Завілася ж так...
А наўкол — слата...
    Ліханька,— ўзлятае ўвысь — «Бывай!»

Скаргі... скаргі...
    Вусны ра́ніце чаму?

Цяжка так: «Бывай»...
Сцюжа — цераз край...
    Не... Не... Толькі мне хай аднаму...

Ціха... ціха...
    Гэта добра... Так жа лепш...
То не крыўда, не...
Палыны на дне...
    Завілася постаць у імгле...

## ДЗЕНЬ

Дзень.
Стаў і рукі прасцёр.
Небакрай схамянуўся.
Зашалясцела трысцё
на Беларусі.
Сцені звіліся,
сцені згусцелі,
струны ўзвіліся...
Сэрца маё!
Нечаканае
— дзе
— на
канула
— дзень
— ля...
Стаў і рукі прасцёр.
Далоні прабіты.
Ці на касцёр,
ці ў блакіты.
Сцені звіліся,
сцені згусцелі,
струны ўзвіліся...

Туга — тужэй!
Нечаканае
— дзе
— на
канула
— дзень
— ля...
І таму...
з гэных мук...
Раскалыхайся, шыпшына, голлейкам,
не развітайся, шыпшына, з сонейкам.
Расцерушы пялёсткі навокала.
Шчасце? —
Бывае і сінявокае.

## СНЯЦЦА СНЫ

Сняцца сны.
Я не веру ў іх.
А жыццё мне сном здаецца.
Ночы, дні...
А руін, руін...
На світанні дзень смяецца
крозамі...
Толькі зварухні
на каваЛкі дзень і сэрца...
Сняцца сны.
Я не веру ў іх.
А жыццё мне сном здаецца.

## ЯК СОН, АДЫШЛА

Як сон, адышла,
і застылі сляды
ў шатрыстасці
цьмяна-хваёвай.
А месяц вандруе,
на пожні глядзіць
ды з пожні свае
васільковай.

Праходзяць стагоддзі
памалу, угрунь,
змяняюцца думкі,
настроі.
Спаткаўшы сваю
залатую зару,
забудземся мы
на ліхое.

У адным толькі вечнасць
не зменіць закон:

у радасці працы,
ў змаганні.
Не скрышыць іржа іх
на цягу вякоў,
не скрышыць і светлага Рання.

Яно надыходзіць:
прадвесне відаць
Камуны
народаў сусвету.
Істоту суздром
за яго я аддам,
як дам я цяпер
за Саветы.

Каб толькі хутчэй
зруйнаваць
той падзел:
«дзяржаўны» і «недзяржаўны».
Тады шавіністаў не будзе нідзе
і крыўды
загояцца раны.

Дзянёчкі мае,
залатыя мае!
І месяц вяслуе
на зоры!
Не будзе больш сэрца
ад крыўды смылець,
каменне,
бадай, загаворыць.

. . . . . . . . .

Як сон, адышла,
і застылі сляды
ў шатрыстасці
цьмяна-хваёвай.
А месяц вандруе,
на пожні глядзіць
ды з пожні свае
васільковай.

*1925*

# ПЛАЧ НАВАЛЬНІЦЫ

*Мелодыі*

...Ах, розбийся на світлі акорди,
Розридайсь — і затихни, як грім...
*Паўло Тычына*

## У СНЕЖНЫХ ДАЛІНАХ, ДАЛІНАХ БЯСКРАЙНІХ

У снежных далінах,
далінах бяскрайніх,
гарыць і палае
пад ветрам паходня.
І носяцца іскры
над струджаным краем,
наўсцяж
Беларусі Заходняй.

І песня — не песня,
а плач навальніцы,
якая ўзвіецца
для помсты праўдзівай.
І слёзы — не слёзы,
надзея ільсніцца:
ў змаганні народзіцца
дзіва.

На дзікім камені,
на дзікім і жорсткім,
шыпшына не звяла,
пасцеле цвяцістасць.
І з гэнай цвяцістасці,
з гэных пялёсткаў
паўстане
спрадвечная існасць.

Даруем усё,
што ў стагоддзях крышыла.
той воцат даруем,
што вусны паліў нам.
А подласць вам вашу
начэпім на шыю,
каб з вамі
пайшла ў дамавіну.

У снежных далінах,
далінах бяскрайніх,
гарыць і палае
пад ветрам паходня.
І носяцца іскры
над струджаным краем,
наўсцяж
Беларусі Заходняй.

## НА БЛАКІЦЕ ДЫ ШЭРЫЯ ПЛЯМЫ

На блакіце ды шэрыя плямы,
кузлаватаю воўнаю смутак.
Аж да хмар узнімаецца лямант
ад нялюдскае, цяжкае мукі.

А надрыўна галосяць цымбалы,
разлятаюцца з гукамі думкі.
Груганнё тое села-пала.
І дакуль яно будзе крумкаць?

У блакіт — кармазынавы пошчак
разам з крыўдай на лёс апантаны.
Дзень мінулы — сцюдзёны нябожчык, —
сёння, заўтра — ніколі не ўстане.

Расплывуцца, расцягнуцца плямы,
ў іх утопіцца смутак, загіне.
Ён загіне, развеецца лямант,
што завіўся ля любай краіны.

# А ЛЯСЫ ШАЛЯСЦЯЦЬ, ШАЛЯСЦЯЦЬ

А лясы шалясцяць, шалясцяць,
а вазёры гамоняць сярдзіта.
Зварухнецца аір ля трысця
і замоўкне, у млявасць спавіты.

Як з кадзіла, туман навакол,
каляровасцю вытканы кволай.
Дзень на смутак сябе накалоў,
і галосяць, галосяць віолы.

Плачуць дрэвы празрыстай расой,
а раса завіваецца ў дэсань.
Сіні, сіні такі парасон
па-над возерам і па-над лесам.

На палетках пясочкі-пяскі,
можа жыта, а можа там бульба...
Край мой, край, над табой лёс накпіў,
а паны у нядолю абулі.

Ці багацця бракуе табе,
ці упартасці сціплае мала?
Тая ўпартасць і камень праб'е,
на усё табе сілы хапала...

Пранясуцца ў барвовасці дзей
аж да Нёмну з-пад Нарачча хвалі.
Вось цяперака цяжка глядзець,
як радзіму маю ўкрыжавалі.

А лясы шалясцяць, шалясцяць,
а вазёры сярдзіта гамоняць.
Адкаснецца уціск небыцця,
прыйдзе шчасце на родныя гоні!

## НА ПЯСОК НА ЖОЎТЫ, НА ПЯСОК СТАПТАНЫ

На пясок на жоўты,
на пясок стаптаны
я укленчу-стану,
галаву схілю.

Ты пашлі, зямелька,
для душы бальзамы,
ты прымі, зямелька,
крыўду ўсю маю.

Невыказная
катуе
скруха...
Парпуровыя
рогаты
духу...

Пасцілаецца-сцелецца лісціна,
а бяроза не можа стагнаць.

Прападай, ліха,
хадзі над барамі,
бо тугі вялікай
кайстра не прымае.

А лісцінка з лісцінкай у вянок,
а на песню-надзею не зробяць замок.

Прападай, ліха,
хадзі за барамі,
бо тугі вялікай
кайстра не прымае.

Раскладаюць-паляць ля азёр касцёр...
Паляціце, песні, да азёр, азёр...

Невыказная
катуе
скруха...
Парпуровыя
рогаты
духу...

На пясок на жоўты,
на пясок стаптаны
я укленчу-стану,
галаву схілю.

Ты пашлі, зямелька,
для душы бальзамы,
ты прымі, зямелька,
крыўду ўсю маю.

# І НАД ЛЕСАМ ТАКЖА

І над лесам такжа, і над пушчай такжа:
скрозь
дым.
Можа, ён не ўстане, можа, ён абляжа...
Гэта вораг ходзіць у сутане
і жалобай край укрыў.

Я не веру ў літасць,
я не веру словам.
Нат гавораць пліты...
А маўчыць жывое...

Ходзіць, ходзіць спрытна гэты новы рыцар:
ля
нас.
А ці доўга будзем моўчкі ўсё карыцца?
Смутак точыць сэрца, точыць грудзі,
але помсты — прыйдзе час.

Столькі абяцанняў,
столькі подлых дзеяў.

Што калі паўстанем, —
дзе тады вас дзенем?

І над лесам стане, і над пушчай стане:
скрозь
дым.
Гэта будзе помста, гэта будзе Ранне.
Закасуем межы, згіне Ростань.
А судзіць вас будзем —
мы.

## ТРОЕ ІХ

Трое іх.
Гаманілі з гаем.
Гаманілі з полем.
Гаманілі з жытам каласістым.
Трое іх.
Працавалі рана.
Працавалі позна.
Працавалі, сілу слалі лістам.

І аруды парожнія
сіратою
заўсёды,
невыходнаю госцяй
у хлебе
мякіна.
І для панства
збіралі-складалі
слодыч
утраіх,
як і ўся краіна.

Помста йдзе.
Галасіла поле.
Галасілі стрэхі.
Галасіў чарнобыль на памежку.
Помста йдзе.
Напілося болем,
напілося рэха,
напіліся крыўдай тыя сцежкі.

І сціскалася ў вусны
невыказнае гора,
і тапілася ў вочах
часіна адплаты.
Каб за тое за ўсё,
што сягоння і ўчора,
вогнішчамі
абшары палатаць.

Ці затым?
Павязалі рукі,
павязалі ногі,
павязалі цела,— дух звязаць няможна.
Ці затым?
Завязлі на мукі,
завязлі на рогат,
завязлі на здзек паноў вяльможных.

Гаманілі хвалі —
расхадзіўся Нёман,
гаманілі хмары —
неба спахмурнела.
Гэта мы залічым,
гэта мы успомнім,

калі словы стануць
агнявейнай дзеяй.

А цяпер —
пакрышыце косці,
пакрышыце гэтым,
пакрышыце новым невядомым.
Трэ цярпець:
вецер помсту носіць,
вецер будзіць нетры,
вецер ад Усходу будзіць міліёны.
І за ўсе за мукі,
і за воцат горкі,
і за ўкрыжаванне
гэтых і наступных —
на ушэсці скажа
дух нязломны горда:
мы пазналі радасць,
вы — пазнайце смутак.

Трое іх.
Гаманілі з гаем.
Гаманілі з полем.
Гаманілі з жытам каласістым.
Трое іх.
Працавалі рана.
Працавалі позна.
Працавалі, сілу слалі лістам.
Гэтых трох імёны
святкаваць прымусім
мы паноў вяльможных:
злосць жа іх ад страху.

За братоў маіх
Заходняй Беларусі
стаўлю ў песні помнік
Ладзімеру Шаху.

## НЕБА СІНЯЕ, СІНЯЕ ВЕЛЬМІ

Неба сіняе, сіняе вельмі,
але сіньшая ў вочах туга.
Не сатканы такі шчэ вэлюм,
каб тугу ад свету схаваць.

Пурпуровасць каліны, пунсовасць,
кармазынавасць дзікіх шыпшын.
Ці не вам у таемныя сховы
людзі радасць сваю аддалі?

Цёмнай ноччу, у засціле цьмянай
знічкі гінуць на хвалях азёр.
Зіхатлівыя, сумныя плямы
пракладаюць сцежкі ад зор.

Спавіваюцца хмарамі зоры:
сцежкі ёсць — не натрапіць ніяк.
Мне казаў мой таварыш учора,
што рассыпала восень мак.

Топчуць вельмі малое зерне
каму толькі ахвота і час.
А назад гэта зерне не збераць:
гэтага не прычакаць.

Ды малое яно, аж надта,
пад вялікі абцас не йдзе.
Пры вясковай хаце бахматай
узрасце і ў радасці і ў бядзе.

Пурпуровасць каліны, пунсовасць,
кармазынавасць дзікіх шыпшын.
Ці не вам у таемныя сховы
людзі радасць сваю аддалі?

Пазлятаюць пялёсткі з шыпшыны —
ў дзіды ўпартасць кладзе яна.
Дачакаем світання ў айчыне:
пасля восені —
прыйдзе вясна!

## НЕПАКОЕМ Я СЁННЯ УСКРЫТЫ

Непакоем я сёння ускрыты.
Кажуць —
сумныя песні мае.
...Новыя словы,
новыя рытмы
поўнай жменяй
жыццё дае...

Сам казаў,
дык няўжо забыўся?
Чаму кленчым тузе
да ног?

Я пабачыў
надхмарныя высі,
я пабачыў
марское дно.

Я знайшоў
гэты смутак з фэрмата,

пакахаў,
калі хочаце чуць.

Мо й загіну
ка́няй заклятай,
краю роднаму
доўг
заплачу.

Песняры прыйдуць новыя
скора
і адкінуць
абоймы тугі.

Ушануюць
мажорныя акорды
тых,
што ў мінорах ляглі.

Скажуць гэныя
новыя
песняй:
— Смутак моцнае сэрца размыў.

На парозе
Вялікай Прадвесні
паніхіды складаў
для зімы.

Песні, мкніцеся
шырай і вышай!
Узнімайцеся ў родны прастор!

Светлы дзень
на сустрэчу нам выйшаў,
свае рукі
над намі
прасцёр.

# НІКОЛІ НЕ КЛЕНЧЫ НЯДОЛІ

Ніколі не кленчы нядолі,
нялацы літанняў не шлі.
Даволі пакоры, даволі
качацца ў пылу на зямлі!

Са светлым і моцным жаданнем,
упарта, упэўнена, ў час,
спаткаем мы шчаснае Ранне,
яно падыходзіць да нас.

Краіна зруйнуе уціскі,
захопнікаў знішчыць датла.
Світанне ўрачыстае блізка:
на ўсходзе зара узышла.
А толькі не кленчы нядолі,
нялацы літанняў не шлі.
Даволі пакоры, даволі
качацца ў пылу на зямлі!

*1926*

# ЧАКАЕ ЛЯ БЕРАГУ ЧОВЕН МЯНЕ

*Таежная нізка*

*Маёй Марылі* — прысвячаю

* * *

У нашай Айчыне, магутнай, вялікай,
і рэк і паселішч багата, без ліку.

І ўсюды, у кожным жыццё не сціхае,
імкнецца да дзейнасці думка жывая.

У самым далёкім куточку Айчыны
і рытм, і кірунак для працы адзіны:

да шчасця агульнага кожны імкнецца,
затым яны блізкі і любы для сэрца,

затым прыгадаў я і гэтаю нізкай
таежны куточак, далёкі і блізкі...



«...Тайга — гэта маці для добрых людзей, —
ліхога не пусціць далёка.
У багну яго завядзе, завядзе,
схавае глыбока-глыбока...
І сядзе на елцы высокай касач,
свае адчытае малебны
па тым, хто не варт, каб людская сляза
на след яго пала ганебны».
Вось так праз усмешку гаворыць чалдон —
тубылец таежных прастораў.
Іду, развітаўшыся, сонцу ўздагон,
пабачыць зялёнае мора...



Іду, разважаю: ці так, ці не так,
а гэты дзядуля на байкі мастак.

За свой немалы і натруджаны век
нямала прамераў таежных ён рэк.

Праверыў уважліва кожнае дно,
пакуль не натрапіцца тое адно,

з якога пясок паплыве на латок,
каб мець з чым зайсціся ў гасцінны шынок,

дзе гора і мукі, і гнусу сляды
абмые бутэлька хмялёвай бурды.

І гэта мінула, адпала ад рук,
бо ўсё адбывалася ў тую пару,

якую ніхто не згадае дабром:
за тым, за апошнім крывавым царом...

Скрышылася тая пакута на тло,
як быццам яе і зусім не было...

Павольна тубылец ідзе праз тайгу
і сочыць, дзе собаль у корч мільгануў.

Шукае, дзе ходзіць-лятае касач,
дзе рогі ўскідае на плечы сарнач.

За шкуркі ён мае і цукар, і хлеб,
і ўсё, што належыць да людскіх патрэб,

бо тыя здабыткі нясе не ў шынок —
у наш, у савецкі, нясе гарадок,

а там — поўнай мерай адмераць яму
за собаля, векшу, за лета-зіму...

І як ні было б — гэта знаўца тайгі,
што знае выгары і ўсе берагі.

Затым я з пашанай праслухаў яго:
тубылец ён гэтых усіх берагоў...

* * *

Рака Біруса, а яна ж і Ана —
дзве назвы для рэчак, а рэчка адна!

І рэчка — за Сену, за Рэйн прыгажэй,
і рэчка — за Рэйн і за Сену шырэй.

А ўдоўжкі — якраз набяжыць удвая.
Вось рэчка якая, красуня мая!

Над берагам скалы — адна на аднэй,
адна за адну прыгажэй і вышэй.

І вежы ўзняліся да неба, да хмар,
на іх павырэзваў акрасы разбяр,

і побач паставіў ён волатаў рад
са зброяй пагрознай у дужых руках:

каб з гэных чароўных каменных аград
знішчалі, зганялі на дол варнака...

Маўкліва стаяць і вартуюць яны
мінулых паданняў і праўду, і сны...

Стварыла натура той горад дзівос,
завуць яго людзі — Пачэцкі уцёс.

Шуміць Біруса перад ім, ля яго,
гамоніць Ана у сваіх берагох.

Легенды і казкі — тварэнне людзей —
на хвалях сваіх аднясе ў Енісей.

А ён, неаглядны, складзе з іх адну —
пра тое, як людзі шукалі вясну

і як у паходы ішлі караблі
па шчасце для роднай, любімай зямлі...

І як па тайзе, ля яго берагоў,
шукальнік у першы паход свой ішоў...

Усё Біруса ў Енісей аднясе,
пра ўсё нам раскажа стары Енісей...



А я, пераплыўшы Ану-Бірусу,
падаўся павольна тайгою.
Іду, атрасаючы з веццяя расу,
і сам разважаю з сабою.

Стварала натура і творыць яна,
ды часам не вельмі дамэтна.
Працуе ад сонца бадай да цямна,
і вынік хоць надта прыкметны,

якая ж, спытаеш, карысць ад яго? —
Малюнак прыгожы, ды толькі.
А вось, каб запрэгчы хоць пару вятроў,
а лепей і цэлую тройку,

прымусіць тварыць іх пад нашай рукой,
ды так, як нам трэба і можна,—
тады б электрычнасць лілася ракой
па нашай старонцы таёжнай...

Сарока праносіць над пушчай:
«Так, так!..»,
як быццам на згоду са мною,

ды мне пагадзіцца з ёй нельга ніяк,
з варожай істотай такою.

Сарока, сарока! Стварыў цябе бог
на гора для ўсіх паляўнічых.
Пільнуеш ты вечна таежны парог,
смяешся ты ім у аблічча:

як толькі са стрэльбай яны з-за куста
памкнуцца ў таежнае мора,
ляціш ты, стракочаш: «Та-та, та-та-та,
хавайцеся ўсе, гэта вораг...»
І ўсё паляванне — на нуль, да нуля,
хоць двору ідзі, хоць улегцы гуляй...

Паважны удод, той сказаў:
«Не магу!
Абрыдлі мне вашы праекты.
Узбаламуцілі вы ўсю тайгу,
пралезлі у самыя нетры.

Парадак люблю я, люблю супакой,
а з вамі — гармідар, бязладдзе.
Сахаты уцёк ад нядолі такой,
мядзведзь да ракі не вылазіць.

Як бачу, кароткія сталі вам дні:
мне ноч сапсавалі ўсе вашы агні.
Чаго не хапае вам, што вас жане?
Чаму гэты клопат не вабіць мяне?

Зірні, калі ласка: дзяўбу і дзяўбу,
там — зёрнетка, там — матылёчка.

І перайка гладкае, зубчыкам чуб,
і дзеткі у добрым куточку...»

Удодзе, удодзе! Парады твае
для нас не прыдатны затое,
што клопат для працы імпэту дае
і вабіць сваім непакоем.

У далі жыццё заклікае людзей,
а ты — закаханы ў балота.
Жыццё нас вяло і жыццё нас вядзе
да новых, да творчых узлётаў.

А творчая думка — ў бязмежны прастор,
у космас, на мора, ў паветра,
яна спадарожнік нясе каля зор,
сягае ў прадонні і нетры...

Яна абуджае да шчасця людзей
і кліча да новых прастораў.
Не хоча спыніцца ў стаялай вадзе,
хоць там і люструюцца зоры.

Узлётаў яе не стрымалі кастры
і самыя моцныя краты,
калі над народам сядзелі цары,
стаяў з бізуном прыганяты.

Была яна вышай багоў і царыц,
такой яна вечна і будзе.
І будзе яна летуцець і тварыць,
пакуль свет існуе і людзі.

Яна так усюды, што часам нідзе,
гару пылінкой падымае.
На шчасце, на радасць, на гордасць людзей
шукае, знаходзіць, стварае.

Аквечаны шлях нечуванай красой
да велічнай нашае мэты.
Узняты чырвоны штандар над зямлёй —
Камуны Народаў Сусвету.

Яна надыходзіць, надыдзе яна —
Свабода працоўнае волі,
уся — у адным, у шматлікім — адна,
і свет ёй не здрадзіць ніколі.

* * *

А шум урачысты плыве над тайгой,
магутныя хвоі калыша,
як морскія хвалі, як морскі прыбой,
ніколі не знае зацішша.

А думкі ідуць, набягаюць, лятуць,
ускіне іх вецер на вецце,
каб згэтуль пабачылі ўсю пекнату,
што роўнай не мае на свеце.

Гайдаюцца ветрам вяршаліны дрэў,
звіняць, як цымбальныя струны,
складаюць у нетрах узрочысты спеў,
нязвыклы, нястрымны, няўшчунны.

Здаецца, аж пырскі віюцца да хмар,
кладуцца на хмары, на зоры.
Здаецца, якісьці дзівосны пясняр
у песні са светам гаворыць.

Прымоўкне, прыціхне і зноў зварухне
істоту і шчырае сэрца.

Яна спавівае кунегай мяне,
і плача яна, і смяецца!..

А шум урачысты плыве над тайгой,
магутныя хвоі калыша.
Як морскія хвалі, як морскі прыбой:
і далей, і шырай, і вышай...

За ўзгоркам няспынна грымяць трактары,
пяюць электрычныя пілы...
Мы — творым і дапамагаем тварыць,
каб новае хутка ўсхадзіла...

Працуе упарта рабочых сям'я,
бадзёрасць навокал крынічыць.
Працуе між імі зямлячка мая,
наладжвае пульт кіраўнічы.

І спрытна, і зграбна рыхтоўка ідзе,
мільгаюць дзявочыя рукі.
Не здрадзяць яны ані ў якай бядзе,
зазнаўшы каштоўнай навукі.

Працуе яна, усміхаецца мне:
«Давайце мне песню пра тое,
як мы на сібірскай жывём старане,
парадкуем дно залатое...»

Дзяўчына! Я ведаю добра адно:
сама ты — найлепшая песня!
З табою не толькі ўпарадкуем дно —
лятункі і казкі мы здзейснім.

Затым я не песняй спатканне адзначу —
сваім пажаданнем сардэчным, гарачым:
каб з вашага пульта электраагні
хутчэй асвятлілі наступныя дні...

Іду праз тайгу, праз імшары, завалы,
пра дзеўчыну верш укладаю памалу —
няхай застанецца ён памяткай шчырай
пра гэты далёкі, вялізманы вырай.

...А нядаўна ж ты была малою,
чула, вецер як над полем свішча.
Даганяючы яго, калола
ножкі аб жытнёвае іржышча.

Табе косы заплятала маці,
цалавала русую галоўку...
Час ідзе, не любіць ён спыняцца:
неўзабаве стала камсамолкай.

Там — паход аж да навукі ў нетры,
там — дыплом, галоўкі гэтай варты.
За пяць тысяч з гакам кіламетраў
ён прывёў цябе да працы ўпартай.

Цябе пэўна б маці не пазнала
і сяброўкі ў Кашалёўскай Будзе,
калі ты рубільнік уключала,
што тайгу да дзейнасці абудзіць.

І цяпер — у ботах, камбінезоне —
ты дужэйшай, ты мужнейшай стала,
а ці здолееш сягоння ўспомніць,
як у полі вецер даганяла?

Падымі свой чорны накамарнік,
глянем мы на сінія на вочы.

Скажуць з гордасцю яны:
«Не марна
даў навуку нам народ рабочы».

Цэлы дзень ты ладзіла машыны,
а чаму ж ты ўноч не адпачыла?
«Рытмам роўным сакатаць павінна
і будзіць тайгу электрасіла...»

Вобраз гэты з сэрца не пазбуду:
мне тайгу не раз ён нагадае
і дзяўчыну з Кашалёўскай Буды,
што з маленства ўпартая такая!..

* * *

Памалу, паціху зайшоў я туды,
дзе нават не бачу і сцежак.
Тут маці-тайга насадзіла сады
без краю, без канца, без межаў.

Якіх толькі ў садзе гатункаў няма —
ад белых, чырвоных да чорных.
Гасцей будзе чым частаваць і прымаць,
тых дзетак тайгі незлічоных.

Злятуцца яны і збягуцца яны
да чорных, да белых, чырвоных,
пакуль не схаваюць садоў туманы
бясконцай ліловай заслонай.

Тым часам — да захаду тры качаргі,
ісці яшчэ можна мне смела.
І птаства жыруе ў чаргу, без чаргі
на чорных, чырвоных і белых...

Куды ні паглянь — над красою краса,
да восені хіліцца лета.
І кветы ў расе, і на кветах раса,
і ў сэрцы паэтавым кветы.

Вось гэту б красу ды у песню узяць,
узяць бы таежныя рытмы,
і так, як яны навакола шумяць,—
праз пушчы, выгары, праз выдмы...

Я тайгою іду,
і нібыта адзін я ў гушчарах.

Супакой навакол
і спакою няма між лясін.

Мне цудоўны дыван
пасцілае пад ногі амшара,

а узоры на ім —
што не бачыў мастак ні адзін.

Як калоны, стаяць
недасяжныя воку лісцвянкі,

хмары ў небе высокім
вяршаліны ўскоўдрылі ім.

І звіняць, і гудуць
з надвячорку да самага ранку,

і складаюць сусвету
ўрачысты, вялізманы гімн.

І няма ў ім тугі,
і няма ў ім апрыкрага жалю:

моц магутнай тайгі
і яшчэ магутнейшай зямлі

у напевах ягоных
плыве, брыльянціцца, крышталіць,

цераз стромкія скалы
пераходзіць на лона далін.

І плывуць і гудуць,
нараджаюць у сэрцы лагоду,

нараджаюць упартую моц,
што не знае падобных нідзе.

І не спыніць ніхто,
і не выдзьме ніякай пагодай

гэтай сілы таежнай,
што прыйшла ад тайгі да людзей.

* * *

Дзядоў і прадзедаў злілася сіла
у гэтых мускулах,
упартасці маёй.
Яна мяне ў жыцці маім вадзіла
на бітву
з найвялікшаю бядой.

Глядзеў я ў вочы смерці
неаднойчы,
і браўся ў загрудкі я з ёй
не раз.
Знаходзіў шлях да мэты
ў самай чорнай ночы,
ў балоце самым гразкім
не заграз.

Я рушыў горы,
прабіваў я скалы,
я перайначваў шлях спрадвечны рэк.
Спыніць мяне
не здолела ніякая навала,

бо я —
працоўны,
гартаваны чалавек.

Але ў адным
я быў слабым заўсёды,
такім слабым
застаўся і цяпер:
не меў я
з подласцю
ніколі згоды,
не навучыўся аніяк цярпець.

Калі гляджу на хіжыя істоты,
якія,—
зрэдку хоць, —
трапляюцца ў жыцці,
мне хочацца,
паддаўшы добра ботам,
так іх шпурнуць,
каб пылу не знайсці!

Удзячны продкам я сваім
за сілу,
якая
праз жыццё мяне вадзіла.
А за дадатак слабасці нязначны...
Таксама продкам я сваім
удзячны!



Дзе вы, таварышы ўпартае працы,
дзе вы, таварышы ўпартай работы?
Дзе вы, ўсе тыя, што выйшлі змагацца
з гнусам, з машкою, з таежным балотам?

Шлях мы праклалі на сотні гадочкаў,
шлях мы праклалі на добрае слова.
І разышліся пасля мы упрочкі,
быццам нас вецер развеяў вясновы.

Той апынуўся ў далёкім Паўноччы,
той у чарговы пайшоў адпачынак.
Дзе ні пратопча сцяжынку рабочы,—
ростаням нашым кірунак адзіны:
　　абы над намі ды роднае неба,
　　абы не есці дарэмнага хлеба...

Хто ж будзе ездзіць адноўленым шляхам,
хто ж нас успомніць за шчырыя дзеі?
Хто ж будзе ведаць, з якім мы размахам
справу сваю пільнавалі-глядзелі?

Ціха, павольна праходзіць аўтобус
там, дзе нядаўна і трактар тапіўся.
Шлях наш пачэсную вытрываў спробу,
хібу не знойдзеш, шукаўшы сумысля.
Радасць агульная, добрае слова
здзейсненай справе і справе жыццёвай...

Дрэвы у чырвані, ў золаце дрэвы,
восень свае пачынае напевы.
І навяваюць спакой і лагоду
хвалі маторнага, роўнага ходу...

* * *

Вось як тыя птушкі гняздо,
мы з табой збудавалі дом.

Цаліну мы з табой узнялі
на гасціннай сібірскай зямлі.

У лагчыне гамоніць ручай,
весялосць з яго б'е цераз край.

А тайга, быццам маці над ім,
ушчувае малое адным:

— Не спяшайся!
Натрапіш рубеж!
Свайго лёсу ніяк не мінеш...

Ну, а як жа наш дом, цаліна?
У жыцці, мабыць, сцежка адна...

* * *

√ Усё як належыць спрадвеку для зім:
і сцюжа,
і снег,
і склізота.
Чаму ж гэта ў сэрцы вясновы уздым
і прага да ўпартай работы?

Фуганак слухмяна ідзе пад рукой,
не зганьбіць майго ён варштата.
І дзверы, і вокны чакае пакой,
чакае іх новая хата.

v Ляціць стругавінне,
злятае далоў
і шастае,
шэпча ціхутка:
«А гэта усё,
што для новых дамоў,
ці хутка ты зробіш,
ці хутка?»

Трывалыя рукі адводзяць, вядуць
надзейны, слухмяны фуганак.
За дзень з ім багата я метраў прайду,
а колькі ж брускоў зрыхтавана!

Прытуліцца шчыльна брусок да бруска,
правушкі сашчэпяць абоймы.
І вокны паставіць на месца рука,
і дзверы навесім з табой мы.

Пасля абыду, перагледжу ізноў
работу сваю ў задуменні.
Самому не верыцца:
гэта ж было
спачатку звычайным бярвеннем.

Цяпер жа —
заходзь і жыві, навасёл,
работа —
ад шчырага сэрца.
Зважай:
як пульсуе жыццё навакол,
як песня да неба імкнецца.

У шахтах,
заводах,
пасёлках лясных,
на ўсім неаглядным прасторы —
здабыткамі рук мазалёвых сваіх
жыццё мы шчаслівае творым.

Ні ў песні,
ні ў казцы —

не знойдзеш нідзе
таго,
што наяве стварылі.
Вось гэта —
і радасць дае для людзей,
вось гэта —
узносіць
на крылле.



Чорныя, сінія, шэрыя вочы
золак павольна адмружыў, адплюшчыў.
І схамянуў наш пасёлак рабочы,
і схамянуў ён бясконцыя пушчы.

А па-над імі, у небе блакітным,
стромы праменння, крыніцы праменння.
Чырвань, пунсовасць і золата кіты
сонца ў лагодным нясе задуменні.

Раніца, раніца ходзіць тайгою,
жменяй, прыгоршчамі сее праменне.
Змрок затуліўся за шчыльнай сцяною,
схованў шукае ў ламаччы-карэнні.

Сонца з вяршалін выцягвае сеццю
начныя жахі і ноч-начаніцу.
З ласкай пакорнай схіляецца вецце,
каб анідзе ім не даць затуліцца.

Вецер павольна на струнах іграе,
аж разлягаюцца гэныя струны.
Радасць праносяць ад краю да краю,
смутак ушчунуць і самы няўшчунны.

Дзятлы старанна, уважна ўтуруюць,
дзюбкамі б'юць несціхана ў дуплянкі.
Новую вечна, адвечна старую
музыку склалі для светлага ранку.

...Вось і гудок адгукнуўся у далях,
рэха — на хвалях таежнага мора.
Зноў на рабочую вахту мы сталі,
сталі сягоння мы, як і учора...

* * *

І перайшлі цераз рэчку туманы,
і паплылі на паселішча наша,
водар таежны і кветак духмяных
у непразрыстыя хвалі прыняўшы.

Месяц вандруе на полі, на сінім,
зоры ў тым полі раскідвае жменяй.
Рунь залацістая ўсходзіць над імі,
сейбіт спыняецца ад захаплення.

Вечар ты, вечар, таёжны мой вечар!
Мабыць, на свеце ты ўсё ж ткі адзіны!
Што табе пушча спрадвечная шэпча
гэтай патольнай, зацішнай гадзінай?

Крыўды якія прыносіць сахаты,
чым нездаволена птаства лясное?
Змрокам ускрыў ты бязмежную хату,
змрок пасуваецца шчыльнай сцяною.

Ён ад ламачча і ён ад карэння —
аж на вяршаліны выплыў густыя.
Месяц спыняецца ў шчырым здзіўленні:
дзе ж твае барвы, тайга, залатыя?

Вецер павольна, ціхутка іграе,
струны з якімсьці звіняць перахватам.
Сон навяваюць ад краю да краю
і на тайгу і на сціплыя хаты...



Якіх толькі кветак на свеце няма,
на свеце бязмежным, шырокім!
Якая на іх не бывае зіма, —
вясной весяляць яны вока!

Уцеху прыносяць старым і малым,
вянкі з іх кладуць і пакойным:
усіх хараством надараюць сваім,
угояць і смутак няўгойны...

А ты, кармазынам убраны кіпрэй,
таёжная, сціплая кветка,
не толькі красою здзіўляеш людзей,
здзіўляеш ты сілаю рэдкай.

Калі надыходзіць навала вятроў
і першы мароз залютуе —
сабой затуляеш сваіх ты сяброў
і смерцю ад смерці ратуеш.

I так да апошняга бойка ідзе
з марозам суровым і жорсткім,
і так да апошняга ў сонечны дзень
жывыя узносяць пялёсткі...

Таму цябе людзі шануюць усе,
што друг ты ў бядзе, а не сведка.
Згадаў я таму аб цудоўнай красе
тваёй, мая сціплая кветка...

Красуеш і ў нашых лясах векавых,
ля нашых дубоў і бярозак,
і так жа бароніш сяброў ты сваіх
ад першых, знішчальных марозаў...

Ты мне нагадаеш мінулыя дні,
прывабу бясконцых прастораў
і многіх, іншых паселішч агні,
і вечназялёнае мора...

* * *

Чакае ля берагу човен мяне,
вяртацца мне трэба дадому.
А скора і ён праз тайгу мільгане
з усмешкай, як добры знаёмы.

Прыгоды, падзеі згадаю не раз,
шляхі і цудоўныя рэкі,
пра самае найдаражэйшае ў нас —
працоўных людзей, чалавека...

Згадаю, тайга, пра твае дываны,
пра колеры, барвы, узоры.
Красою спрачаюцца з небам яны,
красою спрачаюцца з морам.

Да сіняга мора прастор твой і лёг,
а горы — да неба узняты...
І верыў, і верыць ніяк я не мог,
што край гэты звалі праклятым!

Прайшоў я, пабачыў, пазнаў і адчуў
твайго хараства пералівы.
Ты будзеш да скону стаяць уваччу
шумлівы і вельмі маўклівы.

Вялі да цябе кайданы ўсё людзей
на гора, на цяжкія мукі.
Няма таго гора, бо высербаў дзед,
і едуць па шчасце унукі.

Парушаны сон, векавечны застой,
шляхі праз заломы прабіты.
І скарбы твае з-пад заслоны густой
ідуць для людзей на спажытак.

І людзі тваюператвораць красу —
савецкія, гордыя людзі.
Ім, творцам, ім, знаўцам, я спеў узнясу
за тое, што ёсць і што будзе.

Красуй, неаглядны таёжны прастор,
на радасць для роднага краю!
Праменне чырвоных, рубінавых зор
хай вечна цябе азарае!

*1958*

* * *

О Беларусь, лясная ружа,
зялёны ліст, чырвоны цвет!
Да камунізма крокам мужным
ты пракладаеш вечны след.

Варожасць шляху не заслоніць,
мацнее дух ад перашкод.
Тваё шчаслівае сягоння
стварыў упарты наш народ.

Сям'ёй усёй шматмільённай
цябе вітаем як адзін.
Цябе вітаем працай плённай,
няспынным рокатам машын.

Дакуль на небе сонца свеціць,
дакуль існуе светам свет,—
нас не развее дзікі вецер,
не замяце твой ясны след.

Мы загартуем нашы душы,
а ў час, калі апошні бой,—
непераможнай хваляй рушым,
цябе заслонім мы сабой.

Пялёсткамі тваімі станем,
каб вечна красавала ты
і каб шумелі вечна з намі
тваё зялёныя лісты.

О Беларусь, лясная ружа,
зялёны ліст, чырвоны цвет!
У грамадзе савецкай, дружнай
знайшла ты свой шчаслівы свет.

*1958*

## НАМ НЕКАЛІ СА СМУТКАМ ЗНАЦЦА

І Волгу бачыў я і Дон,
багата рэк сібірскіх бачыў.
Такі мой лёс: з юнацкіх дзён
ён вандраванні мне прызначыў.

Вадзіў праз горныя хрыбты,
цераз Байкал і за Байкалам.
А харства, а пекнаты —
аж цераз самы край бывала.

Жыві хоць лішніх сто гадоў —
красу праславіць немагчыма.
Патрэбна сотня мастакоў
ды ўсе каб з яснымі вачыма...

Спявалі песню мне вятры,
спявалі песню навальніцы.
А казкі, з-пад крутой гары,
плылі люстранаю крыніцай...

У песнях мне шумеў чарот
пра нарачанскія азёры.
У казках казачны народ
насіў лятункі аж на зоры...

Які б цяжар ні быў калі,
на сэрцы гарката якая, —
ад гэных песень і быліц
яны крышыліся, знікалі...

З грузінам жыў, як родны брат,
таксама жыў з сібіракамі.
Затым сяброў усюды шмат,
а ў след — ніхто не кіне камень.

Не вырываліся з рукі
ані сякера ж, ні фуганак.
І з кельняй браў размах такі,
каб не было і з ёй заганы...

Без працы я не быў нідзе,
а праца нам і творыць долю.
Ні на зямлі, ні на вадзе
не сумаваў я анікалі.

Бо ўсюды, скрозь — радзімы край,
варштаты ўсюды ёсць для працы.
Сумуе вораг наш няхай,
нам — некалі са смуткам знацца!

*1958*

## А КОЛЬКІ Б ДЗЕ НІ ВАНДРАВАЎ

А колькі б дзе ні вандраваў,
хоць добра ўсюды і прыгожа,—
мяне цягнула да Пастаў,
хацелася пабыць ля Доўжа.

Ў айчыне многа гарадоў
і вёсак — незлічоны шэраг.
А ўсё ж адсюль я ў свет пайшоў,
і тут ён, гэты самы бераг.

Матуля тут сваёй рукой
мне на кашулі прала кужаль.
Закрыта ўсё сырой зямлёй,
і аб сынах яна не тужыць...

На гэтай, на сырой зямлі
расло і спела тое збожжа,
з якога самі мы раслі
для працы ўпартай, пераможнай.

На гэтай, роднай мне зямлі
бывала гора больш, чым сніцца.
Цераз яе не раз ішлі
праклятых войнаў калясніцы.

За разам раз — цяжэй, цяжэй
яна здрыгалася ад болю.
А ўсё ж прыйшла для ўсіх людзей,
шчаслівая настала доля!

Спаткаўся з роднаю зямлёй,
жадаю шчырым сэрцам роднай:
каб больш не знацца нам з вайной,
каб больш не знаць вайны ніводнай!

*1958*

# МАЛЕНЬКАЯ ГЕРАІНЯ

1

Гляджу на цябе.
Усё звычайна,
як быццам:
і вочы, і ўсмешка, і русыя косы.
Не толькі адна ты такая, сястрыца,
хадзіла нядаўна галоднай і босай.

За матку трымалася ручкай маленькай
і з маткай хавалася ў ямах, прысадах,
калі пачыналі над хатамі дзвенькаць
ці хаты да неба узносіць снарады.

Была не адна ты такая, сястрыца:
ўзрасталі на вогнішчах вы, на руінах.
Хадзілі дарослыя з ворагам біцца
за волю і шчасце радзімай краіны.

Чаму ж да цябе маё сэрца імкнецца
і з думак маіх не выходзіш ніяк ты?

Вайна не мінула ніводнага сэрца,
параніў нас цяжка захопнік праклятым...

Адказу ніяк не знайду на пытанне:
ці ты — гераіня,
ці — не гераіня?
Сказаць, што прымала удзел ты ў паўстаннях,
дык гэта ж на смех мяне кожны узніме.

На ручцы адной ты свой век і лічыла:
якраз па гадочку на пальчыку кожным.
А ўсё ж памагла і маленькаю сілай
зрабіць немагчымае ў стане варожым.

2

Забралі фашысты ў палон партызанаў.
Сядзяць партызаны за дротам калючым.
На кару цяжкую усё зрыхтавана:
бязлітасны вораг іх скора замучыць.

Сябры сабраліся на раду у лесе.
— Сягоння павінны мы даць дапамогу.
Каб зброю як-небудзь да іх мы прынеслі,—
за рогі ўзялі б яны чорта самога!

Замоўклі на радзе.
А думкі,
як вецер,
ля лагера сотню разоў абляцелі.
«Прайсці могуць толькі маленькія дзеці,
накшталт Лукашовай дачушкі Анелі».

3

Паклікалі матку.
Сказалі ўсю праўду,
што толькі адзін і знайшлі яны спосаб.
Што кожны
жыццё
на ратунак аддаў бы,
каб толькі на тое яно прыдалося б...

Ды ўсё немагчыма.
Дазорац варожы
ля дроту калючага ходзіць няспынна.
Малая адна перанесці і зможа,
яна ж у цябе не дурная дзяўчына...

— Прарэзалі лаз невялікі мы ў дроце.
Якраз ад алешніку пень каля дроту.
Пакуль той дазорац хаду павароціць,
яна і пачне памаленьку работу...

Матуля за сэрца ўзялася рукою.
— Ды што вы, суседзі?
Загіне малая!
— А мы пагаворым спачатку з малою.
Няма больш ратунку.
А час —
не чакае...

4

Паклікала маці дачушку малую.
Маленькая добра усё зразумела;

што тату ад смерці яна адратуе,
як будзе ісці асцярожна і смела...

Пасля на яе апранулі ватоўку,
пасля падкасалі ў ватоўцы рукавы...
Пайшла памаленьку малая галоўка,
панесла у лагер вялікую справу...

5

Стаялі ў кустах барадатыя людзі,
якія не ведалі страху ніколі.
А ў тыя хвіліны сціскала ім грудзі
цяжкім і адрывістым неякім болем...

Глядзелі усе на дзяўчынку малую,
як быццам трымалі сваімі вачыма.
Дзяўчынка прайшла цераз пастку такую,
якую нікому прайсці немагчыма.



Прыйшла. Расказала.
— Ой, мамачка, мама!
А татка мяне цалаваў, абнімаў там!
І дзядзі мяне цалавалі таксама,
казалі, што заўтра ўсе прыйдуць дахаты...

Пятнаццаць разоў так у лагер схадзіла,
аднесла адзін па адным пісталеты.
Аднесла гранаты. Аднесла ім сілу,
з якою яны дасягнуць сваёй мэты...

Што маці адчула у тыя хвіліны,
як вусны пякельна ад смагі гарэлі,—
без слоў зразумеюць у нашай краіне,
не толькі хто быў у салдацкім шынелі.

7

Апоўначы выбух адкінуў вароты,
збянтэжыў сваёй нечаканасцю варту.
Стралялі спачатку па варце з-за дроту,
пасля —
 падмацунак прынеслі гранаты.

І варты не стала.
 Ўсе выйшлі з-за дроту,
да родных вярнуліся тата і дзядзі.
— Ты спрытная будзеш да ўсякай работы,—
татуля казаў і галоўку ўсё гладзіў...

8

Гляджу на цябе.
 Ўсё звычайна,
 як быццам:
і русыя косы, і ўсмешка, і вочы.
Не толькі адна ты такая, сястрыца,

з красою звычайнай, з красою дзявочай...
Чаму ж да цябе маё сэрца імкнецца
і з думак маіх ты ніяк не выходзіш?
Не толькі такое адно маё сэрца,
такіх жа нямала у нашым народзе...

Я нават не буду пытацца нікога,
ці ты — гераіня, ці — не гераіня:
маленькія ножкі ўзышлі на дарогу,
якую ніколі, ніколі не кінеш...

*1958*

## ПАСТАЎСКАЯ ПАРТЫЗАНКА

Прысвячаю Тамары А-ика

Адыходзілі нашы на ўсход і на ўсход.
Адыходзячы — білі варожую рацъ.
Праклінаді і білі раз'юшаны зброд,
што ішоў рабаваць, руйнаваць і знішчаць.

Адыход не суладжваўся з думкай ніяк,
а снарады крышылі будынкі і шлях.
Да апошняга біў сінявокі юнак,
аўтамат ляскатаў безупынна ў руках.

На ліхое нямнога патрэбна хвілін:
ні шукаць, ні гукаць — яно ходзіць само.
Падляцеў невялікі асколак адзін,
аўтамат у руках пахіснуўся і змоўк.

На пясок апусціўся і юны салдат,
на пясок і чырвоны струмень перайшоў.
На усход адыходзіў апошні атрад,
сінявокі застаўся юнак ад сяброў.

І дзяўчынка і хлопчык падбеглі ўдваіх,
разгарнулі бінты, бінтаваць пачалі.
Усміхнуліся сінія вочы да іх:
— Адчуваю, што я — на радзімай зямлі...

Над Паставамі хмарай качаецца дым,
ад матораў чужынскіх аж стогне абшар.
Супыніўся адзін.
А на тым,
на адным —
смерць па сінія вочы якраз і прыйшла...

З пісталета ударыла ў грудзі яму,
і далей пакацілася чорная смерць...
Гэта ж толькі пачатак нябачаных мук...
Як іх толькі адолець і як іх цярпець?

Так,
з усмешкай на вуснах,—
якою вітаў
і хлапца, і дзяўчынку,—
юнак і замоўк.
А яна —
ўсё трымала кавалак бінта,
і ніякіх
ніяк
не знаходзіла слоў.

А пасля схамянулася:
— Браце, скажы!
Гэта людзі?!
— Хіба ты не бачыш сама?!

— Аж зямля наша стогне ад жалю, дрыжыць,
як іх толькі зямелька і можа трымаць!

Паклянёмся і небам, і роднай зямлёй,
і жыццём паклянёмся сваім маладым,
што за гэты разбой — не даруем з табой!

. . . . . . . . . . . . . . .

І яны — пакляліся тады.

. . . . . . . . . . . . . . .

Час ішоў нечувана цяжкі па зямлі,
красавалі і кветы на нашых лугах.
А дзяўчаты з тых кветак вянкоў не вілі,
бо трымалі яны аўтаматы ў руках...

З партызанскім атрадам хадзіла і ты
па сыпучых пясках, па дарожках лясных.
У паветра ўзляталі вагоны, масты,
падрывала і ты ненавісны «бліцкрыг»...

Два жыцці пражыты ў кароткім адным,
па дарожках лясных, па сыпучых пясках.
Не пагасне ніколі пра іх успамін,
бо цяжкі і вялікі
кароткі той шлях.

Задуменна гляджу на тваю пекнату,
надзівіцца ніяк на яе не магу.
І здаецца мне ўсё:
ты стаіш на пасту,
а навокал — бярозкі, ядловец, багун...

І цяпер,
калі ціха сядзіш каля кніг,
каля новых сябровак тваіх баявых,
або выйдзеш чытаць навуковы даклад,—
не падумаюць нават, што лектар —
салдат...

Дарагая, каханая!
Ты — не адна.
І у гэтым —
вялікае шчасце для нас.
Для такіх,
гартаваных,
не будзе цяжкі
руль,
які аддадуць вам
па праву
бацькі.

*1958*

## ТЫ, ЛАРЫСА, ТАКСАМА ЗАРНІЦА

Ларысе Папугаевай

Хіба мала ў табе хараства, пекнаты?
Не хапае пяшчоты на вейках?
І на постаць ад іншых не горшая ты,
і чаруеш прывабаю нейкай...

Дык чаму б і табе над красуняй Нявой
не фарсіць закапроненай ножкай?
Не прайсціся паўз вуліцы пругкай хадой,
не знайсці прыдатнейшай дарожкі?

Калі покліч над нашай айчынай прайшоў;
«Мы свае адшукаем алмазы»,—
на спартыўны гарнітур змяніла ты шоўк
і ў паход узнялася адразу.

Не сатлее і модная сукня твая,
дачакае цябе з вандравання,
і набудзе красы удвая, утрая,
на тваім апынуўшыся стане...

Пра капрон і пра лёсы сукенкі тваёй
я згадаў, каб пабачыць усмешку:
пасмяешся ты шчыра з праблемы такой,
калі ўспомніш таежныя сцежкі...

Я іх ведаю сам, бо нямала гадоў
прасякаў для такіх вось, харошых.
І таксама не згадваў ні воўну, ні шоўк,
і таксама без іх не пагоршаў...

Розум ясны вышэй драбязы заўсягды,
не шукае ён лёгкага хлеба.
Пракладаюць шукальнікі смела сляды
цераз пусткі, прадонні і неба.

Ты пайшла... Гэта ж лёгка сказаць, а куды? —
У тайгу... за тайгу... цераз горы...
Там і летам пад мохам не таюць ляды,
вецер толькі з тайгою гаворыць...

І гаворыць з тайгой, і шуміць ля цябе,
рассыпае ўсялякія жахі.
Ён аблічча сячэ, ён за косы скубе,
аж каменне кранае з размаху...

І адкуль непахісная моц у цябе?
І трываласць адкуль узялася?
Гэта ж гнус, як шалёны, у вочы ўсё б'е,
недабіты таежны уласнік...

Праз пакуту, праз вецер, праз багны балот,
адпачынак шукаючы ў дыме, —

праз тысячы розных прайшла перашкод
у нязломным юнацкім уздыме.

Кімберліт і піропы схавала тайга,
абамкнула замкамі скарбніцу.
Ды якая ахова на ёй ні лягла б —
ты прымусіш яе адчыніцца!

Ты ўстаеш, ты ідзеш, немаведама як,—
праз вятры, праз пакуту, завалы...
А дайшла, а знайшла, і, як першы маяк,
як дарунак — Зарніца паўстала.

І не толькі маяк для алмазных крыніц,
кімберлітавай трубкі адзнака,—
а для ўсіх,
хто ў шуканнях няспынных гарыць,
перашкод не баіцца ніякіх.

Яны пройдуць — такія — нязломнай хадой
праз тундры, тайгу, праз палессі,
яны пройдуць, агорнутыя пекнатой,
як найлепшая самая песня.

Хоць не кожны з іх знойдзе сапраўдны алмаз,
але будуць знаходкі ільсніцца!
І згадаюць цябе, тваю ўпартасць не раз:
ты, Ларыса, таксама Зарніца!

*1958*

# У ДАРОЗЕ

М. З-ай

Не знаю, згадаеце можа калі
вагон гэты, ўдаль што імкнецца,
і снегам ускрытае голле ялін,
і сцюжай кранёнае сэрца...

Абапал ідзе, адбягае ад нас
снягамі ускрытае голле.
А сцюжа ад сэрца...
Ці згіне яна?
Ці знікне ў шырокае поле?

Вазьміце, на ласку, вы свой стэтаскоп,
мой доктар, пяшчотны і строгі.
Як, [redacted] вашай парады, мне добра было б
пазбыцца апошняй трывогі.

Рэцэпт ваш, я ведаю, будзе адзін:
«Працуй без сяброўства з тугою!
Ад сэрца і тлум і лухту аджані,
ў жыцці ж нам трапляла не тое!..»

Я вашу параду згадаю-такі,
згадаю і вас не аднойчы,

і вобраз, сардэчны і шчыры такі,
цудоўныя палкія вочы.

Згадаю ваш вобраз сардэчны не раз
і голас павольны, напеўны,
якім асалоду вы неслі для нас
у час той...
Згадаю напэўна!

А вы, ці згадаеце, доктар, калі
вагон гэты, ўдаль што імкнецца?
І снегам ускрытае голле ялін?
Надзеяй спавітае сэрца?..

*1958*

## НА САМОЙ РАДЗІМЕ

Стаяў вось тут калісьці дом,
вайна каля яго хадзіла.
Сваім мячом, сваім агнём
яго пасекла і спаліла.

Бярозы дзве каля яго,
бярозы дзве над ім шумелі.
Не мог іх спапяліць агонь,
мячы дапамаглі не вельмі.

Сяброўак прывітаў старых,
мяне сяброўкі прывіталі.
— Ваш гоман так і не заціх?
— Цябе не ўкалыхалі хвалі?

Жывіце век, жывіце два,
мае зялёныя сяброўкі!
Адна панікне галава —
ўзрастуць мацнейшыя галоўкі.

І каля вас, у добры час,
пад засень гоману і веццяя,
пасядуць так, як мы не раз,
шчаслівыя пасядуць дзеці.

Яны і дачытаюць там
недачытаныя старонкі.
Я песні ім свае аддам,
а вы дасцё свае гамонкі...

*1958*

## ЗНОЎ ВАС ПАБАЧЫЎ

Зноў вас пабачыў, бярозы старыя,
ваша утульнасць ізноў мяне крые.

Ціха гамоніць і вецце, і лісце,
як гаманіла калісьці, калісьці...

Вашы вяршыні кранаў я рукою,
ў вашых шатрах я шукаў супакою.

Нас над зямлёй вы ўзнасілі высока,
нас, напрадвесні, паілі вы сокам,

каб шанавалі ад шчырага сэрца
тую зямлю, ад якой ён бярэцца.

Гэту пашану ніколі не трацію,
а узмацняў яе шчыраю працай.

Зноў вас пабачыў, бярозы старыя,
ваша утульнасць ізноў мяне крые...

*1958*

## ПАСТАВЫ

Маёнткі меў тут царскі дзядзя,
палац тут паляўнічы ладзіў.
Запалявалі і самога,
бо ён адзін, а нас жа многа.

Цяпер прыдбалі лепшай славы
жыццём адноўленым Паставы:
народ сваёй паставіў працай
патомкам і сабе палацы!

*1958*

## МАНЬКАВІЧЫ

І тут паноў было нямала,
як толькі іх зямля трымала!
Ды не хапіла цярплівосці:
дала ўсім месца на пагосце.

Прыйшлі рабочыя, сяляне —
змянілі ўсё да непазнання:
такія хаты і прасторы,
што і не сніліся учора.

*1958*

## ВЕРАС

Ты ляжыш у мяне на далоні,
найдрабнейшая з кветак.
Я пытаўся, пытаю сягоння:
чым ты вабіш нас
гэтак?

Ледзь прыкметны для нашага вока,
быццам зернетка маку.
Ад зямлі не расцеш ты высока,
і заўважыць не ўсякі.

А калі расцвіцеш на узлессі,
закрасуеш у пушчы,—
харастовм ты тады апранешся,
сапраўды, неўміручым.

Найдрабнейшыя кветкі ствараюць,—
твае, верас любімы,—
пекнату, што гарыць, не згарае
у цудоўных кілімах.

Як пабачу цябе, так і ўспомню
пералескі, палеткі,
дзе калісьці узяў на далонь я
ўпершыню твае кветкі.

*1958*

## КРАСА ЦУДОЎНАЯ ІДЗЕ

Стаю на беразе крутым
каля азёр.
Зіхцяць праменнем залатым
вяночкі зор.

Адлюстраваўся з зорамі
ў вадзе блакіт,
ці гэта зоры разам з ім
каля ракіт?

Ці гэта месяц перайшоў
у вышыні,
ці ў небе, каля тых агнёў,
і зямлі агні?

Краса цудоўная ідзе,
на верасы расой імжыць...
Для нашых думак,
нашых дзей
ёсць рубяжы?

*1958*

## ІДЗЕ МАЙ

І снег ляжыць на дрэвах —
красавік не змёў.
А мы пачулі спевы
салаўёў.

Прыйшла пара для песні —
не супыніш лёт,
Калі ідзе прадвесня —
крышыцца і лёд.

Далёка пройдзе песня,
не знаўшы берагоў,
як сёння, напрадвесні,
ідзе ад салаўёў...

Увесь прастор шырокі
святкуе твой прыход.
Твае вітае крокі
працоўны наш народ.

*1958*

## ЛІСТАПАД

Лісцё страсае вецер
з дрэў
на пожні, на дарогі.
Калыша ён у вецці
спеў,
а ў спеве жалю многа.

Але дарма: не стане
ён
ля нашага парога.
Ўзялі мы з адцвітання
плён,
а ў ім уцехі многа.

*1958*

## ВОСЕНЬ

Набліжалася восень да нас ціхутка.
Уцякала лета ад восені хутка.

Пагубляла, ўцякаючы, лета уборы.
А яны — у амшарах, у пушчы,— як зоры.

Як чырвоныя зоры, каліна, брусніцы.
У іх пра новае лета надзея ільсніцца.

*1958*

## ПЯЛЁСТКІ

Узрасла яна на ўзлессі,
узрасла на сенажаці.
Пра яе спявала песню
ў маладосці твая маці.

Сцежкай ты прыйшла таптанай
да прыгожай кветкі гэтай.
Даручаеш ёй таксама
таямніцы ўсе свае ты.

Па адным лятуць пялёсткі,
покуль дойдзеш ты да лёсу.
Так і лёс рукою жорсткай
адкідае нашы вёсны.

І яны злятаюць так жа,
як пялёсткі з кветкі быццам,
А калі апошні ляжа,
дык і нам пара лажыцца...

*1958*



Русыя косы і сінія вочы,
што пажадаць вам і што напрарочыць?

Долі шчаслівай? Ніякага жалю?
Так і жадаю вам, мілая Галя!

Шлях наш жыццёвы нялёгкі, выбойны,
смутак няўгойны пакінулі войны.

Гора ўставала да неба гарою
ды сябравала з цяжкою бядою.

Перапалілі на попел бяду мы,
зніклі з бядою і горкія думы,

каб і не ведалі, каб і не зналі
людзі працоўныя смутку і жалю,

каб усміхаліся вочы, як зоры,
што ў неаглядным вандруюць прасторы.

Русыя косы і сінія вочы!
Шчырае сэрца вам гэта прарочыць!

*1959*

## МНОГА КАЗАК РОЗНЫХ

Многа казак розных
нам складалі продкі.
«Шлях да шчасця доўгі,
да бяды кароткі»,—

так яны навучалі,
так яны вучылі,
а людская думка —
узнімала крылле.

Каб у нас не згасла
да шуканняў сіла,
казка і такая
праз народ хадзіла,—

як з малога зерня
ды узняўся волат
і як ён закінуў
аж на неба молат.

Небу заручаўся
і прасіў у сведкі,
што тырана-змея
знішчыць сілай гэткай.

І на неба кінуў
так высока молат,
што на пяты дзень той
павярнуўся долу.

З ім, такім надзейным,
і пайшоў у пошук
казачны наш волат —
Пакацігарошак.

Адшукаў ён Змея.
Знішчыў таго Змея,
каб была надзея,
каб жыла надзея —

што ніякай сілай,
што ніякім путам.
нас не скруціць вораг,
нават самы люты.

Будзе вечна з намі
і да шчасця пошук,—
молат н а м пакінуў
Пакацігарошак!

І цяпер мы кажам
горда, без трывогі:

шлях да шчасця быў наш
і цяжкі, і доўгі,—

ды ніхто, ніколі
нас назад не верне:
сталі з нашай працы
явай летуценні.

*1958*

## НАД ДНЯПРОМ, НАД ВОЛГАЙ

Над Дняпром, над Волгай,
над Масквой-ракою,—
скрозь жыццё пульсуе,
шпаркае такое.

Даганяем час мы,
абганяем гукі.
Гэта мы ўсё робім:
галава і рукі...

Дзед, за ім і бацька
пехатой хадзілі,
ўнукам шын замала,—
ўнукі ўжо на крыллі!

Ды якое крылле!
Як махне — паўнеба!
І таго нам мала,—
большага нам трэба.

— Вам на ясны Месяц? —
Вось ён, калі ласка!
Вам на Марс далёкі?..
Здзейсніліся казкі!

Самай смелай казцы
раўнавацца нечым.
А яшчэ ж мы толькі
выпрасталі плечы!

*1958*

## АЖ КІПІЦЬ, ЗДАЕЦЦА

Аж кіпіць, здаецца...
Не жыццё, а кіпень!
Цераз край высокі
шумавінне выкінь.

У пясках сыпучых,
у балотнай твані
стала ўсё інакшым,
аж да непазнання.

Што — згарыць на вугаль,
што — металам стане.
Здзейснены лятункі нашы
і жаданні.

Нам патрэбна ўпартасць,
нам патрэбна сіла,
каб тварыла ў доле
і на высь насіла.

Пройдуць і пашырацць
шлях і пераходы
волаты, якія
роджаны народам!

Ім не будуць страшны
ні агонь, ні воды.
Мэта ёсць? Да шчасця? —
Значыць —
поўным ходам!

*1958*

# ЛЯ МЯДЗЕЛА ЁСЦЬ ВОЗЕРА АДНО

Паэту-земляку

Ля Мядзела ёсць возера адно.
Над ім дубы шумяць, гамоняць сосны.
У ім, як у празрыстай кроплі роснай,
для воч ніколі не закрыта дно:

заўсёды светлае і чыстае яно.
Каля яго спыняюцца і вёсны
здзіўлёныя, у захапленні млосным,
а кветы — завіваюцца ў вянок.

Пра возера я ўспамінаю гэта,
чытаючы любімага паэта:
ад сэрца шчырага глыбокі твор.

Я думаю, ты не аднойчы бачыў
лясное гэна возера, зямляча:
ты ж пахадзіў нямала ля вазёр!

*1958*

# КАЛІСЬЦІ З ЛІХТАРОМ ХАДЗІЎ УДЗЕНЬ

Ж. Л-най

Калісьці з ліхтаром хадзіў удзень,
шукаўшы чалавека, той філосаф.
А людзі на яго глядзелі коса,
пакрыўджаныя за другіх людзей.

Яму, як многім у такой хадзе,
дабро і зло пабачыць давялося.
Магчыма, ён не дапытаўся лёсу
і не знайшоў шуканага нідзе.

Каб ён дажыў да нашых дзён цудоўных, —
пабіў бы свой ліхтар ён, безумоўна!
Бо без яго такіх знайшоў бы шмат,

якія роўна ў радасці, ў нягодах
табе аднолькава гавораць: Брат!
Перад такімі я схіляюся заўсёды.

*1958*

## ІНТРАДУКЦЫЯ

Ніхто спрачацца з тым не будзе,
што ўсюды шмат мясцін прыгожых.
Чаго б імкнуліся так людзі
абавязкова ў падарожжа?

Дзе-небудзь каля кіпарысаў
або ў марской салёнай пене
яны красы шукаюць рысы,
жывыя бачаць летуценні.

Каб не застацца ад людзей нам,
каб пашукаць мясцін прыгожых,
згадалі спосаб мы надзейны
і едзем такжа ў падарожжа.

«Мы»,— зразумела, не адзін я.
Па праўдзе кажучы, нас трое.
Вядзі ж нас, добрая часіна,
і дай нам творчага настрою!

Калісьці, у старой Эладзе,
хадзілі вандраваць рапсоды.

Было ў іх творчасці суладдзе
з жыццём і думкамі народа.

Яны хадзілі пехатою,
а часу ўсё ж _ткі ім хапіла,
каб свету расказаць пра тое,
якую меў народ іх сілу,

як працаваў, пра што ён мроіў,
пра што іграў на лірных струнах,
як здабылі яго героі
за морам залатое руна...

У нас машын усякіх поўна,
нямала ёсць і параходаў.
Ідзі,
плыві,
ляці —
ўсё роўна —
пазнай жыццё свайго народа!

Пазнай жыццё, ўшануй яго ты,
каб песня, як крышталь, звaніла,
а працы творчае узлёты
паўсталі ў ёй з чароўнай сілай.

Уславім дзеі і прыгоды,
што тут былі,— ў барах, дубровах,
пакуль зара ўзышла з Усходу
і дзень пачаўся
светлы,
новы.

## ДАРОГА

Шляхі і гасцінцы ў прасторах радзімы!
Над вамі праходзяць і вёсны, і зімы,

і лета цвятлівае з сонцам гарачым,
і восень сцюдзёная з ветрам і плачам.

А людзі шляхамі-гасцінцамі едуць,
няма тут ніколі завялага следу...

Ні ў песні, ні ў казцы, ні ў кнізе найлепшай
няма асалоды для сэрца мілейшай,

якую прыносяць гасцінцы-дарогі
юнацкаму сэрцу і сэрцу старога.

Навокал бязмежныя нашы прасторы,
абапал прысады, палеткі, азёры.

Ад кветак улетку нам водар духмяны,
увосень віюцца кілімы туману,

зіма свой абрус беласнежны пасцеле
з найлепшай, са срэбнай, з пушыстай кудзелі.

Калісьці ў малецці шукалі мы, дзеці,
а дзе ж той канец для дарогі на свеце?

Хадзілі далёка маленькія ножкі.
Нідзе не канчалася тая дарожка...

У веку дарослым хадзілі нямала.
У нашых паходах чаго не бывала!

Чаго не пабачыла вока людское!
Сказаць аніяк немагчыма пра тое!

А толькі ў дарозе не бачылі краю,
за пройдзенай — з гакам — пачнецца другая.

А гэтага гаку прайсці немагчыма,
як нельга яго перагледзець вачыма...

## КАРТУЗ-БЯРОЗА

Абліты кожны камень тут слязьмі
і на дарозе пліты.
Народам нашым, нашымі людзьмі
ўсё гэта не забыта.

Паны вялі сюды братоў маіх,
у ланцугі закутых,
за тое, што ўзнімаліся на іх,
каб знішчыць путы.

Каб знішчыць здзек, няпраўду на зямлі,
ўзнімалі людзі зброю,
каб больш ніколі ў кайданах не йшлі
народныя героі..

І ён прыйшоў да нас, святочны дзень,
жалобны для палацаў,—
няма уціску, кайданоў нідзе,
запанавала праца.

Як несмяротны помнік на зямлі,
слязьмі аблітай,
палац Святла ў Бярозе мы ўзняслі
на гэтых плітах.

Святло нагадваць будзе нам усім,
што тут браты і сёстры,
імкненнем аб'яднаныя адным,
тачылі меч свой востры.

## ДУМКІ НА БУДАЎНІЦТВЕ

...О, каб такі
пабудаваў хто гмах!
На ім каб быў адзін
вялізны дах,
каб міліён пакояў
ён узнёс
для беднякоў,
якіх пакрыўдзіў лёс...

*Ду Фу*

1

Наўчалі нас, што бог усемагутны,
што ён стварыў Сусвет адзіным словам.
Чаму ж ён даў людзям усім пакуту
тварыць яму, такому майстру, сховы?
Чаму сабе ніколі не паставіў
ён хоць адну маленькую капліцу?
Народы свету ўсемагутнай славе
пабудавалі храмы і званіцы.
Іх аздаблялі дарагім каменнем,
для бога шылі залатыя шаты.
Пасля — стаялі ў храмах на каленях...
І хоць для смеху б выстаяў хто хату!

2

Высока ўзнёс Егіпет пірамíды,
да нашых дзён здзіўляючы народы.
Сады вісячыя былі ў Семірамíды,
бо паднявольных рук было не шкода.
У пірамідах леглі фараоны,
гавораць іерогліфы пра іх нам.
Будаўнікоў забытыя імёны
не памінаюць ні дабром, ні ліхам.
А што будаўнікі сабе стварылі,
што атрымалі ў спадчыну іх дзеці,—
няма адказаў ні ў магутным Ніле,
не прынясе іх асірыйскі вецер...

3

Вялося так ад Нёмна і да Ганга,
ад Хуанхэ да Тыгра і Еўфрата.
Адны гібелі ў фанзах ці ярангах,
другія з палону іх жылі багата...
Адна пакута ў розных частках свету
была для продкаў гарацешных нашых.
Бізун аднолькавы усіх іх страшыў,
іх уціскалі для адзінай мэты:
забраць усё, што робіць-творыць праца,
рай на зямлі стварыць панам вяльможным.
Пачаў урэшце і народ пытацца:
— А для сябе хіба нам жыць няможна?!

4

Пералятала думка цераз горы,
пераплывала думка акіяны.
Шукала лекаў ад цяжкога гора
для ўсіх пакрыўджаных і занядбаных.
Вадзіла іх у свет зачараваны,
тварыла ім дзівосныя палацы...
Адпачывалі там яны без пана
ад паднявольнай, ад прыгоннай працы...
Хапала там усякага убрання,
спявалі песні птушкі-чарадзейкі,
як салаўі у пушчы на світанні
ці над ракой палескія жалейкі...

5

У дзюбках носяць ластавачкі гліну,
з маленечкіх драбочкаў лепяць гнёзды.
І чалавек, будуючы хаціну,
падобны быў да ластавачкі борздай.
Адлучаны мяжою ад суседа
і песняю старой — «маё» і «ваша»,—
ён праз жыццё адны пакуты ведаў,
не перабыў і дня, не гараваўшы.
Ён быў прывязаны да тых памежкаў,
ды нават горш: ён быў да іх прыкуты.
Жыццё глядзела на яго з усмешкай:
прывабу чалавек знайшоў у путах!

6

Працуюць дружна дробныя мурашкі,
ў будове іх — сто дваццаць пяць паверхаў.
Нам уявіць і то бывае цяжка,
як дом такі зрабіць на нашу мерку.
Дзівіліся на іх у старадаўнім часе,
былі не раз і мы ля іх з бацькамі.
А кожны ўсё ж асобна будаваўся:
«маё» і «ваша» — вельмі моцны камень.
Ду Фу на іх дзівіўся, пэўна, такжа,
калі пісаў пра міліён пакояў.
І толькі сёння прыкладам мы кажам,
што м о ж а быць на свеце і такое.

7

Усё, пра што калісьці снілі людзі
ці летуцелі, як аб нейкім цудзе,—
прыйшло да нас пасля упартай працы,
прыйшло, бо мы выходзілі змагацца.
Змагаліся за новую мы праўду,
перамаглі мы панскую уладу,
ушчэнт скрышылі тыя перашкоды,
якія заміналі шлях народу.
А векавечныя ўсе летуценні
ў жыццё ператварыў вялікі Ленін
і даў багацце ўсёй сваёй навукі
людзям, працоўнаму народу ў рукі.

8

На вахту ўся Рэспубліка устала:
чыгункі, гуты, фабрыкі, цагельні.
Сваёй работай кожны даў нямала:
хто за рулём, а хто рыдлёўкай, кельняй.
І на «зубровых» непахісных шынах,
і на руках магутных стромкіх кранаў —
да кожнай урачыстай гадавіны
вялікі плён прыносілі аддана.
Геройства працы, любасцю пранятай,
ніколі ў памяці людской не звяне.
Былі рабочыя тут, хлопцы і дзяўчаты,
былі інтэлігенты і сяляне...

9

Не ўсемагутны бог і не малітвы,
а ўсемагутная людская праца
ішла на аднаўленне, як на бітву,
каб на руінах выраслі палацы.
Яны і выраслі, яны і сталі
дакладна там, дзе і стаяць павінны.
У іх лягло багата вельмі сталі,
але не менш і беларускай гліны.
Яе, з пяском мяшаную, мачылі,
яе мясілі, як у дзежцы цеста,
каб не было ніколі ў цэгле шчылін.
Аж звоніць цэгла, як яе кранеш ты!

10

І так, як зубчыкі ў якой машыне,
адно другое кліча на памогу.
Багацці ўсе бязмежнае айчыны
ідуць адной вялізманнай дарогай.
А людзі! — Найвялікшае багацце,
якое свет наш неаглядны мае!
І ў камяніцах і ў вясковай хаце
яны жыццё
жыццю
жыццём ствараюць.
Якія б ні з'явіліся машыны,
што нават зоры ў небе зрушаць з месца,
а чалавек, стваральнік іх адзіны,
кіраўніком над імі застанецца.

11

Не вырастаюць самі камяніцы,
узносіць іх народ працоўны ў высі.
Не можа праца гэта супыніцца,
як ні адзін паход наш не спыніўся.
Майстры сівыя навучаюць моладзь,
перадаюць ёй скарб сваёй навукі
і дзівяцца з таго, як хутка ловяць
сакрэты ўсе іх маладыя рукі.
А з воч блакітных, шэрых, васільковых
ляціць да іх задзірыстая ўсмешка:
— Мы шчыра дзякуем за вашы словы,
але шырэйшай будзе наша сцежка...

12

Яны нядаўна бегалі ў школу,
дарослым крыху памагалі дома,
хадзілі ў лес грамадкаю вясёлай,
дзе ўсе сцяжынкі ім былі знаёмы.
Пра нешта марылі, пра нешта снілі,
і ўсё было бадай-што невыразна.
Пасля жыццё ім апярыла крылле
і асвятліла шлях праменнем ясным.
Прайшлі яны рабочую навуку,
пазналі, што і ад чаго бывае.
Навука йдзе ад дзеда да унукаў
і з кожным разам сілы набывае.

13

Люблю я сам упартую работу,
на рыштаваннях пахадзіў нямала.
Ад сцен і да аконных пераплётаў
рабіў я ўсё сумленна і трывала.
Калі ж маё канчалася заданне,
шуруп апошні быў завінчан туга,—
мяне адразу брала хваляванне,
нібыта пакідаў свайго я друга.
Прыносіла мне ўцеху думка тая,
што будуць жыць шчаслівыя тут людзі.
Сумленнай працай іх сваёй вітаю,
людское шчасце — нам натхненнем будзе.

14

Каб хто гадоў мне скінуў хоць дзесятак,
вярнуў назад мне сілу маладую,
ізноў я стаў бы ля свайго варштата,
які, напэўна, без мяне сумуе.
Не йдзе вада з глыбінь марскіх у рэкі,
не ходзіць сонца з захаду да ўсходу.
Не шкода дзён мінулых чалавеку,
калі сумленна ён служыў народу.
Гляджу на моладзь я з замілаваннем:
бадзёрая і здольная якая!
Мы добра бачым яснае світанне,
яна ж і Камунізм, напэўна, прывітае!

15

Агнём палае творчае натхненне,
яно ніколі не пагасне ў сэрцах.
Здзяйсняючы ўсе казкі, летуценні,
народ працоўны ў далі ўсё імкнецца.
На дне марскім, у космасе бязмежным,
і на зямлі, і пад зямлёй глыбока,—
па-гаспадарску, цвёрда, як належыць,
ён правярае ўсё уласным вокам.
Сусвет здзіўляе веліч нашых планаў
і поспех працы нашае няспыннай.
Увесь народ свядома і аддана
будуе гмах Савецкае айчыны.

Стаяць яму бясконцыя сталецці,
не пахісне яго ніякая навала!
Няхай развее ў чыстым полі вецер
усё, што чорнай хмарай тут стаяла.
Не пахісне яго ніякая навала,
да творчай працы ён другіх абудзіць.
Пасведчыць ён, што нас адно натхняла:
каб шчасце роўнае пазналі людзі!
А тых, што гмах узносілі ў руінах,
што сны вякоў зрабілі яснай явай,
з усім народам нашае айчыны
мы ушануем неўміручай славай.

## — ВЫДАТНА,— КАЖА МАЙСТАР,— МАЛАЙЧЫНА!

— Выдатна,— кажа майстар,— малайчына! —
калі паклаў ён першую цагліну.
Ён для другой
раствору кельняй кінуў...
Якая урачыстая часіна!

## ЗВЯРШЫЛІ МУР

Звяршылі мур. Вакол стаяць сяброўкі.
Адна кладзе апошнюю цагліну.
Ці зразумее той,
хто не насіў спяцоўкі,
якая урачыстая хвіліна?!

## ПАЛЕССЕ

Уладыслаў Сыракомля,
наш зямляк знакаміты,
даў пра гэта наўколле
верш свой, смуткам спавіты.

Ён пакінуў на памяць
нам малюнак праўдзівы.
Пачытаеш — устануць
тыя вёскі і нівы.

*«У пясках, пры балоце,*
*пры азёрнай затоцы,*
*вёска стала ў самоце,*
*як жабрак дзе пры плоце.*
*Сосны скардзяцца, шэпчуць,*
*над нядоляю плачуць.*
*А ў той вёсцы галеча!*
*Выгляд вёскі жабрачы:*
*У зрэбнай вопратцы людзі —*
*не адзеты, не голы.*
*Закурэлыя, ў брудзе,*

ў свет глядзяць невясёла.
Сцены ў цвілі і гнілі
у стадолах і хатах.
Іх чаротам накрылі
і саломай бахматай.
Бусел, сторож хаціны,
склаў гняздо на страсе тут,
нібы даў селяніну
ён для шчасця прыкмету.
— Эх, пляцеш ты, мой мілы!
Ў вёсцы буслаў нямала.
Каб варожбам мець сілу —
шчасце скрозь красавала б!
— О! Жывём мы шчасліва:
ані хлеба, ні солі.
Лёг пясочак на нівах,
зрос палын у стадоле...
Думка схавана змрокам,
быццам іскрынка ў прыску.
Уздыхне ён глыбока
па сабе і па блізкіх.
Б'ецца сэрца людское,
нібы молат у кузні.
Возьме так за жывое,
што на бога заблюзніць.
Угінаюцца плечы,
слёзы коцяцца з болю.
Варажбой, чалавеча,
не адолець нядолі.
Нас зраклося і сонца:
дзесь яно ў акіяне.
Бусел нашай староньы

*стуль прыносіць вітанне.*
*Ен ляціць з небасхілу,*
*нішчыць гадаў гатовы...*
*Не птушынаю сілай*
*зняць усім ім галовы!*
*Каб пазбыцца напасці,*
*каб сябе ашукаць чым,*
*хлусім сэрцу пра шчасце,*
*хоць яго і не бачым.*
*Людзі, быццам як дзеці:*
*шчасця, кажуць, чакаем!*
*Покуль сонца засвеціць —*
*выесць вочы раса ім»* [1].

Ах, зямляча, зямляча,
дарагі Сыракомля!
Як жа час перайначыў
за стагоддзе наўколле!

Не пазналі б сягоння
аніяк вы Палесся, —
тут сталёвыя коні,
тут шчаслівыя песні.

Тыя ж самыя хвоі,
што пры вас галасілі,
заспявалі такое,
што ўзнімае на крылле.

---

[1] W. Syrokomla — «Z wrażeń poleskiej podróży», 1850 г.

А па вёсках — прасторы:
ні памежкаў, ні пана.
Гора знішчана ў корань,
больш няма занядбаных.

Электрычнасць у хатах,
быццам зоркі у вокнах.
Стрэх не ўбачыш бахматых,
воч не ўбачыш ты мокрых.

Не царква ці капліца —
ў вёсках клубы і школы.
Моладзь на вечарніцах
ходзіць з песняй вясёлай.

Стала полымя з іскры,
зазіхцела над намі.
Захаванае ў прыску,
занялося кастрамі.

Бусел — праўнук праўнукаў
тых, што вам клекаталі,—
са старою навукай
вымярае ўсё далі.

Ён знаёмым адзіным
быў бы ў тым падарожжы.
Ён не зрокся радзімы,
ўсё пра шчасце варожыць.

Не варожбы з малітвай,
а народная воля,
а упартыя бітвы
аднавілі наўколле!

## СТВАРЫЎ ЁН ЗАЛАТОЕ РУНА

Прыйшлося гора многа выпіць
далёкім продкам на балотах.
Пра гэта нам гаворыць Прыпяць,
спявае вецер у чаротах.

Дубы, што неба падпіраюць,
шумяць лістамі нам пра гэта.
Аповесць іх ідзе старая
над аднаўлёным нашым светам.

Народу скарбаў не было тут.
Стварыў ён залатое руна!
Ператварыў на сад балота,
зрабіў сапраўднасцю лятунак.

Было тут працаваць нялёгка,
каля размытай гэтай твані.
Як на вайне, ў траншэях вохкіх
змагаліся тады сяляне.

Перамаглі яны ліхое.
Не будзе праца іх забыта!
І месца стала, як не тое:
шуміць пшаніца каля жыта.

Людской упартасці і сіле,
ажыццявіўшай гэту справу,
да неба хай ляціць на крыллі
і не памрэ ніколі — слава!

## ЛЮБЛЮ ВЯСНУ

Люблю вясну, люблю я лета,
а больш за ўсё люблю я восень.
Яна усім людзям Сусвету
ў дарунак плён зямлі прыносіць.

Сады, палеткі, агароды,
ды і лясы густыя нават
даюць працоўнаму народу
свае плады з красой яскравай.

У чырвань, золата убраны
стаяць у пушчах нашых дрэвы.
А па-над імі несціхана
гучаць вясёлыя напевы.

І сам ты песняй адгукнешся,
бо перапоўнена ёй сэрца.
А калі трапіш на Палессе —
дык песня хваляй разліецца.

Бо анідзе, хоць свет прайдзі ты,
такога хараства не ўбачыш.
Усё ў Палессі ім ускрыта,
яго радзіма тут, няйначай.

Яно ў гаях, яно ў крыніцах,
яно ў кілімах верасовых.
Да неба з песняю імчыцца,
старой і разам вечна новай.

Людзям прыносіць асалоду,
дае упэўненасць і сілу.
Народ палескі — гэта волат,
яго і гора не схіліла.

Разважны, горды, працавіты,
ён перамог усе пакуты...
На ворага хадзіў у бітвы,
хоць вораг быў аж вельмі люты.

Ён у змаганні браў натхненне
да дзей выдатных і да працы.
Сушыў балоты, біў каменне,
каб лепшай долі дачакацца.

Яго жаданні і лятункі
гараць у казках-самацветах,
як неўміручыя лятункі
народа — творцы і паэта.

## ХТО ДУЖЭЙШЫ?

*Народная казка*

Аднойчы паляшук зімой
пайшоў з сякераю сваёй

у пушчу. Перайшоў ён гаць.
Зірнуў — аж ля гары стаяць

Мароз і Сонца. Побач іх
і Вецер з Хмарай удваіх.

Пра нешта сварка ў іх ідзе,
якой не чуў ніхто нідзе.

Пры чоўне ёсць заўжды вясло,
каб човен роўна ўдаль нясло.

У нас ёсць прымаўкі ў жыцці,
каб з імі добры шлях знайсці.

Адна на памяць і прыйшла
палешуку накшталт вясла:

«У самай лепшай сварцы — гразь.
Ніколі ў сваркі не залазь.

А калі б'ецца з панам пан —
трашчаць за іх чубы ў сялян».

Каб размінуцца як з бядой,
чупрыны ім не даць сваёй,

накіраваўся ён назад,
ды Сонца кінула пагляд

якраз у тую старану,
дзе ён з сякерай мільгануў.

Пабачыўшы яго з-за дрэў,
адразу Вецер зашумеў:

— Хадзі бліжэй і дай адказ:
хто найдужэйшы самы ў нас?

Пытанне даць за ўсё лягчэй,
знайсці адказ за ўсё цяжэй.

Дзівак адзін крутнёю слоў
збянтэжыць сотню мудрацоў.

І паляшук ім даў не ўраз
на запытанне свой адказ:

— Калі глядзець з усіх старон,—
Мароз дужэйшы! Майстар ён!

Мароз — кравец, цясляр, каваль.
Без малатка, цвікоў і паль

масты праз ноч адну кладзе
на самай шпаркай ён вадзе.

Праз ноч адну на цэлы свет
цудоўны шые ён сает.

Мароз усцешыўся:
— Так, так!

Відаць, разумны ты, дружбак!
А Сонца кажа:

— Эх, сынок!
А хто дае жыццю расток?

Ці вырасце што-небудзь вам,
калі я цеплыні не дам?

Прыграю я — і твой Мароз
пазнае самы горкі лёс:

растане ён. За ім услед
масты растануць і сает.

Схіліся ты перада мной,
перад магутнасцю маёй!

Тут Хмара гутарку ўсчала:
— А што з твайго таго святла?

Закрыю неба пеляной.
Зямлю ўсю залію вадой.

Над светам ноч устане ўдзень,
святла не стане анідзе.

Тады што зробіш ты са мной
усёй магутнасцю сваёй?

Дужэй за ўсіх на свеце я,
бязмежна ў свеце моц мая!

Схіліся, чалавеча, ніц!
Я ўся саткана з навальніц!

Смяецца Вецер:
— Вось дык на́!
Якая дужая яна!

А я павею над зямлёй!
Тады што зробіцца з табой?

Слядоў не кіну я ад хмар!
Я нават сонцаў знішчу жар,

бо разліецца, як струмок,
над светам цэлым халадок.

Магу паскідваць стрэхі з хат,
магу прыгнаць я з хмарай град.

Засыплю поле ўсё пяском —
нідзе не знойдзеш каласкоў...

Схіліся ты перада мной,
бязмежнай сілаю маёй!

А паляшук, як Вецер сціх,
пытае:
— Ты дужэй за ўсіх?!

А можаш гэтую гару
падняць да неба ты, ўгару?

Стаў Вецер дзьмуць, пагнаў віхры.
Віхры скавычуць ля гары.

Каменне коцяцца далоў
з крутой гары ад тых віхроў.

А вось гару — не варухне,
яна стаіць, як і раней...

— Эх, Ветру! — кажа чалавек,—
у праўдзе гарката — не здзек!

Хоць і вялікі ты ўладар
для нашых стрэх, для цёмных хмар,

але прайграў ты ўсё ж ігру:
адну маленькую гару

не зварухнуў ты, хоць на жарт.
Прызнайся сам, чаго ты варт?!

За Хмару Вецер адышоў
і крылле апусціў на дол.

Тым часам чалавек далей
шукае, хто за ўсіх дужэй.

Звярнуўся ўрэшце да Гары.
— Маніўся Вецер дагары

перакуліць цябе старчма.
Ты над яго дужэй сама?!

Гара ў адказ гаворыць:
— Не!
Няхай мана мяне міне!

Зялёны лес за ўсіх дужэй,
змагацца з ім за ўсё цяжэй.

Сваім карэннем точыць ён
мяне з усіх бакоў-старон.

Прайшлі да сэрца карані,
мяне руйнуюць з глыбіні.

Калі сягоння я стаю —
пакрышаць заўтра моц маю!

Падняў сякеру чалавек,
якой праз век нямала сек.

Ударыў раз, другі з пляча.
Пачаў тут волат-дуб трашчаць,

пасля скаціўся ён уніз
і на ялінках там завіс.

І хоць Мароз стаяў ля рук,
калі сек дрэва паляшук,

трымалі рукі цеплыню
ад працы, быццам ад агню.

Тады пазнаў вялікі сход,
што ні Мароз, ні Снег, ні Лёд,

ні Вецер з Хмарай на чале,
ні Сонца ў казачным святле

не перамогуць сілы той,
якая ў працы ёсць людской.

Людская праца —
уладар.
Яна на свеце гаспадар!

## ЦЯПЕР НЕ Ў ПЕСНЯХ, А НАЯВЕ

Цяпер не ў песнях, а наяве,
як акіян, шуміць пшаніца.
Яна людскую працу славіць,
пад ясным сонцам прамяніцца.

Машыны ходзяць там, дзе людзі
калісьці плавалі на чоўнах,
а на калдобінах і груддзі
пралёг асфальт істужкай роўнай.

Сады стаяць бясконцым пасам,
сады красуюць ля калгасаў.
Калі няма ў іх ананасаў —
і ананасы будуць з часам!

У кожнай справе нехта першы
праходзіць цяжкасці шукання.
Кладзе ён сцежку для далейшых,
кладзе ў падмурак першы камень.

І што ж? — Наяве, а не ў песні
ўжо вінаграду маюць гронкі
сыны савецкага Палесся,
яго шчаслівыя патомкі.

Хоць сябра мне адзін тлумачыў:
«Не Дошка гонару у вершах!» —
а ўсё ж ткі ў вершы я адзначу
энтузіястаў гэтых першых!

Не для нажывы ці багацця
гадуюць вінаград умельцы:
ў Міхалках Краўчанка Ігнаці,
Іван Цімохаў каля Лельчыц.

Не для уласнае карысці
яны ідуць за творчай думкай, —
з абмежаванасці каб выйсці,
ажыццяўляць ідуць лятункі!

Вітаю ўсіх я шчырым сэрцам,
стаяць на месцы хто не хоча,
хто ў далі новыя імкнецца,
хто сцежкі новыя ўсё топча!

За імі пройдуць паслядоўцы,
сцяжынка бойным шляхам стане!
Спрадвеку так ідзе пад сонцам:
дзе ўзлёт, размах —
там
красаванне!

## ЗДАБЫТКІ ГЭТА НАШАЙ ПРАЦЫ

Народ, не меўшы ўволю солі,
шукаў яе ля мора дзесьці.
А соль была на тым жа полі,
што свету цэламу не з'есці.

Яе патомкі адшукалі,
яна патомкамі адкрыта!
Схаваныя ў зямлі крышталі
ідуць народу на спажытак.

Здабыткі гэта нашай працы,
камуністычнай працы плённай.
А ім няспынна пашырацца:
іх павялічаць міліёны!

# СТАРОБІНСКАЯ КАЗКА — САЛІГОРСКАЯ БЫЛЬ

За старым, даўнейшым, часам
елі людзі рэдзьку з квасам.

Ці для смаку, ці для змены
дадавалі трошкі хрэну,

хоць была ў людзей гаворка:
«І без хрэну жыць нам горка!»

Не назваць іх гультаямі.
Працавітымі рукамі

і аралі, і касілі —
ўсё рабілі, што ў іх сіле,

а вось плён ад гэтай працы
забіралі у палацы.

Для вяльможных «дабрадзеяў»
люд працоўны сеяў, веяў,

стрыг
для іх

з авечак воўну
той жа ўсё народ працоўны...

Ён не тое хлеба —
солі
спажываць не мог адволі,—

бо яе вазілі з Крыма,
бо па соль ішлі з грашыма,

а вось грошы...
Грошаў мала
селяніну пападала!

— Ну якая ж гэта казка?
— Пачакайце, калі ласка!

Мы цяпер мяжу згубілі:
дзе тут казкі, дзе тут былі...

Ўсе рабочыя, сяляне
падняліся на паўстанне

і далі панам вяльможным
больш, чым вытрываць ім можна.

Некаторых на пагосце
тых паноў сатлелі косці,

некаторыя — наўцекі
за мяжой шукаць апекі...

А рабочыя, сяляне
ўсё зьначылі дазвання,

гаспадарыць сталі самі
працавітымі рукамі.

Для сябе, для ўсіх працоўных
лад наладзілі чароўны.

Пачыналі
ад падвалін.

Гарады
пабудавалі,

і заводы, і чыгункі;
явай сталі ўсе лятункі.

На палях аруць машыны
і нястомна, і няспынна.

Барануюць следам роўна
велізарныя бароны.

Не ралля, а пух узняты!
Хутка ў ім растуць зярняты.

А калі паспее збожжа,
тут сярпамі не паможаш.

Ходзяць волаты-машыны,
жнуць, малоцяць, возяць імі...

— Ну якая ж гэта казка?
— Пачакайце, калі ласка!

Мы цяпер мяжу згубілі:
дзе тут казкі, дзе тут былі...

Пачалі глядзець навокал
мы далёка і глыбока.

Уладарым у паветры,
зазірнулі мы і ў нетры.

Адшукалі ў глыбіні там
нафту, соль і сільвініты.

Шмат чаго знайшлі другога
гаспадарцы на падмогу.

Ды таго ўсяго багацця
не маглі б ніяк дастаць мы,

бо яно на сотні метраў
залягло ў глыбінях нетраў.

Папрабуй да іх дайдзі ты
і па соль, па сільвініты!

Што ты зробіш без машыны
тут рыдлёўкамі аднымі?

Ды знайшла усё ж ткі раду
наша родная ўлада!

Да Старобіна старога
аж гудзіць цяпер дарога.

Там пастаўлена такое
працавітаю рукою,

што хоць мы да цудаў звыклі,
але ж вельмі цуд вялікі:

камбінат — жывая казка!
Вось вам казка, калі ласка!

Мы цяпер машыны робім,
іх прывозім у Старобін.

А яны на камбінаце
даставаць пачнуць багацце.

З імі мы на сотні метраў
пракапаем ход у нетры.

А як будзе ход прабіты —
пойдуць солі, сільвініты

на паверхню, на зямную,
на патрэбу на людскую.

Як пачнецца гэта справа,
дык не толькі соль для стравы, —

многа розных хімікатаў
атрымаем з камбіната.

Не вазіць тады здалёку,
бо сваё дабро пад бокам!

На палеткі пойдзе калій,
што з глыбінь зямлі мы ўзялі.

І цяпер у нас прыгожа
каласіцца ў полі збожжа.

Ходзяць хвалі, як на моры,
праз жытнёвыя прасторы,

а ячмень раскінуў вусы
на палову Беларусі...

Мы красу ў жыцці далейшым
павялічым і палепшым:

у садах, на агародах
для працоўнага народа

расцвіце ўсё пышным цветам
ад старобінкі вось гэтай...

Хімікатаў розных безліч,
што мы ўсе аднекуль везлі,

будзем мець тады даволі
ўсё ад той калійнай солі...

Вы пыталіся пра казку?
Вось вам казка, калі ласка!

Гэта казка стала явай
і вялікай нашай славай.

Ля Старобіна старога
нас вядзе цяпер дарога

ў горад новабудаваны,
Салігорскам што названы...

Нашай працы шчырай, плённай
гэта помнік векапомны.

Ён пасведчыць у стагоддзях,
ён пасведчыць аб народзе,

што ішоў да камунізма
грамадой усёй вялізнай.

Мы тварылі ўсе упарта
наша сонечнае Заўтра,

казкі ўсе пératварылі
на сапраўднасць мы, на былі.

Нас вялі да светлай мэты —
Леніна заветы!

# НА АЎТОБУСНЫМ ВАКЗАЛЕ Ў КОБРЫНЕ

Трымае маці ладны клунак,
а сын — тры кніжачкі ў руцэ.
— Купілі сыну падарунак?
— Ды не, злавіў ён у рацэ!

— Як так? Жартуеце вы, пэўна?!
— Якія жарты! На кручок
злавіў ён шчупачкоў нядрэнных,
папаўся добры ментузок.

Тады ж мяне і папрасіў ён:
«Прадай іх, мама, купім кніг!»
А збоку сын стаяў шчаслівы,
перагартаў старонкі ў іх...

— Ды колькі ж год табе, сыночак?
— Дзевяты сёлета пайшоў...—
Дапытліва прабеглі вочкі
каля мяне, маіх сяброў...

А тут аўтобус.
— Час вам добры! —
мы адвіталіся ў адказ.
Прыгожы незвычайна Кобрын
пакінулі на доўгі час...

Яго красою сэрца поўна,
яна усюды тут, наўкол.
Сюды і хлопчык той цудоўны
з сваімі кніжкамі ўвайшоў.

З малецця ён сваёй рукою
кладзе сцяжынку да святла.
На свеце самае святое
усё, што праца набыла.

## ВЁСКА БЯСХЛЕБІЧЫ

Вёска Бясхлебічы!
Страшная назва!
Як тут жыццё,
ў гэтай вёсцы,
не згасла!
Масла на хлеб тут
ніхто не намазваў,
бо не было тут
ні хлеба, ні масла.

Потам крывавым
абліты здабытак
ехаў у панскія свірны,
аруды.
Лёсам пакрыўджаны,
лёсам забіты,
жыў тут народ
проста неякім цудам.

На аксаміты,
парчу,

самацветы
віджгам усім,
радзівілам,
любецкім
бралі з галодных,
разутых,
раздзетых,
бралі ля Пінска,
ля Слуцка,
за Клецкам...

Маткі і сёстры
з пакораю рабскай
шылі са зрэб'я
нажуткі, спадніцы,
каб непатрэб'е
з каронаю графскай
банкетавала
па ўсіх заграніцах.

Людзі збіралі
карэнне ў лесе,
шнітку сушылі
з сасновай кароюю.
Так пра жыццё
і спявалася ў песні:
*«Хлеб наш нясмачны —*
*кара з лебядою,*
*доля няшчасная —*
*гора з бядою»...*

Песні былі тут,
як вецер асенні,

капалі слёзы
з тых песень
над светам.
Як незгасальны агонь,
летуценні
шлях асвятлялі
у цемры
у гэтай.

Трэба на розум выдатны дзівіцца
тых,
што ў пакуце прыдумалі тое,
каб не святога
з царквы ці капліцы —
П р а ц у
абвесціць народным героем!

Ўсё перабыта,
забыта не ўсё хоць.
Горкія згадкі
пра панства, пра войны,
быццам у мёдзе накапаны дзёгаць,
назвы старыя
прыносяць з сабой нам.

Хай застануцца гісторыі назвы
ўсіх Махаедаў,
Бязраднiц,
Бясхлебіч,
каб іх патомак патомку паказваў,
як нам каметы
паказвалі ў небе.

Праца пануе на родных прасторах,
праца пануе
ў прасторах
радзімы.
Там,
дзе балоты браснелі учора,
збожжа гайдаецца перад вачыма.

Вёска Бясхлебічы —
хлебам багата,
песні вясёлыя
чутны навокал.
Як на малюнку,
ля вуліцы хаты
цешаць і сэрца,
і нашае вока.

Край ты мой, край —
залатое Палессе!
Ты адпакутаваў,
знішчыў нягоды,

найдаражэйшае ў свеце ты здзейсніў:
шчасце і воля
здабыты
народам.

## ПІНСК

Цудоўны Пінск! Тваё ваколле
вялікіх варта мастакоў.
Нідзе не бачыў я ніколі
такіх разложыстых гаёў.
Прастор [illegible] ліловаю смугой
стаіць дасюль перада мной...

Павольна Прыпяць гоніць хвалі
каля тваіх старых муроў.
Чаго яны тут не спазналі
на цягу ўсіх сівых вякоў!
Ад слёз, пралітых у вяках,
другая б пацякла рака...

А кожны ж вораг руйнаваў тут,
знішчаў, паліў твой дабрабыт!
Ушанаваць ахвяры гвалту
на свеце б не хапіла пліт...
Каля кургана стаў курган,
зялёны іх ускрыў дзірван...

Страла ў гярбе тваім зіхцела,
напятая на моцны лук.
Ды не хапіла гэтых стрэлаў,
каб выбавіць цябе ад мук.
Народ савецкі дапамог,
усе навалы перамог.

Бясконцы твой бульвар надрэчны
з цудоўным поясам прысад
спаткаць гасцінна і сардэчна
усіх сяброў заўсёды рад:
гараць прыветныя агні
і над ракой, і ў вышыні...

Прымі паклон і пажаданне,
цудоўны Пінск, дзіця вякоў, —
каб за цяжкія ўсе насланні
ты шчасце вечнае знайшоў!
Каб хараство і супакой
былі заўсёды над табой!

# НОЧ НА ПРЫПЯЦІ І КАЗКА ПРА ЗОРКІ

Засыпана зорамі неба ўсё чыста,
плывуць адлюстроўкі ад іх
каля нас тут.
Калыша іх Прыпяць павольна,
ўрачыста,
адносіць да самых дубоў каранастых.

Мінаюць ля берагу бакены, вышкі,
дубровы, затоны, палеткі мінаюць.
А Прыпяць —
і неба,
і зоры калыша,
няма ім ні ліку,
ні меры,
ні краю.

Ідзе цеплаход наш
размераным ходам,
за ім
белапенная стужка віецца.

Пануюць навокал
спакой і лагода,
спакой і лагода
у думках,
на сэрцы.

Насустрач ідуць рудавозы няспынна,
вянкамі агнёў каляровых убраны.
І нам,
і бязмежным прасторам айчыны
сігналяць агнямі сваімі:
— Дабранач!

Цудоўная ноч!
Не прыдумаць такую!
Ніяк не прыдумаць такую сумысна,
ні гэтых прастораў,
ні Прыпяць другую,
ні гэтых убораў
квяцістых і пышных.

На палубе людзі
ўсялякіх прафесій.
Сягоння нікога і сон не бярэ тут.
Стаяць ля бартоў
і глядзяць на Палессе,
на ўсю прыгажосць
невыказную гэту.

— Ой,—
кажа дзяўчына, зірнуўшы на хвалі,—
ды колькі тут зорачак
Месяц насеяў!

Як быццам на Прыпяці закрасавалі
мільёны дзівосных,
чароўных
лілеяў...

— Як хочаш ты ведаць,
ён добры не надта,—
сказала з усмешкай дзяўчына другая,—
чамусьці на зоркі
ён вельмі багаты,
а Сонца
ніводнае зоркі не мае...

— Пры чым жа тут Сонца,
скажы мне на ласку?
— А Сонца пры тым,
што яно свае зоркі
людзям аддало ўсе.
Пра гэта ёсць казка.

. . . . . . . . . . . .

I так пачалася ПРА ЗОРКІ гаворка.

Калісьці Сонца ў небе сінім
хадзіла з Месяцам, як з сынам.

Тады не знալі людзі змроку.
Быў дзень на свеце ўсім шырокім,

бо двое разам іх свяціла,
а ў двух мацнейшая і сіла.

У Сонца кветнік быў вялікі,
а кветак-зорак там без ліку.

І Месяц кветнік меў цудоўны,
а ў ім таксама кветак поўна.

Аднойчы Сонца так гаворыць:
— Дадзім людзям свае мы зоры!

Няхай красуюць лепш на доле,
у нас і так красы даволі!

Як быццам спрэчкі не было тут.
Яны ўзяліся за работу.

Збірае Сонца зоркі-кветы,
дарунак свой рыхтуе свету.

А Месяц, як зірнуў на зоркі,
увесь праняўся жалем горкім:

— Я іх саджаў сваёй рукою...
паіў сцюдзёнаю расою...

Я даглядаў іх, родных дзетак...
Як застануся сам без кветак?!

Ад жалю аж змяніўся з твару.
Закрыўшы сад свой цёмнай хмарай,

сабраў свае ўсе кветкі-зоркі
і прыхаваў іх за узгоркам.

Панабіраў камення потым,
насыпаў крушню каля плота

і сеў на крушні, як на лаве,
як быццам добрае што справіў.

Кідае Сонца кветкі з неба,
яны лятуць на нашу глебу.

У нашых пушчах, на узгорках
закрасавалі кветкі-зоркі.

На сенажацях, на палетках
зазіхацелі зоркі-кветкі.

На ўсёй Зямлі настала свята,
яна красой уся абнята..

Падзяку Сонцу шле за тое,
што хараство дало такое.

А Месяц стаў і поўнай жменяй
пачаў кідаць далоў каменне.

Яно ляцела як папала:
дзе вельмі шмат, дзе вельмі мала,

а дзе зусім няма нічога,
няма й каменьчыка малога...

Хоць зіхаціць яно цудоўна,
красой да зорачак падобна,

хоць хараство яго не вяне,—
але жывым яно не стане,

халодным вечна застанецца,
так, як і Месяцава сэрца...

Пасля такой сваёй работы,
сабраўшы кветкі ўсе з-за плота,

у садзе Месяц пасадзіў іх.
Закрасаваў той сад на дзіва.

Аж супыніла ход свой Сонца.
Яно здзівілася бясконца.

— Ты так сваё трымаеш слова?
Была такая ў нас умова?

А Месяц кажа:
— Шкода стала,
ў мяне самога кветак мала...

— Дык слухай, Месяц,
над зямлёю
хадзіць не будзеш ты
са мною!

Я ашуканства
не дарую!
Ідзі на сцежку ты
другую!

Вось так, асобнай пуцявінай
яны і ходзяць з той часіны.

Не ходзяць больш ніколі разам,
выходзіць кожны іншым часам.

Калі на небе Месяц стане,
дык Сонца нават і не гляне:

адразу знікне з небакраю.
Такую крыўду Сонца мае!

Як разышліся ў небе сінім,
як стаў рубеж той паміж імі,

тады і ноч пазналі ў свеце,
бо Месяц толькі ўночы свеціць.

Свяціць ён свеціць, ды не надта,
ён садам больш сваім заняты.

А то зусім, бывае, сядзе
адпачываць у гэтым садзе.

Тады яго няма над светам,
гараць на небе зоркі-кветы,

а з імі ціхенька гавораць
зямныя нашы кветкі-зоры.

Гавораць сонейкавы дзеткі,
што ў нашых пушчах, на палетках,

на сенажацях, у садочках
гараць, зіхцяць, як аганёчкі...

Затым і любы нам яны ўсе,
хоць Месяц з Сонцам пасварыўся...

Вялікі клопат Сонца мае.
Як толькі гляне з небакраю,—

яно адразу грэць пачне так,
каб цеплыня дайшла да кветак,

дайшла да ўсіх жывых на свеце.
Яно і грэе ўсім і свеціць...

Бывае, сумна Сонцу стане,
калі яно навокал гляне:

адно, як ёсць, на сінім небе!
А зоркі-дзеткі ў нас, на глебе!

Ніяк таго не перайначыць!
Ад смутку Сонца аж заплача,

а слёзы на зямлю ліюцца.
Даждžом іх называюць людцы.

Яно хаваецца ў аблокі,
каб мы не бачылі здалёку,

які на сэрцы смутак мае.
Пасля вясёлку выкідае,

каб паказаць, што смутак згінуў.
У тую самую часіну

ізноў над светам усміхнецца.
І ў нас тады лягчэй на сэрцы...

Я слухаў уважна.
Глядзеў на дзяўчыну.
Яна,

пасылаючы Месяц упрочкі,
зрабіла для страху
сур'ёзную міну
і нават прымружыла
сінія вочкі.

А потым,
падняўшы свой пальчык угору,
яму паківала,
як маці на сына.
І Месяц,
адчуўшы заслужаны сорам,
схаваўся за хмаркай
у тую ж хвіліну.

І покуль дзяўчына не скончыла казку,
хаваў ён за цёмнаю хмаркай аблічча.
Праз шчылінкі ў хмарцы,
як быццам праз маску,
на ўсякі выпадак
ён зоркі падлічваў...

— Дык будзеце ведаць,
чаму ён няпэўны?
Чаму ашуканцам
наш Месяц названы?

Дзяўчаты згадзіліся з гэтым,
напэўна.
А хто ім на свеце
не быў ашуканы?!

— Скажы мне на ласку,—
спытаў я ў дзяўчыны,—
адкуль ты ўзяла гэту казку,
сястрыца,
якая ўрачыстаю гэтай часінай
прыйшла,
каб да сэрца майго прытуліцца?

Крынічныя хвалі
яе наспявалі
ці вецер,
што з жытам гамоніць-гаворыць?
Ці сонцавы дзеткі —
цудоўныя кветкі,
ці з неба блакітнага
ясныя зоры?

— Ні вецер,
ні хвалі,
ні ясныя зоры,—
мне родная маці
яе расказала.
У нашых бязмежных,
радзімых прасторах
і казак,
і казачных дзеяў
нямала...

Насустрач ідуць рудавозы няспынна,
вянкамі агнёў каляровых убраны.
І нам,
і бязмежным прасторам айчыны
сігналяць агнямі сваімі:
— Дабранач!

Цудоўная ноч!
Не прыдумаць такую!
Ніяк не прыдумаць такую сумысна!
Ні гэткай дзяўчыны,
ні Прыпяць другую,
ні гэтых прастораў
квяцістых і пышных...

## У ТУРАЎСКАЙ ПУШЧЫ

Мы ўвайшлі у Тураўскую пушчу,
ідзём цераз разложныя дубровы.
Карціны іншыя пабачыць там відушчы,
а той, хто мае вушы, ўчуе словы.

Шумяць дубы.
Гамоняць задумёна.
Шапочуць ціха.
Шалясцяць лістамі.

Нядаўна ж
тут
хадзілі батальёны,
гарэла пушча ўся
і неба ўсё над намі.

Каля кустоў ляжыць рудая каска.
Прабітая.
Пагбаная.
З іржою.
Над ёй, як вочы,

сіненькія краскі
глядзяць на гэты сумны помнік бою.

Хто быў пад ёй,
пад каскаю пагбанай?
З якой зямлі
па нашу ён ішоў?
Шукаў ён славу
для свайго тырана,
а ганьбу вечную
яму знайшоў.

Ці ўцяміў ён,
той сын зямлі далёкай,
якога па чужую прывялі,
што,
каб здаволіцца,
людскому воку
даволі жменькі аднае зямлі.

Так і адмерана прабітай касцы:
зямлі прыгоршчы.
На зямлі — мурог.
Якраз, як у даўнейшай нашай казцы:
зямлі ён прагнуў. —
пад зямлёй і лёг...

Каля дубоў,
у засені зацішнай,
відушчы бачыць помнікі другія.
Над імі дуб
галлё сваё калыша,
лісты на іх складае залатыя.

То — курганы.
Нямыя сведкі славы.
Магілы нашых змагароў і мсціўцаў.
Гісторыя ім славу запісала.
Растуць жывыя кветкі на магілцы...

Ты каля іх спыніся,
чалавеча,
схіліся
непакрытай галавою.
У пушчы гэтай
ціхай,
векавечнай
пачуеш голас братні над сабою.

## ГОЛАС ПАРТЫЗАНА

Зарос курган густой травой.
Над ім няспынны шум дубоў.
Знайшлі тут вечны супакой
і я, і шэсць маіх сяброў.

Кароткі мелі мы загад:
— Стаяць, каб вораг не прайшоў!
Не адступілі мы назад —
ні я, ні шэсць маіх сяброў.

Як бліскавіцы з навальніц,
гарэлі тут агні агнёў.
А мы знішчалі чужаніц —
і я, і шэсць маіх сяброў.

Наш партызанскі ўвесь атрад
дакончыць ворага прыйшоў.
Не сталі толькі з імі ў рад
ні я, ні шэсць маіх сяброў.

Хоць мы ляжалі далавах,
хоць не маглі мы стаць ізноў,—
сціскалі зброю мы ў руках —
і я, і шэсць маіх сяброў.

Са зброяй гэтай баявой
нас пахавалі ля дубоў.
Знайшлі тут вечны супакой
і я, і шэсць маіх сяброў.

Калі айчына клікне вас,
не дайце ворагу шляхоў,
як не давалі мы ў той час —
і я, і шэсць маіх сяброў...

## ВОЛАТЫ-АСІЛКІ

Цяпер не конскай, а слановай сілай
нам трэба тыя вымяраць маторы,
якія наша тэхніка стварыла,
пусціла праз даліны і праз горы.

Яны ідуць, як волаты-асілкі,
зямля ўгінаецца, дрыжыць пад імі.
Вязуць такое на сваіх загрыўках,
што пяць сланоў, напэўна, не падыме.

Трымае руль звычайная дзяўчына,
напудраная пылам падарожным.
Яна вітае нас блакітнымі вачыма.
Мы наглядзецца на яе не можам.

Падумаць толькі! Волата такога
яна вядзе, кіруе ім, як хоча!
А ён ідзе загаданай дарогай,
на цалю нават не пасмее збочыць.

Калісьці мы ад першых матацыклаў
залазілі ў прысадах на бярозы.
Было тады і страшна, і нязвыкла,
не мог прыняць іх супакойна розум.

А бедны конь, вымершчык сілы гэтай,
даваў ад іх такога алалаху,
што, як на небе хвост нясе камета,
ўзнімаўся пыл на вёрсты па-над шляхам.

Цяпер не толькі людзі, нават коні
так супакойна ходзяць ля матораў,
што і самому мне здаецца сёння —
не я,
а хтосьці бег ад іх учора.

# САКРАТАР РАЙКОМА

Ён малады, ды сталы.
Пабачыў ён багата.
Пакутаваў нямала.
Пабыў ён і салдатам.

Пазнаў яшчэ ў малецці,
як хлеб даецца ў рукі,
што радасць ёсць на свеце
і ёсць на свеце мукі.

Цярпеў ён голад, сцюжу.
Чаго там не цярпеў ён!
Каму ён скажа:
— Дружа! —
дык будзьце ў гэтым пэўны!

З такім сухар апошні
дзяліў у час нягоды.
На фабрыцы, на пожні
ён быў [redacted] людзьмі заўсёды.

З людзьмі ён і сягоння,
не можа быць іначай!
Кранае шэрань скроні
на галаве юначай...

Смяецца гаспадар наш,
заўважыўшы здзіўленне:
— Не траціць часу марна
ўсё наша пакаленне!

Жыццё яно такое:
не спыніцца, не стане.
Прыводзіць за сабою
ўсё новыя пытанні.

Як хваля гоніць хвалю,
удаль ідзе няспынна,—
так мы да новых даляў
імкнёмся штохвілінна.

Паказваць лёгка пальцам.
«Дай прыклад!» — просяць людзі.
Мы марым аб асфальце,
бо ўсім абрыдла груддзе...

А дрэваапрацоўчы
тут камбінат патрэбен?
Нам глянуць брыдка ў вочы:
у пушчу возім мэблю!

Экстракт дубільны можам
пачаць рабіць для спробы?
Кару адсюль вывозім...
А што б з карою побач?!

І чорны дуб — без толку
ідзе цяпер... на дровы,
бо ў плане нарыхтовак
яму... «не далі слова»...

Дароў багата ў нас тут
рассыпала прырода:
паветра, як лякарства,
вада і прахалода...

Вось дзе ствараць курорты
усім працоўным нашым:
над гэтым рэчным портам
і над цудоўным пляжам...

І так за кожным крокам:
вялікае... малое...
Здаецца, бачыш вокам
і тое, і другое...

Ну што ў адказ, таварыш,
сказаць павінны ўсе мы?
Ты сапраўды ствараеш
выдатныя паэмы!

Ажыццявім іх, здзейснім!
Гарыць у нас надзея,
што дзея стане песняй,
а песня стане дзеяй!

Казаў вялікі Ленін:
Мы летуцець павінны!
Жыццё без летуцення —
што горкая рабіна.

Хоць саладзі яе ты,
хоць аблівай ты мёдам —
а ўсё ж з рабіны гэтай
малая асалода.

І бюракрат вось так жа:
як «а» і «б» зацвердзіць,
дык «в» ніяк не скажа,
баіцца «д», як смерці...

Не зробіць ён памылкі,
бо асцярожны надта.
І мыліцца ён змылкам,
жуе цукерак мятны.

Ды ўсё ж інакшых многа,
што любяць летуценні.
Вядзе ў жыцці такога
і розум,
і натхненне.

Такі і планы здзейсніць,
хоць памыліцца можа,
паслухаць любіць песню,
пяе і сам прыгожа.

Такога любяць людзі.
Такі —
ў паходзе першы.
Пры камунізме будзе
пісаць ён, пэўна, вершы...

## ШАФЁР ТАКСІ ПАСАЖЫРАЎ ЧАКАЕ

Шафёр таксі пасажыраў чакае.
Ён на паперы рысуе алоўкам.
Кінуў я вокам, а там, як жывая,
нейкай прыгожай дзяўчыны галоўка.

— Арыгінал бы як-небудзь пабачыць,
каб параўнаць яго з вашым малюнкам!
— Гэта не вельмі цяжкая задача:
гляньце на тую, з ліловаю сумкай!

Глянуў — здзівіўся. Падобнасць якая!
Арыгінал ён някепскі нагледзеў...
Тая, жывая, напэўна, не знае,
што у таксі на вакзал яна едзе...

— Трэба вучыцца! Бясспрэчны ў вас талент!
— Еду ў мастацкую школу увосень!
Мы развіталіся з ім на вакзале.
Больш нам пабачыцца не давялося.

Ён у кабіне вёз вобраз дзяўчынін,
я у вагоне вёз вобраз ягоны.
Талент ніколі у нас не загіне:
руль павярнуў ён на колер зялёны.

* * *

Вялікі кошык падняла матуля,
а сын маленькі ручкай памагае.
Матулю дапамогай
ён расчуліў...
Хвіліна урачыстая якая!

* * *

Яна пасыпала на дошчачку зярнятак
і, стаўшы крыху збоку, паглядае,
як прыназемілася
птушачак грамадка...
Хвіліна урачыстая якая!

## НА СПЕЎЦЫ Ў ТУРАЎСКІМ КЛУБЕ

Яны да змроку працавалі ў полі.
Цяпер на спеўцы іх вартуе поўнач.
Мастацтва, пэўна,
не памрэ ніколі,
калі такой цудоўнай сілай поўна.

*28.VII.1959*

## ПЯЕ ДЗЯЎЧЫНА НАД РАКОЮ

Пяе дзяўчына над ракою,
над Прыпяццю-ракой пяе.
Няма на сэрцы супакою —
яго і песня не дае...

Лятуць, плывуць, знікаюць гукі
у глыбіні, у вышыні.
А смутак горкае разлукі
не перапаляць і агні.

Дзяўчына песняй разганяе
свой цяжкі смутак над ракой.
А ён ляціць, а ён лунае
на крыллі крачак па-над ёй:

*Павей, павей, буйны ветру,*
*над калінай лесавой.*
*А чаму ж ты не павееш*
*над дзявочаю журбой?*

*На каліне пры даліне*
*пазбівай ты белы цвет.*
*Ды чаму ж мой горкі смутак*
*не ляціць за ім услед?*

*Ад'язджае мой міленькі*
*да разлучніцы ліхой...*
*Падымі ты цвет бяленькі,*
*як мяцеліцу зімой.*

*Замяці ты ўсе дарожкі,*
*ўсе дарожкі да адной,*
*каб не мелі знаку ножкі,*
*каб застаўся ён са мной...*

*Каб мой мілы, мой каханы*
*не знайшоў туды слядоў.*
*На каліне цвет вясняны*
*закрасуе мне ізноў...*

Адна японская дзяўчына
пра нешчаслівую любоў
у старадаўнюю часіну —
да нас за тысячу гадоў —
пакінула такую ж песню,
як і спяваную ў Палессі:

*Ах, каб стрымаць мне як дапамаглі*
*таго, надумаў што мяне пакінуць!*
*Рассыпся, цвет вішнёвы,*
*па зямлі,*
*каб не знайшоў сабе ён пуцявіну...*

Як дзень адзін, як кропля ў моры,
мінула тысяча гадоў.
З глыбінь вякоў яна гаворыць
пра нешчаслівую любоў.
Як многа трэба свету жыць,
каб сэрца кінула тужыць!

## ТУРАЎСКАЯ ГАЛЯ

Вышывала ты сарочку
пад ігрушай, у садочку.

Васільковы брала колер
на сваім радзімым полі,

калі з гэтых васілёчкаў
завівала ты вяночкі.

А зялёны брала ў лесе,
дзе свае спявала песні.

Пурпуровы — на каліне,
што красуе пры даліне.

Пазлацісты — ўвесь ад зоркі,
што зіхцела адвячоркам,

калі ты была на ганку,
са сваім была каханкам.

Вось таму узор цудоўны
і да зорачкі падобны,

і да сініх васілёчкаў,
і да кветак у садочку.

На каўнерыку, рукавах
зіхаціць узор яскрава.

Не пытайце больш пра Галю,
не кранайце ў сэрцы жалю...

# МІЛАВІЦА

*Народная казка*

## 1

За гарамі, за даламі,
за сыпучымі пяскамі

жыў даўней адзін хлапчына
з васільковымі вачыма.

Сам высокі, спрытны, стройны,
да работы ўсякай здольны:

Ён у лесе ці на полі
гультаём не быў ніколі...

Адбылося неяк дзіва:
сонца ход свой прыпыніла.

Прастаяла тры гадзіны
з невядомае прычыны.

Задзівіліся ўсе людзі:
«Нешта ёсць у гэтым цудзе!»

А чаму стаяла сонца —
невядома ўсёй староңцы...

Вось тады сказаў хлапчына
з васільковымі вачыма:

— Хоць нялёгкая дарога,
хоць ісці, напэўна, доўга,

пабываю ў той старонцы,
над якой стаяла сонца

нерухома тры гадзіны,
і дазнаюся прычыну...

— Так яно няхай і будзе! —
ухвалілі хлопца людзі.

Ён узяў з прыпасам торбу,
развітаўся словам добрым

і з бацькамі, і з сябрамі,
і з усімі землякамі,

а пасля пайшоў услед ён
за высокім сонцам светлым.

Многа ён ішоў ці мала,—
у шляху ўсяго бывала.

Нам з маленства ўсім вядома:
«Што ў дарозе — то не дома».

Да Палесся так прыйшоў ён.
Там дзівос усякіх поўна:

і імшары, і балоты,
і высокія чароты.

Пушча там не мае краю,
пекната ж у ёй такая,

што нідзе няма на свеце,
хоць усюды сонца свеціць.

Там дубы свае вяршыні
ў небасхіл узносяць сіні,

а лістамі зоры крыюць
нашы волаты старыя.

Явар шле духмяны водар
на паляны, цераз воды.

На палянах тых і водах
незлічоных кветак подых...

Вось у гэтай пушчы хата.
Каля хаты дзед вусаты.

Павітаўся хлопец з дзедам.
Пачалася ў іх бяседа:

— Ты адкуль, сынок? Куды ты? —
Адказаў хлапец адкрыта:

— Маю пільную я справу,
мне даведацца цікава,

ад якой падзеі дзіўнай
сонца роўна тры гадзіны

прастаяла тут, над вамі,
над палескімі барамі...

Дзед пачаў смяяцца з хлопца:
— Пастаяла мала сонца!

Калі б ты пабачыў тое,
пастаяў бы больш удвое!

Я скажу табе прычыну:
тут жыве адна дзяўчына

па найменню Мілавіца,
а на выгляд — як зарніца!

Як блакіт на небе — вочы,
зіхаціць убор дзявочы.

Аж да пят тугія косы
у дзяўчыны той дзівоснай.

Вышывана ўся сарочка
у мядункі, васілёчкі.

Толькі кіне сінім зрокам —
закрасуе ўсё навокал,

а калі ніяк не гляне —
засумуе кветка, звяне...

Лепш ідзі, сынок, дадому,
покуль з ёй ты незнаёмы,

бо журба ўпадзе на сэрца
і не выйдзе аж да смерці...

— Не, дзядуля, так не кіну,
сам пабачу я дзяўчыну!

І пайшоў далей хлапчына
з васільковымі вачыма...

Да ракі, на Прыпяць, выйшаў,
вецер хвалі ў ёй калыша.

Бачыць — човен на рацэ там.
Залатым вядзе вясельцам

гэны човен Мілавіца,
а сама, як зараніца.

Глянуў хлопец на дзяўчыну
васільковымі вачыма

і пазнаў, што вельмі мала
сонца ў небе прастаяла.

Заглядзеўшыся на дзіва,
ён і сам стаяў маўкліва.

Човен борзда ўдаль імкнецца,
зіхацiць пры ім вясельца.

Хлопец просіць:
— Мілавіца!
Не магла б ты супыніцца?

Супынілася, пытае:
— А бяда ў цябе якая?

Ён сказаў усё аб цудзе,
як яго паслалі людзі,

як знайшоў яе, дзяўчыну,
а цяпер, напэўна, згіне,

бо журба ўпадзе на сэрца
і не выйдзе аж да смерці...

Мілавіцу хлопец просіць
на сваю радзіму ў госці:

— Хай пабачыць свет і людзі,
што такой няма й не будзе.

Дай у сэрца мне надзею.
Не забуду век цябе я...

А яна яму на гэта
адказала словам ветлым:

— Маім ножкам будзе зімна.
Чаравічкі прынясі мне.

Ты зрабі з пясочку мне іх,
выйду я тады на бераг.

Як на ножкі іх абую,
да цябе і павандрую.

А цяпер ізноў паеду,
не шукай майго ты следу.

У руцэ яе вясельца,
а журба ў хлапцовым сэрцы...

2

Сумны ён прыйшоў дахаты.
Расказаў суседзям, тату,

расказаў і маці роднай
аб дзяўчыне той цудоўнай.

Расказаў пра чаравікі
і пра смутак свой вялікі,

што яго ніяк не кіне.
А пасля узяў начынне,

начасаў сухога клёну,
абстругаў калодкі роўна

і зрабіў два капылочкі
на дзяўчыніны слядочкі.

Хвошч узяўшы жменяй поўнай,
капылочкі тыя цёр ён,

аж пакуль зазіхацелі
з клёну добрага мадэлі.

Адшукаў пясочак чысты,
самы дробны, пазлацісты.

Перасеяў у начоўкі
ён пясочак сітам тонкім.

Тут пайшла ўжо не работа,
а вялікая турбота.

Як паставіць капылочкі
ў пазлацістым ён пясочку,

дык стаяць зусім нядрэнна,
а падыме — ўсё дарэмна!

Абсыпаецца пясочак,
не трымае капылочак.

Прыцiскаў яго рукою,
палiваў пясок вадою,—

як падыме капылочак —
абсыпаецца пясочак...

Задала яна задачу!
Хлопец ледзьве не заплача.

Прыкра стала, горка стала:
за жыццё рабіў нямала,

а з пяску зрабіць не можа
чаравічак ён прыгожых...

Просіць хлопец дапамогу
аж у сонейка самога:

— Бачыш, сонца, ясным зрокам
ты Сусвет увесь шырокі.

Бачыш мора, бачыш горы,
а майго не бачыш гора,

хоць яно да хмар узнята,
хоць ім сэрца ўсё працята...

Ты стаяла тры гадзіны,
задзівіўшыся з дзяўчыны,

а мне сохнуць тры гадочкі
каля гэтых капылочкаў.

Супыніся ж хоць на хвілю
на высокім небасхіле,

растапі пясочак чысты
сваёй сілай прамяністай...

Адбылося раптам дзіва:
сонца ход свой прыпыніла

і сваёй магутнай сілай
той пясочак растапіла.

Стаў пясочак, як вадзіца
у люстранае крыніцы.

Абліліся капылочкі
тым растопленым пясочкам,

той люстранаю вадзіцай
для чароўнай Мілавіцы...

Як пясочак стаў крышталем —
развітаўся хлопец з жалем.

Пахадзіўшы ля камення,
адшукаў ён моцны крэмень

і нарэзаў ім узоры,
а яны — зіхцяць, як зоры.

Хоць і клопат быў вялікі,
ўсё ж зрабіў ён чаравікі

з пазлацістага пясочку
на дзяўчыніны слядочкі...

Зноў пайшоў у падарожжа
з падарункам тым прыгожым.

Зноў да Прыпяці прыйшоў ён
і сказаў красе цудоўнай:

— Падарунак я прынёс свой.
Выкідай на бераг вёслы!

Ты стрымаць павінна слова.
Пойдзем мы цераз дубровы,

краем пушчы задумёнай
на прыгожы, сіні Нёман...

Прыняла яна дарунак,
што прыгожы, як лятунак.

Падала яму вясельца,
аддала яму і сэрца.

Усміхнулася вясёла —
заспявала ўсё наўкола:

і дубровы, і крыніцы —
ад усмешкі Мілавіцы.

Зазванілі ў званочкі
ўсе мядункі, васілёчкі.

І цяпер яны ўсё звоняць,
Мілавіцу як успомняць...

3

А яе павёў хлапчына
з васільковымі вачыма

аж да Нёмна, на радзіму.
Сонца ўсё ішло над імі,

асвятляла ім дарогу,
адганяла прэч трывогу.

Як прыйшлі яны у вёску,
паляцела пагалоска

па акрузе, па наўколлю,
цераз пушчу, цераз поле

пра дзяўчыну Мілавіцу,
што як зорка-зараніца.

І вяселле неўзабаве
бацька сыну свайму справіў.

Танцавалі і спявалі
пад вясёлы звон цымбальны.

Ўсе віталі там хлапчыну
з васільковымі вачыма,

ўсе віталі Мілавіцу,
тую зорку-зараніцу.

На крыштальных чаравічках
васількі і медунічкі

прамяніста зіхацелі...
Ўсё было на тым вяселлі!

4

Век мінуў, другі і трэці...
Ўсё зьначылася ў свеце.

Там, дзе казачны хлапчына
для цудоўнае дзяўчыны

лаштаваў з пяску абутак,
там цяпер шкляная гута.

Мые ёй пясочак Нёман.
На ўвесь свет яна вядома!

Мілавіцыны патомкі
там крышталь рыхтуюць тонкі —

падарунак свой чароўны
для сям'і усёй працоўнай.

## НА ЗАМЧЫШЧЫ Ў ТУРАВЕ

Дык вось.
На гэтым месцы, у даўнейшым часе, —
нямала! —
тысячу гадоў таму назад,
вялікі горад Тураў пачынаўся.
А што малы цяпер ён,
час і вінават...
У торбах, кошыках зямлю сюды насілі.
Насыпалі гару паміж балот.
Дзівіцца трэба ўпартасці і сіле,
якую меў заўсёды
наш народ.
Цвярдыні на гары на той стаялі.
Палацы і саборы тут былі.
Каля яе шумелі,
гаманілі хвалі,
ды,
непісьменныя,
нам не пакінулі былін...
Няпраўда! Не!
Яны пісьменныя наогул.
Яны на скалах

высякаюць знакі.
На жаль,—
а мо на шчасце? —
скал няма нідзе навокал,
няма каменняў тут ніякіх...
Яны пісалі на пяску
нам
летапісы,
пасля ізноў замылі ўсё на дно...
А тут народ на ногі станавіўся
у тыя дні,
мінулыя даўно...
Адсюль хадзіла войска у паходы,
тут баранілі край балотны свой.
Тут вырашаўся лёс майго народа,
і тут ён біўся з дзікаю ардой...
Адсюль хадзіў на Нёман біць тэўтонаў,
хадзіў суседзяў бараніць ад іх:
і пехатой, і на чаўнах, і конна...
Было.
Няма.
Той гром грымеў і сціх.
Ані руін, ні надпісаў на плітах.
Гара з пяску.
Гісторыя ў пяску.
Завеяна,
засыпана,
забыта
ці ручаямі збегла у раку...
І Прыпяць нават час пераадолеў:
ад рэчышча старога ўбок адвёў...
Не шкода мне палацаў і сабораў,

як зборышча манахаў і князёў.
Узненавідзеў я і тых, і тых з маленства,
нянавісць гэта не памрэ ва мне,
пакуль жыву і буду жыць на свеце
у роднай старане.
І сапраўды:
ці Святаполк быў Акаянны,
ці Акаянны быў тут Святаполк...
Як трэскі ў хвалях бурных акіяна,
яны загінулі.
Іх звон —
замоўк.
Народ працоўны быў
і вечна будзе!
Яго не знішчыць, не развее час!
І назавуць сябе патомкі,
як і продкі нашы,
людзі! —
калі спытаецца пра гэта ў іх ізноў які
Абу-Алі Ахмед Омар Ібн Даст...[1]

---

[1] Пакінуў ведамасць такую ён:
«У русаў многа розных ёсць плямён.
Адно ■ плямён сябе заве так: людзі».
Не ведаў ён, што у далейшым будзе!
Адзін тлумач перадапошніх дзён,—
Хвальсон,—
даводзіў, што не можа быць тут «дзе»,
што не было такога племя анідзе.
І так «людзей» ператлумачыў нам,
што стаў на месца іх... «нарман» (!!!)
Усё ж не памыліўся той Ібн Даст!
Усё ж ткі памыліўся той Хвальсон!
Людзьмі мы будзем і ў далейшы час,
так, як былі людзьмі да гэтых дзён!

Але мне шкода
і да слёз балюча,
што ўсё Тварэнне працавітых рук
развеяна,
засыпана пяском сыпучым,
каб не знайшоў іх тут і праўнукаў унук...
Майстэрства рук
братоў маіх далёкіх
ад нас закрыта пеляной густой.
Адзін пясок перасыпаецца навокал
і над гарой
і пад гарой крутой...
Жывой гісторыі хапае ў свеце гэтым.
Багата дзей цудоўных навакол.
Красуюць скрозь у нас такія кветы,
якіх ні ў якіх бы раскопках не знайшоў.
Плывуць па Прыпяці другія караваны,
вядуць іх цеплаходы за сабой.
Стаім,
глядзім,
жыццём зачараваныя,
зачараваныя палескай стараной.
Няхай цябе мінуць усе навалы,
каб ты не ведала ніякіх навальніц!
Каб толькі светлае жыццё тут красавала,
якое сёння
ля дуброў тваіх
шуміць!

## УСХОД СОНЦА НА ПРЫПЯЦІ

Як мур з важкіх, вялізных скал,
дубровы ў змроку над ракою.
Лаза, чарот, трысцё — як вал.
Туман закрыў іх пеляною.

Над верхавінамі дубоў,
цераз зубчастыя вяршыні,
струмень барвовых аганькоў
затрапятаў на небе сінім.

Як бёрда, змрок. А неба — шоўк.
Шоўк цёмна-сіні, васількова.
Ён на аснову. А на ўток
ідзе струмень шматкаляровы.

Плыве тканіна у прастор,
над ёй схіліўся ціхі золак.
Ён вышывае свой узор
адразу ў некалькі іголак.

І кветы казачныя ў ім,
І птушкі з крыллем распасцертым.

Цудоўны, казачны кілім
лёг над гаямі і над светам.

Адлюстраваўшыся ў вадзе,
на хвалях Прыпяці ільсніцца.
Падобнага няма нідзе,
падобны нават не прысніцца.

І раптам стужкі праз кілім
ляглі на небе залатыя.
У іх праменні залатым
растанулі узоры тыя.

На неба перайшло святло
ад урачыстага світання.
А следам сонца узышло
на васільковым акіяне.

Зашчабятаў птушыны хор.
Затрапятаў аер, чароты.
Загаманіў зялёны бор.
Зашалясцела ўсё балота.

Уперак Прыпяці лягла
дарога, тканая з прамення,
або з крышталю, ці са шкла,
ці з самацветнага камення...

Дарогай раніца да нас
ішла з вышынь, святлом спавіта.
І на зямлі была яна,
была на небе, у блакітах...

# ЯК З'ЯВІЎСЯ АГОНЬ НА ПАЛЕССІ

*Народная казка*

1

Быў час, калі агню нідзе
на свеце не было ў людзей.

І цеплыня ім, і святло —
усё ад сонейка ішло.

Зімой пакутаваў народ:
навокал сцюжа, снег і лёд.

Мароз гуляў, як гаспадар.
Амаль не грэла сонца з хмар.

Нагараваўшыся зімой,
прыйшлі да думкі ўсе такой:

— Ад сонца б іскрачку адну
прынесці ў нашу старану!

Тады б расклалі мы агонь
і грэліся каля яго.

А як бы гэта хто зрабіў,
калі не маюць людзі крыл?

Пасля надумаліся ўсе:
— Агонь нам птушка прынясе!

А птушкі дружна на зямлі
у часе тым з людзьмі жылі.

Пайшлі да птушак грамадой
з сваёй вялікаю бядой.

І вось гавораць птушкі ім:
— Далёка так не паляцім!

Не дапрасіліся ніяк!
Адзін маленечкі сіняк

ляцець да сонца згоду даў,
чаго ніхто і не чакаў.

Вароны ўсе адразу ў крык:
— Ты прыкусіў бы лепш язык!

Не даляцець табе да хмар!
Загінеш ты!
Кар-р!
Кар-р!

Шкадуюць птушачкі усе:
— Маленькі вельмі ты, сусед!

Не ашчаслівіш ты людзей,
асіраціш сваіх дзяцей...

А сінячок дае адказ:
— Бясспрэчна, я слабей за вас!

Але ж агню няма бліжэй,
а ён патрэбен для людзей!

І паляцеў да сонца так
адзін маленечкі сіняк.

2

Ляцеў, ляцеў і прыляцеў.
Там заспяваў вясёлы спеў.

Сваім вясёлым спевам тым
здзівіў ён сонейка зусім.

— Ды як жа ты сюды?
Адкуль?
Такіх здарэнняў на вяку

яшчэ ні разу не было!
— Ляту з палескіх я балот! —

І расказаў пра ўсё, як ёсць,
маленькі гэты сонцаў госць.

— Нялёгкі людзі маюць лёс.
Мяне прасілі, каб прынёс

адну хоць іскрынку для іх
з вышынь нязмераных тваіх!

— Прыдумаць не магу ніяк,
што і сказаць табе, сіняк!

Калі агню табе я дам,
як занясеш яго людзям?

Пакуль пабачыш ты свой бор,
ці сам згарыш, ці твой убор!

— Ляцець памалу буду я.
Не спаліць іскрынка твая!

— Ну што, сіняк, з табой рабіць!
Агонь, як бачыш сам, гарыць!

Вазьмі лучынку, прыпалі.
Нясі, як зможаш, да зямлі!

Лучынку ўзяў ад сонца ён,
зацiснуў дзюбкаю цаўё,

пасля лучынку прыпаліў
і паляцеў з ёй да зямлі...

3

Ляцеў, ляцеў і прыляцеў
ён да сваіх палескіх дрэў.

Ляціць над Прыпяццю-ракой,
Палессе бачыць пад сабой.

Яго вітаюць птушкі ўсе:
— Сіняк ляціць!
Агонь нясе!

Вітаюць людзі ўсе яго:
— Сіняк ляціць!
Нясе агонь!

Пачуўшы спевы, гоман той,
сіняк пачаў ляцець стралой.

Агонь узняўся, абхапіў
яго ад галавы да крыл.

Увесь убор гарыць на ім,
закрыў яго адразу дым.

Але не выпусціў ніяк
лучыну з дзюбачкі сіняк:

прынёс агонь, аддаў людзям,
застаўся хоць без пер'я сам.

Пазагараліся кастры,
ад іскры полымя гарыць.

А сінячок хоць не памёр,
сядзіць галютанькі, без пёр.

Сумуюць птушкі навакол.
Адзін маленькі пасвісцёл

парадзіў птушачкам усім:
— Па пярынцы яму дадзім!

Для нас не будзе страты ў тым,
а ўбор адновіцца на ім!

Адклад нідзе на лад не йдзе,
адразу ж памаглі ў бядзе.

Здаецца, штó —
адно пяро!
А колькі пёр з усіх сяброў!

Дапамагчы быў кожны рад,
па перынцы́ сабралі шмат.

І аднавіўся зноў убор
на сінячку з сяброўскіх пёр.

4

У кожнай птушкі колер свой
зімой бывае і вясной.

На той — чырвоны,
сіні — ў той,
зялёны, жоўты — на другой.

Ён сам калісьці сіні быў,
пакуль агонь не абпаліў.

Не называлі б людзі так,
каб іншы колер меў сіняк!

Цяпер, па памяці старой,
застаўся ўсё ж ён з назвай той,

хоць многа колераў на ім,
хоць стаў стракаты ён зусім.

Адзін пугач не даў пяра,
яшчэ пры гэтым дакараў:

— Яго я лётаць не прасіў!
Узняўся тут страшэнны сквіл.

На грубіянства і дакор
аж загудзеў зялёны бор.

Напалі ўсе на пугача.
Хто дзюбай б'е, хто з-за пляча.

Пачаў даводзіць нешта ён,
калі ж далі з усіх старон,—

схаваўся ціхенька ў карчы,
ад злосці кёркае, сычыць.

Сядзеў да цёмнай ночы там,
бо вінаваты быў ён сам.

Ад той пары яго нідзе
не ўбачыш ты у ясны дзень.

Калі у гнёздах птушкі спяць,
тады ён можа вылятаць.

Ад той далёкае пары
такі парадак у бары.

А сінячку нядрэнна ў ім.
Ён не баіцца нават зім:

пагрэцца у зімовы час
ляціць у вёску ён да нас.

Не страшны тут яму мароз:
агонь ад сонца ён прынёс!

Пагрэцца мае права ён.
Такі парадак з даўніх дзён

ідзе у нашай старане,
і ён ніколі не міне!

* * *

Хусцінкай ты махнула над вадой
з высокай палубы сустрэчнай.
І гэты знак
сардэчнасці тваёй
мне нагадаў, што трэба быць сардэчным.

* * *

Чатыры чаплі ходзяць па пяску.
Глядзяць, як мы на якар ставім кацер.
Даверлівасць,
не ашуканая пакуль,
і беднасць і вялікае багацце.

* * *

Стаяць дубы на беразе крутым,—
даўно мінулага жывыя сведкі.
Пад імі ходзяць у зямлі
краты.
Іх не цікавяць ні дубы, ні кветкі.

* * *

Усю затоку лотаці закрылі.
Лілеі белыя, ружовыя на ёй.
Хоць пры лілеях лотаці
зусім, як крылле,—
карэння не падымуць над вадой.

* * *

Струмень выносіць шýму ў берагі ўсю,
выносіць твань у ціхія затокі.
Растуць аеры там,
чарот разлапушыўся.
Але няма іх на вадзе глыбокай.

* * *

Затока ціхая — сапраўдны сад.
Красуе ўсё ў вадзе, ля берагоў.
Стварыла хараство
сабе пасад,
закрыўшы твань спляценнем каранёў.

## ГЕРБ МАЗЫРА

Мазыр, Мазыр! Збягаеш ты
з прыгожых берагоў крутых

да самай Прыпяці-ракі,
на прыбярэжныя пяскі.

Не менш чым тысячу разоў
па-над табою час правёў

вясну і лета за сабой,
над гэтай стромкаю гарой.

Правёў ён тысячу і зім
над гэтым берагам крутым.

І ён жа, гэты самы час,
вайну вадзіў сюды не раз.

Знішчалі войны ўсё мячом,
выпламянялі ўсё агнём.

Не гандляры і не князі
тут абліваліся слязьмі,—

тут гараваў працоўны люд
ад гэных войн, ад гэных смут.

З яго мазольнае рукі
перастаяў ты ўсе вякі!

У герб табе давалі крыж,
ды не звычайны, а спарыш.

Не аджыгнаўся ты крыжом,
не зратаваўся спарышом

ні ад пакуты, ні ад слёз,
якія даў няўмольны лёс!

Цяпер паставіў ты ў свой герб
сталёвы молат, востры серп.

Стварыўшы шчасце, пройдзеш з ім
да светлай мэты — ў камунізм.

## ДОЖДЖ У МАЗЫРЫ

Павольна, ціха над зямлёй,
нібы валы, бліжэюць хмары.
Дзе — чарадой, дзе — грамадой,
дзе — падабраныя да пары.

На небе месяц, як пастыр,
на плечы ўскінуўшы сярмягу,
зганяе хмары ўсе ў Мазыр,
каб паратунак даць на смагу.

Магчыма, там грыміць пярун?
Ці дзе варочаюцца жорны?
Ці, можа, ляскае бізун
за пеляною цьмяна-чорнай?

Туды і месяц наш нырнуў,
сярмягай да вушэй закрыты.
А праз густую пеляну
паліўся дождж, як цераз сіта.

Не спіць ніхто ў Мазыры.
Глядзяць усе праз вокны, дзверы,
як неба шле людзям дары
без ліку, без ніякай меры.

Знікае смага тая скрозь,
што панавала тут праз лета.
А дождж — як наймілейшы госць,
вясёлы госць! — ідзе над светам...

З высокіх дрэў знікае пыл,
знікае з вуліц брукаваных.
У Прыпяць пыл увесь паплыў
завулкамі, як рукавамі.

Калі спыніўся дождж зусім,
а ён спыніўся каля золку,
ў праменні ясным, залатым
устала сонца над узгоркам.

Тады Мазыр ва ўсёй красе
раскінуўся перад вачыма.
Тады пазналі мы усе:
быць прыгажэйшым — немагчыма!

## ПРА ПАЛЕШУКА
## І ПЕРСІДСКАГА ЦАРА КСЕРКСА

Нам без гісторыі ніяк
тут абысціся не удасца.
Калісьці жыў адзін дзівак
у нашай беларускай казцы.
Аднойчы ён замест валоў
запрог дзве хмары у драбіны.
Як,
дзе,
чаму,
калі было —
драбніцы тыя ўсе адкінем.
Сказаць павінны тут адно:
яны яго датуль вазілі,
пакуль смалёным бізуном
не даў, як трэба, ім пад крылле.
Адчуўшы, што ў кароткі час
ён з іх і поўсці не пакіне,
яны дажджом, абедзве ўраз,
і разліліся пры даліне.

А ён патрапіў сам ізноў
на тую самую мясціну,
дзе і валы свае знайшоў
і тыя самыя драбіны.
Адно —
што вымак ён тады.
Заліты воз вадой —
другое.
Відаць, што хмары сапраўды
паразліваліся вадою.
Пасля таго вялося ў нас,
і не маленькі нават час,
калі гарачыня стаяла,
а вільгаць з глебы ўся знікала,
пабраўшы бізуны ўсе нашы,
мы пачыналі неба страшыць.
Хоць лёскат хмар і не дастане,
ўсё ж памагала ляскатанне:
траплялася разоў са двойчы,
што хмара возьме і памочыць...
Але гісторыя не ў тым.
Яна інакшая зусім.
Вядомы Ксеркс, персідскі цар,
не дакранаўся нават хмар.
Угневаўся ён быў на мора,
якое праз свае прасторы
не прапусціла караблі,
што да варожае зямлі
плылі з драпежніцкаю мэтай.
І больш таго! —
Яно пры гэтым
кідала хвалі і грымела

супроць самога Ксеркса смела.
Уз'юшаны, драпежны гад
адразу даў такі загад:
«Не даравада яму ніяк.
Сабраць ля мора ўсіх ваяк.
У рукі даць ім бізуны,
каб бізунамі ўсе яны
як мае быць адлупцавалі
і мора і марскія хвалі».
І што ж!
Загад ён ёсць загад.
Было ваяк у Ксеркса шмат!
Адлупцавалі мора так,
што стала мора, як сіняк.
Лупцоўка хоць была даўно,
дагэтуль сіняе яно...
Прайшлі праз мора караблі
ўсе да варожае зямлі...
Сатлеў той Ксеркс даўно-даўно.
А мора —
ўсё шуміць яно.
Яно шумець не перастане,
калі цароў нідзе не стане...
Усё ж ткі Ксеркс сваёй расправай
стварыў сабе такую славу,
што і дарослыя, і дзеці
яго ўсе ведаюць на свеце,
хоць ані кроплі не дадаў ён
вады у часе старадаўнім.
А што зрабіў наш паляшук?
Пры дапамозе ўласных рук,
сваім уласным бізуном

дзве хмары ён разліў дажджом.
Вады пабольшала ці не?!
Што можа быць для нас ясней!
А дзе ж гісторыя?
Яна
шукае, пэўна, бізуна:
навука толькі факты знае...
Пакуль яна бізун шукае,
каб прасвятліць хоць крыху справу,
палешуку узнесці славу,
якой ён, безумоўна, варты,—
не адкладаючы на заўтра,
згадаў я ў вершы і валоў,
і ляскатанне бізуноў.

## МАТЧЫНА ПАРАДА

*Народная казка*

Тата і мама
мелі трох дочак.
А у суседзяў —
толькі сыночак.

Дочкі цвілі,
красавалі, як ружы.
Той жа сыночак
ля саду ўсё кружыць.

Гляне — ў старэйшай
вочы, як зоркі,
а у сярэдняй,—
як песні, гаворкі.

Гляне — ў малодшай
стан-тапалінка,
вочы, як зоркі,
і ў гэтай дзяўчынкі.

Як заспяваюць
сёстры ў садочку,
быццам са срэбра
звоняць званочкі.

А калі пойдзе
каторая ў танец,
ножка ля ножкі
прытопне і стане...

Ой, не кажыце
вы, добрыя людзі!
Хлопцава сэрца
тугі не пазбудзе...

Маці гаворыць:
— Жаніся, мой сыне!
З зоркай ніколі,
нідзе не загінеш!

Зорка і ўночы
атуліць праменнем,
пухам з ёй стане
нават каменне...

Пэўна ж, каторая
сэрцу больш міла!
Маці да сына
так гаварыла...

— Мамачка, мама,
прыгожы яны ўсе!
Сам я не знаю,
з якой ажаніўся б...

— Выберы тую,
любы мой сыне,
будзе што лепшай
з іх гаспадыняй,

што не затопча
здабытак твой ботам,
а павялічыць
сваёю работай...

— Гэта задача
нялёгкая дужа.
Гляну-пагляну:
роўныя ружы.

— Дам табе раду,—
маці гаворыць,—
гэту задачу
вырашыш скора.

Прыйдзеш да іх ты
ў хату выпадкам,
будуць частунак
ладзіць дзяўчаткі.

Перапрасі іх:
«Прабачце, суседкі,
мне не патрэбна
ніякіх наедкаў.

Бульбы хацеў бы
я гатаванай.
Наабіраць жа
з вамі я стану».

Тут, каб хутчэй
зрыхтаваць тую страву,
возьмуцца разам
яны ўсе за справу.

Ты наглядай,
як у тыя хвіліны
будуць на бульбе
зразаць шалупіны.

Сын і зрабіў так,
як радзіла маці:
быў на частунку
у гэтай ён хаце.

Маці у сына
пасля і пытае:
— Ну, раскажы мне,
як робіць якая?!

— Большая кроіць.
як лусты ад хлеба.
Нават, здаецца,
болей, чым трэба...

Што да сярэдняй —
дзе зрэжа, дзе кіне.
Так і кладзе, —
напалову з лушпіннем.

Меншая быццам
істружачкі рэжа.
Бульба яе,
як яечка, для ежы.

— Вось,— кажа маці,—
табе й гаспадыня!
Сватайся смела
да меншай, мой сыне!

## ЗІМА І ЛЕТА

*Народная казка*

Сустрэлася з Летам Зіма:
— Нідзе ў цябе ладу няма!

Як толькі з'явілася ты,
ўсе мкнуцца ў цянёк, пад кусты.

А ходзяць — нага за нагу.
Я нават глядзець не магу!

Вось я калі стану ізноў,—
не ўседзіць ніхто ля кустоў!

Трушком пабягуць і дзяды,
не горш, чым якія малады.

Для моладзі будзе размах:
на лыжах бяжы, на каньках.

Згадзіся ты, Лета, са мной:
мілей жыць на свеце зімой!

Смяялася Лета ў адказ:
— Не знаю, мілейшы хто з нас!

Ніяк зразумець не магу:
чаму ад цябе ўсе бягуць?!

## НАРОДНАЯ КАЗКА ПРА БАЦЯНА

Чалавекам быў калісьці Боця,
ды цікаўным надта.
Хоць вандруе вечна па балоце,
а жыве на хатах.

Ходзіць Боця у чырвоных боцях
па дрыгве, амшарах.
Ён збірае гадаў на балоце,
адбывае кару.

Бо калісьці,— так гавораць людзі,—
выпусціў з мяшка іх.
Покуль грэх цяжкі свой не адбудзе,
іх усё шукае.

## ВЯСЁЛЫ КАПІТАН

Круты разварот. Адышоў цеплаход.
На палубе марш заігралі.
Ён з музыкай возіць заўсёды народ,—
каб не сумавалі.

Ідзе капітан. Аглядае ўсё сам.
На вуснах — сардэчныя словы.
На мосцік прайшоў. Прывітаў караван:
— Таварыш, здарова!

Ідзе цеплаход. Не сумуе народ.
На палубе песні і маршы.
З такім можна смела на працу, ў паход:
надзейны таварыш!

## ПРЫВІТАННЕ НА ПРЫПЯЦЬ

На Прыпяць магутную, цераз дубровы,
ляці, прывітальнае, шчырае слова:

— Шчаслівай дарогі, любімы таварыш!
Упарта, сумленна ты вахту трымаеш!

Пад сонцам гарачым, пад ветрам сцюдзёным
нялёгкая праца чакае штодзённа.

Ні вецер шалёны, ні шквал навальніцы
цябе не прымусяць ніколі спыніцца.

Нягоды пакінуўшы ўсе за кармою,
штурвал ты трымаеш трывалай рукою.

У час непагоды, дажджамі заліты,
сардэчнай спагадаю ты не забыты.

Шчаслівай дарогі, таварыш любімы,
заўсёды, усюды з табою радзіма!

## ФІНАЛЬНЫ АКОРД

Знікаюць вобразы, адлюстраваныя ў вадзе.
Знікаюць пушчы і гаі ў тумане.
А вобраз твой, Палессе,
і тваіх людзей —
у сэрцы у маім ніколі не растане.

*Ліпень — жнівень 1959 г.*

# СТАЛІЦА МІРУ

...С земли до звёзд встаёт Москва!

*В. Брусаў*

Не востры меч і не гарматы
да ясных зор цябе ўзнялі.
Ты Словам Леніна узнята,
праслаўлена па ўсёй зямлі.

Праслаўлена таму, што Слова
ідзе ў вянку, ў сузор'ях Дзей,
як сімвал знішчаных аковаў,
як сімвал здзейсненых надзей.

Праменне зор Крамля сівога
дужэй мячоў, мацней гармат.
Яго бясконцая дарога —
увесь бясконцы далягляд.

Яго ўсе людзі добрай волі
на свеце ведаюць усім.
І не зацьміць яго ніколі
ні дым хлусні, ні войнаў дым!

Яго браты ўсе нашы знаюць,
і вераць нашы ўсе браты,
што пройдзе праўда залатая
і праз калючыя драты.

На ўсе варожыя пагрозы,
на тэрмаядзерны ўвесь жах,
два словы даў твой ясны розум,
што не ўміраюць у вяках:

Мір!
Дружба!
Так яны і ходзяць,
як два браты,— плячо ў плячо,
як сонца яснае на ўсходзе,
накрыўшыся святла плашчом.

Пасланцаў гэтых сустракаюць,
як самых дарагіх гасцей,
а дзе яны удвох бываюць,
там слава і твая расце!

Каля калыскі кожнай маці
згадае іх не раз, не два
і скажа да свайго дзіцяці:
— Жадае шчасця нам Масква!

Не пышнасцю і не багаццем
сталіцай стала ўсіх сталіц
Масква, а здольнасцю змагацца
за Мір і Дружбу — без граніц!

*1960*

## ПЕРШЫ СПАДАРОЖНІК

Шумі, прастор, бязмежнасці айчына,
з табой гавораць хвалі і са мной.
Ты — вечнасць, ты прычын прычына,
пылінка я пылiначкі самой.

Ты паміраеш, родзішся ізноў ты
хутчэй, чым вока здолее прымецъ.
А мне, калі пяском накрыюць жоўтым,
наканавана толькі смерць.

Затым тваёй я хваляй пагарджаны.
Пра што мне гаварыць магла б яна?
У глыбіні касмічных акіянаў
найменшая мая велічыня.

Ты — могут, і бясспрэчна гэта,
пылінка я пылiначкі самой.
І тым не менш —
я гаспадар Сусвету,
а ты ўсяго
падданы мой.

Я маю мову і натхнёны розум,
і зрок, і слых, і рукі маю я.
Кладу шляхі я нават і да крозы,—
замкнёная арбіта ўсё ж твая!

Я першы крок раблю,
але ён
цвёрды,
ніколі не паверне ён
назад.
У космас я ўваходжу назаўсёды,
бо я вышэй
усіх тваіх манад!

*1957*

## КАМУНІСТЫЧНАЙ ПРАЦЫ — СЛАВА!

Ізноў савецкая ракета
ляціць прасторамі Сусвета.

І як ляціць! Маршрутам пэўным,
каб ясным голасам напеўным

даваць штодзённа свой даклад нам
і пунктуальна і дакладна

пра таямнічыя прасторы,
ў якіх і людзі будуць скора.

Выдатных дат у нас багата,
але такой не знаалі даты

ні мы, ні свет шырокі ўвесь наш.
А што яшчэ, Айчына, здзейсніш?

У нас ідзе за словам справа.
Камуністычнай працы — слава!

*4.X.1959*

# БАЦЬКАЎ НАКАЗ

1

Людзі ўзносяць масты
над вялікай вадой,
каб трывалі яны
пад цяжкою хадой,

каб не збочыў ніяк
найвялікшы цягнік,
што ідзе праз масты
у наступныя дні.

Іх муруюць-кладуць
грамадой, ды якой!
Не аднойчы і мы —
ты са мной,
я з табой —

закладалі масты
для вялікіх дарог,
каб скрануць іх
ніхто і ніколі не мог.

А калі забівалі
апошні той «цвік»,
што сталёвыя ніткі
прыводзіў у стык,—

мы ад радасці ўсе
аж смяяліся на'т.
Кожны з нас быў тады
хваляваннем багат.

Нам аркестры ігралі
ўрачысты свой марш,
мы крычалі тады
пераможна:
— Ура! —

і людзям,
і сабе,
а таксама табе,
машыніст,
за твой першы па мосце прабег.

Шмат напісана кніг
пра такія масты.
Іх чыталі мы ўсе —
ты і я,
я і ты...

2

Ёсць другія масты,
ды пра іх няма кніг.

Не таму, што яны
кніг не варты такіх.

Бо яны не масты,
а масточкі яны,—
цераз рэчку, ручай
маставінкі адны.

Гэта кладка і ёсць.
Гэта ёсць пераход,
каб не лезці ў ваду,
не брысці цераз брод.

Ты смяешся,
мой дружа,
з такіх вось мастоў?
На радзіме ў нас
звычай ідзе з прадвякоў:

калі хто у сям'і
свет пакіне навек,
а ясней для цябе —
як памрэ чалавек,

дык павінна сям'я
самай першай вясной
палажыць пераход
над суседняй ракой.

Каб трывалы ён быў,
на падмогах пралёг,
меў парэнчы для рук,
маставіны для ног...

Гэта помнік такі
для людзей ад людзей:
пра нябожчыка ўспомніць,
хто кладкай ідзе...

3

Бацька мне наказаў:
«Слухай, сыне мой, сын!
Як памру —
не шкадуй на масток маставін!

За жыццё памясіў я
нямала балот,
панасіў на гарбу я
нямала турбот,

дык няхай хоць патомак
сухою нагой
пройдзе ў памяць маю
над шумлівай ракой...»

Любы тата!
Апошні твой здзейсню наказ!
Не масточак,
а мост
мы намосцім за вас,

за усіх,
што пакуту каўшамі пілі
праз жыццё сваё ўсё
на радзімай зямлі.

Не масточак,
а мост
мы пралoжым такі,
каб яго не скранулі
ніколі вякі,

каб стаяў, як скала,
ён
над морам турбот,
каб патомак ніколі не йшоў тут у брод.

*1960*

# ПАХОДЫ

## 1

Мы ведаем, бо шмат разоў мы чулі,
пра дэспатаў крывавых і тыранаў,
якія ўсё згарнулі б і гарнулі
з глыбінь зямных і з сініх акіянаў.
Ішлі на пошукі схаваных скарбаў
у ланцугі закованыя людзі.
Самохаць хто за ката паміраў бы,
самохаць хто ярмо сабе набудзе?
Даўно забыты ўсе капальні тыя,
сатлелі косці паднявольных людцаў.
І толькі чарапы ля іх пустыя
з сябе саміх, а такжа з нас смяюцца.
А каля іх ляжаць рудыя змеі:
паіржавелыя ляжаць там путы,
якія ўсё жыццё на іх грымелі,
якімі косці ў камянях замкнуты.
Забыты іхнія імёны для патомкаў,
забыты іхніх дэспатаў імёны.
Ніколі не адкажуць нам абломкі:
навошта гінулі тут пад прыгонам?

Каму патрэбны быў той шлях крывавы?
Каму ланцужны звон узносіць славу?

2

Ішлі пасля шукальнікі другія.
Вяла іх пошасць —
залатая трасца.
Цераз даліны ці хрыбты крутыя
Яны ішлі ў клandайках, па Алясцы.
Цярпелі там найгоршыя нягоды,
знішчала сцюжа іх і люты скорбут.
За імі новыя ішлі ў паходы,
за плечы гора пачапіўшы ў торбы.
Яны пяскі па рэчышчах капалі,
у горах скальныя крышылі пліты.
А паплылі з іх залатыя хвалі
у сутарэнні банкаў Уол-стрыта.
Яны ўсе здольнасці свае, свой розум
аднеслі ў горы дзікія, ў прадонні.
Што скажа ім у роздуме цвярозым
сучаснік наш, патомак іх сягоння?
Няма на плітках залатых адзнакі,
чыёй крывёй яны былі здабыты.
Няма адзнак на скалах аніякіх,
калі шукальнікаў скрышылі пліты.
Гартаючы, чытаючы старонкі
у Джэка Лондана ці Брэта Гарта,
спытаюцца здзіўлёныя патомкі:
— Хіба такой цаны здабытак варты?!
Калі ўся кроў, што выліта ў шуканнях,
пакута ўдоў, дзяцей асірацелых

над гэтым хцівым золатам устане —
яна не кіне сутарэнняў цэлых:
яна размые і ушчэнт зруйнуе
усю магутнасць тую
залатую.

3

А мы няспынна ходзім у паходы,
сваю шукаем залатую жылу,
каб для ўсяго працоўнага народа,
айчыне дарагой яна служыла.
Ідзе разведка будучыні гордай
дзе па людскіх, дзе па звярыных сцежках.
Ідзе хадой упэўненай і цвёрдай,
а не гуляючы «ў арла ці рэшку».
Хто кукурузу сее, хто пшаніцу,
хто сталь куе, шукае хто алмазы,—
ўсе ў прамяністасці адной Зарніцы,
ўсе паасобна
і з усімі разам.
Шукаем, творым мы багацце ўпарта
на полі, ў горах, дзе хто мае змогу,
каб ім аздобіць сонечнае заўтра,
да шчасця ўсеагульнага дарогу.
Хоць, можа, наш драбочак невялічкі,
які далі ў народную скарбніцу,
ён скажа ўсё ж, што не былі мы знічкай
ні ў ціхі час,
ні ў часе навальніцы.

*1958*

# УЛАДЗІМІРУ САСЮРУ

...Ім старасці няма. Любоў іх да радзімы
Дае ім маладосць пад поглядам тваім.
Затым і восень радасна сустрэну з імі
І да канца жыцця ўсё буду маладым...

*Ул. Сасюра*

Бывае так, што нечакана
у хату прынясуць букет.
І разліецца пах духмяны
на ўвесь пакой з вясенніх квет.

Якісьці непакой салодкі
да сэрца горнецца тады.
Нібы ізноў ідзеш па ўсходках
цераз мінулыя гады.

Згадаюцца ўсе кветкі тыя,
што да грудзей туліў сваіх.
Мільгаюць згадкі залатыя
на іх пялёстках залатых...

Твой задушэўны ліст прынёс мне
ў вянку сардэчных, нежных слоў
і тыя дні, і тыя вёсны,
што адышлі ў краіну сноў.

Што адкажу табе, мой дружа?
Жыццёвы шлях прайсці не жарт.
Усё, што здольны мы адужаць,
нам надае трывалы гарт.

Дзе я ні быў — усюды людзі,
усюды праца для людзей.
А з ёй — і ў пекле не заблудзіш,
і не загінеш анідзе.

Заўсёды сонца па-над намі:
людское шчасце.
У ім святло!
Калі было што з палынамі —
у тлен і ў замсту адышло.

Дарма, што палыны знянацку
мне ўсерабрылі бараду.
Усё ж ткі я хадой юнацкай,
а не абы-якой іду.

Імпэт юнацкі нас не кіне
аж да апошніх нашых дзён.
Мы нарадзіліся такімі,
такімі свой спаткаем скон.

Тваёй душы цудоўнай кветы
прынеслі мне вясну ў пакой.

Іх прамяністасцю адзеты
ідзе да сэрца супакой.

Затым так радасна на сэрцы,
не возьме сум яго ў палон.
Таму не плача, а смяецца
яно над горкім палыном.

*1960*

## СЯБРАМ МАЛАДОСЦІ

Зосі і Івану Б-м

...Острым серпом, безболезненно режущим,
Сжаты в душе и восторг и печаль...

*В. Брусаў*

Зосенька, Зося, зямлячка мая ты!
Колькі сярпом тым бязлітасна зжата

нашых дзянёчкаў, гадочкаў і вёсен,
покуль прыйшла, не спытаўшыся, восень...

Хоць называюць яе залатою,
ўраз бы аддаў за жыццё маладое,

ўзяўшы ўсё золата восені гэтай —
даў бы яго за звычайнае лета,

каб разагнацца даўнейшай паходкай
зразу праз тры ці чатыры усходкі,

каб не глядзець у люстэрак на скроні,
як паглядзеў я, прызнацца, сягоння...

Гэта ўсё жарты, зямлячка мая ты!
Тым жа сярпом і журба ўся адцята.

Значыцца, радасць адна застаецца!
Радасць затое цануе на сэрцы,

што маладосці мы не змарнавалі,
перамаглі навальнічныя хвалі.

Хоць не павернем ніколі мы вёсен, —
іх адлюстроўкі аздобяць нам восень!

*1959*

## СЕННЕНСКАЯ АЛЕСЯ

А. С. К-ай

Гляджу я на цябе і думаю аб тым,
як многа ў маёй айчыне пекнаты,

калі адной табе дала на долю скарб,
якім аздобіць недзе сто жанчын магла б!

Як золата у попеле зіхціць зырчэй,
і ў простай вопратцы ты люба для вачэй,

а са смугой аблічча, рук тваіх і ног
які б на свеце шоўк і дзе зраўняцца б мог?

Калі праз жыта ты сцяжыначкай ідзеш,
рукамі каласы разблытваючы перш,

здаецца, што плывеш на хвалях морскіх ты,
што хараство плыве на хвалях пекнаты.

Цябе вітаюць спевам ціхім каласы,
пераліваюцца-віюцца галасы.

Іх спеў гучыць, як самы урачысты гімн,
табе, сяброўкам і сябрам тваім усім,

бо гэта ўся, што тут у наваколлі ёсць,
ад вашай шчырай працы стала прыгажосць.

*1960*

* * *

Ластаўка, ластачка, своля,—
любая сэрцу сваволя!

Толькі пабачу цябе я,—
сэрца маё весялее.

Смутак найгоршы знікае
перад табой, дарагая.

З неба блакітнага, з высі
клічаш-гукаеш:

— Імкніся!

Ведаю, любая!
Сэрца —
ўслед за табою імкнецца!

*1961*

* * *

Чаму вы сумная бываеце такая,—
я разумею, добра разумею!
Хоць з кветак па адным пялёсткі аблятаюць,
але ж затое кветкі не сівеюць.

А нас пакрыўдзіў замаразак ранні,
пасыпаў шэрані на нашы скроні.
Яна, нязваная, напэўна, не растане,
ніякая вясна яе не згоніць...

*1958*

* * *

Мы ўсё спяшаемся і едзем
на тым, на сім ці на «Пабедзе».

Якісьці гехар, як на тое,
нас не пушчае пехатою.

А часам, мабыць, яно трэба
сваёй нагой памацаць глебу,

якая сілу нам давала,
найлепшым сокам сілкавала...

А часам, мабыць, і не лішне
прайсці па сцежачках калішніх,

так сэрцу любых і знаёмых,
з якіх выходзілі ў жыццё мы...

*1958*

* * *

Сітнік стаў сцяной зялёнай
каля берагоў.
Сітнік мой стары знаёмы
з маладых гадоў.

Мы яго ў снапы вязалі,
клаліся на іх.
Плаваць ён вучыў на хвалях
нас усіх малых.

Ці ў віры дзе, ці на моры
ў навальнічны час —
ён нябачанай апорай
быў заўжды для нас.

Вось чаму з такой пашанай
зноў спаткаўся з ім,
хоць ля мора-акіяна
стаў плывец сівым...

*1960*

* * *

Вецер у пушчы прыціх за гарой.
Дзеці на рэчку бягуць грамадой.

Лёд на рацэ, як люстранае шкло.
Сонца праменнем яго спавіло.

Свішчуць канькі, запяваюць канькі
ўдоўжа і ўперак зімовай ракі.

Колькі уцехі і радасці тут,
колькі лагодных, вясёлых мінут...

*1958*

## ПАРТЫЗАНСКІ БАЯН

Заіграй нам ізноў,
партызанскі баян,
як тады, ў векапомныя годы,

калі нашых братоў,
баявых партызан,
весяліў і вадзіў у паходы.

На дарожках лясных,
на шляхах баявых
ты прарочыў ім песняй бадзёрай,

што шчаслівай вясны
дачакаюць яны,
ўшчэнт развеецца горкае гора.

На савецкай зямлі
кветкі зноў расцвілі,
шчасце вечнае закрасавала,

не парушаць яго
ні вада, ні агонь,
ні варожая злая навала.

На курганах нямых,
над магіламі тых,
што загінулі ў цяжкім змаганні,

на ўвесь родны наш край
славу вечную грай,
партызанскі наш сябра, Баяне!

*1961*

## НАШ ЛЕПЕЛЬ

Прыгажэй і лепей
за цябе, наш Лепель,
пэўна, ёсць нямала гарадоў,

ды няма такога
сэрцу дарагога
для тваіх людзей і для сяброў.

Сінія азёры,
ясныя прасторы
зіхацяць пад сонцам залатым,

а народ бадзёры
працай шчасце творыць
у імкненні радасным адным.

Мы ідзём няспынна,
як і ўся айчына,
пад цудоўнай зоркаю сваёй,

каб спакой-лагода
для ўсяго народа
красавалі вечна над зямлёй.

*1961*

## БРАСЛАЎ НАШ ПРЫ АЗЁРАХ

Браслаў наш пры азёрах,
і азёры ў Міёрах,
а падобных азёр
ты не знойдзеш нідзе.

З неба яснага сонца,
з неба сіняга зоры
зіхацяць на срабрыстай
азёрнай вадзе.

На палетках радзімы
з квет духмяных кілімы,
як святочныя ўборы,
навокал ляглі.

Гэта свята народа,
што сябруе з лагодай,
гэта свята савецкай
любімай зямлі.

Мы яе абаронім,
мы на родныя гоні
загародзім навекі
дарогу вайне,

каб не ведалі гора
у Браславе, Міёрах
і на нашай савецкай
усёй старане.

Лепш няхай над Браславам
свеціць сонца яскрава
і купаюцца зоры
ў азёрнай вадзе,

на палетках радзімы
хай квітнеюць кілімы,
па кілімах народ наш
да шчасця ідзе.

*1961*

## НАД ЛЕПЕЛЬСКІМ ВОЗЕРАМ

Ах ты ясень, ясень!
Над азёрнай стромай
зноў мяне вітаеш,
як стары знаёмы.

Зноў галлём калышаш
і шуміш лістамі,
як тады шумеў ты,
гаманіў над намі.

Два гады́ мінулі
быццам два дзянёчкі,
калі мы сядзелі
пры табе ў цянёчку,

ды было цянёчку
пад табой замала,
на дваіх з каханай
нам і не хапала...

Падужэў, падрос ты,
маладзенькі ясень,

стаў цудоўным проста
пад табою засень,

ды цяпер адзін я
стаў каля цябе тут,
пагладаю сумна
на раскошу гэту.

Зашумі ізноў ты,
як тады, калісьці,
дай ты мне на шчасце
хоць маленькі лісцік.

Я пашлю каханай
лісцік той на памяць,
хай дзянёчкі тыя
перад ёю ўстануць,

калі тут сядзела,
калі тут бывала,
пры табе са мною
шчыра размаўляла...

*1961*

# НАСТАЕ І РАЗВІТАННЕ

Настае і развітанне.
Сэрца торгае трывога.
Покуль «МАЗ» ля хаты стане,
пасядзім перад дарогай.

Можа, ўбачымся калі мы,
можа, не — жыццё не поле!
Ды на гэтыя часіны
не забыцца нам ніколі.

На людзей такіх цудоўных,
працавітых і сардэчных,
на прастор, красою поўны —
і сучаснай, і спрадвечнай.

Нават дзяцельнік на ўзлессі
тут пышней красуе неяк.
Ды і ты святлей смяешся
з-пад прымружаных павеек.

Ты пра нас успомніш, пэўна,
як і мы цябе згадаем
словам нежным, задушэўным:
— Дарагая! Залатая!

*11.VIII.1960*

## ЮНЫЯ КАПІТАНЫ

На белым свеце дождж ідзе
маленькі, невялічкі.
А дзеці ходзяць па вадзе,
палошчуць чаравічкі.

Зрабілі чоўнічкі з кары,
пусцілі на калюжу.
Дзядуля сварыцца стары,
трасе рукой нядужай.

Баіцца ён, каб не сплылі
на чоўнах тых далёка,—
адгоніць вецер караблі
у акіян шырокі...

Да недасяжных берагоў
плывіце смела, дзеці!
Да іх дзядуля не дайшоў,—
дык сонца вам пасвеціць!

*1960*

# ВЕРШЫ ПРА ТОЕ, ЯК АСЕННІ ВЕЦЕР РАЗБУРЫЎ ТРЫСНІКОВУЮ СТРАХУ МАЁЙ ХАЦІНЫ

Асенні вецер
дзьме усё мацней,

не пакідаючы
сваіх разбойных дзей.

Ён са страхі маёй хацінкі
змёў

чатыры рэдзі трысніку
далоў.

Адну,
узняўшы сілаю сваёй,

параскідаў ён,
недзе за ракой.

Шпурнуў другую,
колькі змогі меў.

Яна засела
ў верхавінах дрэў.

А рэшткі ў сажалку пагнаў
праз тын.

І знікла ўся страха мая,
як дым.

Прыбеглі з вёсак бліжніх
хлапчукі.

Ім, як для кпін,
увесь разбур такі.

Яны сабралі рэшткі
па зямлі

і, як зладзюжкі,
ў лес павалаклі,

чым і дакончылі
ўвесь гэны глум.

А мне пакінулі
тугу адну.

Засмаглі вусны,
і запёкся рот.

Я перастаў крычаць,
смяшыць народ.

На кій старэцкі я
успёрся свой

і праз акно гляджу
перад сабой.

А хмары сталі
чорныя, як туш,

сабой закрылі
неба пекнату.

І самі утапіліся
у змрок.

Кладуся я пад коўдру
ў свой куток.

Хоць вецер змоўк
і стала зацішней,

не грэе коўдра мне
старых касцей.

Зусім страпаў яе
сыночак мой,

калі варочаўся,
сплючы, пад ёй.

А дождж не тое
каб шумеў здаля,

ён мне пачаў
на ложку назаляць.

Цурочкі цягне,
як з кудзелі ніць,

ніяк не хоча
гэты здзек спыніць.

Я без таго
знясілены вайной,

а тут і дождж ліе
на ложак мой.

Ён сон у хворага мяне
адняў.

Як перабуду
гэту ноч да дня?

О, каб такі
пабудаваў хто гмах!

На ім каб быў адзін
вялізны дах,

каб міліён пакояў
ён узнёс

для беднякоў,
якіх пакрыўдзіў лёс.

Каб не баяўся
ліўняў і вятроў,

трывалы, як гара,
у вышыню ішоў.

І калі б дзе на свеце
ўбачыць мог

у яве, у жыцці сваім
яго —

тады дом мой
хай скрышыцца на тло,

замерзну я,
абы вось так было.

## ЦВЫРКУН

Такі маленькі цвыркунок,
што ледзьве бачыць яго зрок,

але кранае сэрцы ўсім
журботным галаском сваім.

Ён у траве звініць удзень,
а ноччу ў хату забрыдзе,

засядзе дзе пад ложкам там,
пачне тайком спяваць людзям.

І я, без роднай тут зямлі,
аж захлынаюся слязьмі:

згадаў я жонку і дзяцей,
зноў не ćамкне яна вачэй.

Рыданне струн і флейты стогн
нас не расчуляць так, як ён,

як галасочак, што для нас
цвырчыць і ў самы позні час.

## ПРА ТЫГРА

Жуду слабейшым
тыгр прыносіць люты,

але і ён трапляе
ўсё ж ткі ў клямар:

закручаны ўжо лапы
ў моцных путах —

ён марна ушчынае
грозны лямант.

Пад ногі ляжа
шкура нежывая,

шкляныя вочы
не пабачаць свету.

З людзьмі, дарэчы,
горшае бывае:

няхай тыраны
ведаюць пра гэта!

* * *

Спыталі мудраца:
— Скажы народу,
чаму настрой
вясёлы твой
заўсёды?
Мудрэц сказаў:
— Такіх не маю скарбаў,
якія страціўшы — іх шкадаваў бы.

* * *

Спыталі мудраца:
— З якой падзеі
мы атрымалі б шчасце і надзеі?
Мудрэц сказаў:
— І смерць памога,
калі бярэ кіраўніка благога.



Спыталі мудраца:
— Што дасць патолю
таму,
ў жыцці хто напаткаў нядолю?
«Разумны,— кажа,— мае ў тым уцеху,
што ён бяды
не мог ніяк аб'ехаць.»
Дурны суцешвае сябе іначай:
«Я не адзін!
Сусед мой такжа плача!»



Скажы, мудрэц, у чым твая віна?
Чаму ўладар цябе не любіць наш?
— Усе ўладарнікі не любяць тых,
якія
разумнейшыя за іх.



Разумны —
заўсяды з разумным будзе ў згодзе.
Дурны —
і дурня,
і разумнага абходзіць.



Разумны дурня пазнае здалёку,
бо — [illegible]
покуль сам набраўся клёку,—
[illegible]
быў не аднойчы і ў дурацкай скуры.
А вось у дурня накшая натура:

пазнаць разумнага ніяк не здолен,
бо сам разумным [illegible]
не бываў ніколі.
[illegible]



Пабачыўшы, як жве мудрэц карэнне,
адзін сказаў яму для настаўлення:

— Калі б служыў ты ўладару,
мой браце,
карэннем не прыйшлося б сілкавацца!

Мудрэц сказаў:
— Каб еў і ты карэнне,
за ўладаром
не поўз бы на каленях!

* * *

Калі ў душы тваёй агонь вялікі,
наповерх дым, глядзі, не выкінь!



Аднойчы хтосьці мудраца пытае:
— На свеце цяжкасць большая якая?

— Пазнаць сябе самога дасканала
і думак не пускаць куды папала.



Мудрэц!
Скажы і дай нам тлумачэнне:
якое красамоўцаў прызначэнне?

— Каб павялічаваць нікчэмным славу,
змяншаць у тых,
хто славу меў па праву.

* * *

Адзін бадшах спытаў свайго дарадцу:
— Як радзіш ты з навушніцтвам змагацца?

Той адказаў:
— Абодва рэзаць вухі
тым,
хто навушнікаў не кіне слухаць.



Скажы:
як добрую знайсці мне жонку,
бо я павінен дбаць і пра патомкаў?

— Не радзіў бы я сватацца уночы,
бо могуць вельмі ашукацца вочы.

Парадзіў бы паслухаць і суседзяў,
бо, хто пытае,
той хутчэй даедзе.



Ты гаварыў:
«Гарэлка носіць шкоду».
Ды як пазбыцца гэтай перашкоды?

Мудрэц сказаў:
— За кожнай чаркай
ты заядай падсмажанаю скваркай.

А каб яны сябе там добра чулі, —
пашлі ўздагон ім і скрылёк цыбулі.

Тады ўсю смагу знішчыш ты дарэшты
і будзеш жыць,
аж покуль не памрэш ты.

* * *

Няхай і так.
Але ў гарэлцы згуба.
Пра гэта трубяць ува ўсе нам трубы.

— Эх, дружа мой,—
сказаў мудрэц з усмешкай,—
хоць недзе,
а канчаецца ўсё ж сцежка!

Я і такіх на свеце бачыў часам,
што апрагліся нават хлебным квасам.

* * *

Якім цудоўным скарбам пагарджаюць людзі?
— На сціпласць ласкі ў іх, бадай, не будзе.



Маленькі клопік скардзіўся клапісе:
— Маё жыццё —
ну, проста, хоць тапіся!

Дзе б ні з'явіўся я —
плююцца людзі,
як быццам я жыццё ім апаскудзіў.

— Сынок, —
сказала у адказ клапіха, —
у тым жа ўсё і захавана ліха!

Яны зайздросцяць і красе дзівоснай,
ім і на пах духмяны твой зайздросна!



Сказаў мудрэц:
— Угоіш нават раны,
што найвастрэйшай зброяй насяканы.

А тую рану,
што насекла слова,
не ўгоіш ты і да апошніх сховаў.

* * *

Хорт даганяў газель на поўны мах.
Газель харту сказала:
— Кінь! Дарма!
Здагнаць мяне ніяк не зможаш ты!
— Чаму? —
здзівіўся той.
— Бо вы, харты,
падзяку маеце за беганіну,
а я —
жыццё ўратаваць павінна...



Мудрэц сказаў аднойчы ўсім знаёмым —
табе, і мне, ды і сабе самому:

— Чатыры якасці гарэлка мае.
Чатыры якасці ў сабе трымае.

Яны да нас прыходзяць паступлва.
У кожнай выгляд розны і размова.

Пачатак добры мае справа быццам:
ад першай пачынаем ганарыцца.

Ад першай чалавек, як пава тая,
з вялікай пыхай важна выступае.

Пасля другой — падобны больш да малпы:
рухавы, жвавы, бегаў, жартаваў бы...

Як леў — сябе за трэцяй адчувае.
З'яўляецца і сіла ў ім такая,

што ён гатовы горы паварочаць,
калі яны дарогі даць не схочуць.

Яшчэ пасля, з чацвёртай, на астатак,—
прыходзіць, як свіння, ў свіны ён статак,

у гразь кладзецца, ля свінні пры боку,—
бо ложак тут і мяккі, і шырокі...

* * *

Чаму зайздросны вечна нездаволен,
няма спакою у яго ніколі?

— Яго гнятуць уласныя няўдачы,
ён ад чужых удач таксама плача...

* * *

Той слова добрага заўсёды варты,
свае памылкі нішчыць хто упарта,

а на чужыя
пальцам не тыркае,
хоць ёсць у многіх звычка і такая...

Калі сажалку закаваў лёд,
жабы схаваліся ў твань балот.

Крумкаць, скакаць больш не жадалі,
а засынаючы дакляравалі,

што як узнімуцца зноў напрадвесні,
будуць спяваць салаўіныя песні.

Вясна прыйшла. Стáяў той лёд.
Жабы ўзняліся з твані балот.

Селі яны ля тых берагоў
і закрумкалі...
як жабы ізноў...

## *Юльюш Славацкі*

### МОЙ ТАСТАМАНТ

Жыў я тут з вамі, пакутаваў з вамі і плакаў.
Сёння ад вас адыходжу навекі ў нябыт я.
Варты пашаны не быў для мяне абыякім,
Ваша нядоля тугою маёй апавіта.

Не пакідаю ніякага спадчынаёмца
Ані для лютні маёй ні наймення.
Імя маё праляціць, як маланка, пад сонцам,
Будзе, як пошчак, ісці праз усе пакаленні.

Тыя, што зналі мяне, у паданнях адзначце,
Што маладосць сваю ўсю я аддаў для народа.
На баявым караблі быў заўсёды на мачце,
Гінуць пачаў карабель — з ім пайшоў і пад воду.

Хто будзе думаць аб лёсах айчыны каханай,
Калі ў ім знойдзецца кропля святога сумлення,
Скажа, што дух мой быў славаю продкаў убраны
І не бывала на ім жабраваных адзенняў.

Прыйдуць няхай дружбакі мае ўночы, пры зорах,
Возьмуць з грудзей маё сэрца і спаляць з альвасам.
Той, што дала гэта сэрца, хай вернецца порах:
Доўг свой адбуду і свету і матцы тым часам.

Хай дружбакі мае сядуць ля поўнае чары,
Сховы мае хай зап'юць хоць уласнай нядоляй.
Духам я стану — з'яўлюся да іх, як прымара,
Дасць бог пакуту — не ўбачымся больш мы ніколі.

Я заклінаю: жывыя, надзею не траццproperly!
Перад народам трымайце асветы паходню.
Трэба памерці — адзін па адным памірайце,
Але руйнуйце варожую сілу вы штодня.

Што да мяне — вам маленькую дружбу пакіну
Тых, што маглі пакахаць маё гордае сэрца.
Згодзен пайсці ў неаплаканую дамавіну,
Доўг свой увесь я адбыў напярэдадні смерці.

Здолее хто цераз свет, абыякасці поўны,
Так перайсці, як вось я перайшоў, без авацый?
Быць рулявым на напоўненым духамі чоўне,
Так, як яны, непрыкметна з жыццём развітацца?

Усё ж застанецца мая вам фатальная сіла,
Што пры жыцці магла толькі... чало мне аздобіць.
Будзе нябачна гнясці вас яна да магілы,
Можа калі хлебажорцаў анёламі зробіць.

# Уладыслаў Сыракомля

## ЛЯЛЬКА

*Дзіцячая гутарка*

Будзь, лялечка, ветлай! I плакаць не варта!
А хто ж гэта вушка ка мне не схіляе?!
Я лялцы скажу пра цікавае надта,
Як чула ад родных сама я.

У свята... мне мама адзене абнову,
Бо выўчыла я па-французску маліцца.
Завяжа чало мне істужкай ружовай.
Паедзем мы ўсе да капліцы.

Вось будзе дзівіцца народ наш вясковы,
Калі па-замежнаму я памалюся!
Маліцца ж не варта мужыцкаю мовай,
Хоць я і жыву ў Беларусі.

Ціхутка скажу і папросту: хай божа
Хутчэй дасць мне вырасці зграбнай, харошай,
А татку і маме здабыць дапаможа
Шмат жоўтых і беленькіх грошай.

Яны іх так прагнуць, як збавы смяротнай,
Кладуць на імшу па двузлотцы, не меней.
А бог, што дае за ахвяры стакротна,
Адплоціць ім поўнаю жменяй.

Штораз яны лепей дагоджваюць богу,
А ён жа ўсё бачыць сваімі вачыма!
Адразу дасць грошай так многа, так многа,
Што нават злічыць немагчыма.

Ах, лялька! Аж смешна! Не можаш ты ўцяміць:
Пытаеш, ці бог прыйдзе ўласнай асобай,
Ці грошы нам ангел нябесны даставіць
Вялізнай, вялізнаю торбай?!

Ды не! Мама кажа, што з літасці боскай
Гандляр прынясе тыя грошы з мястэчка.
На іх купім хлопаў вялікую вёску,
Каб сеялі жыта і грэчку.

Мы — гэта паны. Зразумець табе трэба!
А ёсць яшчэ іншыя людзі — сяляне,
Якім загадаў бог з высокага неба
Панам здабываць харчаванне.

Брыдкія і брудныя, хлеб з лебядою,
Сярмягі падраныя, курныя хаты...
Іх бог так карае, напэўна, за тое,
Што хлопы не слухаюць тату.

Пан коні больш любіць, а мама дык шпіца.
Сялян — хто аблае, хто кіем працягне.
Папраўдзе — і шкода і трэба дзівіцца:
Усе нéслухі, мабыць, сяляне!

Учора... як тата заснуў па абедзе,
Дык — на табе! — добра так? Што за патрэба?! —
Ў пакой натаўкліся, крычаць, як мядзведзі:
«Дай хлеба, паночак, дай хлеба!»

Што ж! Далі кіямі. Ўсё стала на месца...
Ах! Я калі вырасту, буду мець збожжа,—
Пакуль уся вёска мая не наесца,—
Ніколі не лягу на ложак.

Прабач мне, ды як бы з табой мы заснулі:
Галодны народ каля вокан таўчэцца.
А як не накорміш, у торбу дзядуля
Паберыць усіх, хто без сэрца.

Што ж будзе, як Езус заўважыць з іконы,
Які дзеліць рыбу і хлеб між людзямі?!
Эх, лялька! Хай бог дасць здароўя і плёну
Сялянам, і тату, і маме...

# ГЕТМАН ПОЛЬНЫ[1]

Бо калі дома ільвамі бязлітаснымі будзеце, у часе грозным станеце як авечкі ў рэзніцы.

*П. Скарга*

## 1

Перад узгоркам, дзе стала вёска,
Татар чакае панскае войска.
Бо ёсць вядомка, што позным часам
Арда тут будзе сёння з папасам.
«Як толькі ткнецца арда з даліны,
З усіх бакоў вы абняць павінны.
Для абароны хацін вясковых
Не пашкадуйце мячоў сталёвых!»
Так план накрэсліў для гэтай справы
Вяльможны гетман польнай булавы.

[1] Літаральна адпавядае сучаснаму «фельдмаршал».

2

Хто закаваны ў сталёвы панцыр,
І бога можа не пабаяцца.
У вёсцы шляхта з абозным збродам
Глуміцца стала па-над народам.
Ламаюць свірны, рабуюць хаты;
Галосяць, енчаць ад іх дзяўчаты.
Валам рабочым сякуць галовы,
А хто заплача — б'юць дадаткова.
І хто ж смяецца з тае расправы? —
Вяльможны гетман польнай булавы.

3

Да гэтай вёскі на шэрым змроку
Прыйшлі татары, пачулі ёкат.
«Не будзе бога вышэй Алаха!
Наш Сулейман тут дае ім жаху!
Дзе Сулеймана нага ступала,
Там застаецца спажывы мала.
Мы лепш на замак хадзем паходам,
Каб скончыць справу адным заходам.
У замку вораг жыве крывавы —
Вяльможны гетман польнай булавы».

4

Рабуе шляхта не горш татараў,
А ў небе водбліск другіх пажараў.
Як глянуў гетман — закалыхаўся:
— На конь, панове! Мой двор заняўся!..

Пакуль на коні, пакуль нагоня,
Там засталіся адны галоўні:
Што пагарэла, што паламана,
А гетманова ў палон забрана...
Заплакаў горка слязьмі няславы
Вяльможны гетман польнай булавы...

# МЕЛОДЫІ З ВАР'ЯЦКАГА ДОМУ

1

Над цэлым светам я пан-вяльможа,
Што поўзаць, плаваць ці лётаць можа.

Зямля і неба — мае багацці.
Я не баюся ніяк іх страціць.

Замкнуў на ключ я ўсё чыста неба,
Збарсаў шнурамі цяжкую глебу.

Канец вяроўкі і ключ трымаю.
Ніхто ніяк іх не атрымае!

Людзі і духі! Залазьце ў норы,
Каб і не піскнуў які-каторы!

Бо як галёкну, як грукну ботам,
Дык па зямлі вас пакоціць котам.

Хай будзе ціха! Мне сон не здолець.
Згасіце сонца, бо ў вочы колець!

Зіхцення многа?! Знайшлі прычыну! —
Вы пагаліце яму чупрыну,

Як пагалілі мне адмыслова,
Каб не свяціў я святлом ружовым.

2

Вы гляньце! Д'ябал у печ ускочыў!
— Ну як там, нябожа?!
Агонь ён крыллем раздзьмухаваць хоча,
Як толькі можа.

Мікстуру гатуе для свету ў той печы
З кітайскага маку.
Для паху крыві дадае чалавечай,
А слёз — для смаку.

З французскіх газетаў даліў ён гарчыцы,
З нямецкіх — квасу,
А з надтэмзовых пагарда бруіцца
Для духу часу.

У буталь ён выліў мікстуру, заторкнуў,
Каб як не пабегла.
І засмаліў ён той трунак прагорклы
Смалою з пекла.

Вучонаю моваю даў сігнатуру,
На ёй жа словы:
«Хай людскасць п'е тройчы ў стагоддзе мікстуру
І будзе здарова».

3

## Ліст пры адасланні кніжак

Вельмі ўдзячны, пане браце,
За паважныя ўсе кнігі.
Але ў свеце, ў роднай хаце
Маю досыць я фатыгі.

Як чало паважна змрокам
Крые хмара у прасторы!
Як паважным суне крокам
Панураднік да каморы!

Як картэж ягоны следам
Удае павагі знакі.
Як паважна баба з дзедам
Зажывае ў нос табакі!

Як індык, спусціўшы крылы,
Стаў паважна ля паркану...
Так абрыдла ўсё, мой мілы,—
Дагары нагамі стану!

Урачыстасць, паказуха
Горш за ўсякае там ліха.
Лепш папраўдзе ведаць скруху,
Чым з хлуснёю бачыць пыху.

І чаго ж чакаць далей нам,
Калі скрозь такая згуба?

Сэрца ў смутку безнадзейным,
А павага шчэрыць зубы.

Бач, як смешна ўсё наўкола:
У людзях, сядзібах, мэце.
Кніжак мне прышлі вясёлых,
Каб смяяцца так, як дзеці.

Каб пазбыцца думак сумных,
Што вядуць да безгалоўя.
Пасмяемся шумна-тлумна,
Можа, смех дадасць здароўя.

Хай усе смяюцца людцы:
І чытакі і пісакі.
Дзед і баба хай смяюцца
Над сваім ражком табакі.

Хай музыку смех абудзіць,
Хай смяюцца-плачуць струны.
Хай з магіл смяюцца людзі,
Хай з людзей смяюцца труны.

Хай смяюцца хмары, горы,
Загучыць няхай сваволя.
Лес! Не выплачаш ты гора,
Лепш смяіся з лугу, з поля.

Насмяюцца ўдосталь людзі —
Стане добра ў іх на сэрцы.
Хай чуваць высока будзе,
Як нам весела жывецца.

4

Заходзь, пане доктар! З вялікай асветы
Вядома і пра мінералы?!
На пацеркі глянь, што на шыю мне ўздзеты,
Каб немач хутчэй уцякала.

Цвярдзей, чым алмазы, блішчаць, нібы сонца,
Чысцей, чым вада у крыніцы.
Ад бляскаў вясёлкавых з кожнага донца
Праменне бясконца бруіцца.

А ў пацерцы самай — чырвонае зёрка,
Макулінка ў яснай пярліне.
Яно зіхаціць, як нябесная зорка,
Мяняецца ў кожнай хвіліне.

Духмяныя пацеркі гэтыя надта,
Як пах у блакітным прасторы.
Але ж іх падносіць да вуснаў не варта:
Атруціць пякельная горыч.

Ну?! Што ж то за камень? Скажы, эскулапе!
Га! Непадатная справа?!
Не схопіць навука ўсяго, не аблапіць,
Хоць вельмі б цікава!

Не ведаеш? Што?! — Тут навукі нямнога,
Тлумачыць паможа мне сэрца:
То слёзы бяздольнага негра, якога
Плантатар грызе, крыважэрца.

5

Выпінаецца коцік,—
Не галодны варкоцік!
— Коця, што на сняданне
Меў ты да выпінання?
Можа, быў ля паляны
І, за камень схаваны,
Асачыў птушанятку,
Што прыемную згадку
У нас праносіць вясною
Над усёй стараною?
Вылятае на ранку
З пазлацістай заранкі
І, спавіта ў праменне,
Іх на песні адменіць?
Аж зіхціць шчабятанне!
Часам сумна так стане,
Што заплачаш, здаецца.
Часам весела ў сэрцы,
Аж пайшоў бы у скокі,
Рукі ўзяўшы у бокі...
Перад птушкамі, ўкоса
Узлятае ў нябёсы
І на тым акіяне
Пачынае спяванне.
Завядомвае неба,
Што тут людзі без хлеба,
Што патрэбна нам ласка,
А не панская ляска.
Калі ж неба расчуліць,
Долу падае куляй,

Над аратым кружляе,
І «дзень добры» спявае.
— Не гаруй, чалавеча,
Гора наша не вечна!
Праміне навальніца!
Сей, а будзе пшаніца! —
Гэта ж ангел, не птушка!
Шчасце й з той весялушкай!
Як заступніца нівы,
Як паэт наш праўдзівы.
Колькі светлага ў песні!
Каб ды тое ўсё здзейсніць!

А ты, коця, мажліва,
Асачыўшы цярпліва,
Кіпцюрамі раптоўна
Супыніў спеў цудоўны,
Па-зладзейску, знянацку
Загубіў нам спявачку?
Адкажы, дзе жаўрук наш,
Што ўзнімае ўсіх рупна
І усіх, хто мадзее,
Надарае надзеяй?
Кот зірнуў рызыкоўна,
Як бязвінны ўсё роўна,
Кіпцюры ашчаперыў
І уклаўся на пер'і...

Па сцяне кот скрабецца.
— Коця! Ты, жываедца!
Ненажорнае горла,
На абедзе што жорла?

Можа, быў ты на ловах
У прасторах гаёвых,
Дзе ляшчына цяніста,
Дзе крыніца празрыста?
Там, ля вербіны ніцай,
Ля празрыстай крыніцы,
Смерць для птушкі прынёс ты,
Не звычайнай, не простай,
Што ў цішы вечаровай,
У ляшчыне шатровай
Сум цяжкі разганяе
І заместа адчаю
Ў сэрцы радасць калыша
Ў вечаровым зацішшы?
Слухаць спевы цікава
І ляшчыне, і травам.
Месяц нават двурогі
Збочыў з вечнай дарогі.
Стаў і ціха ўздыхае
Каля нашага гаю.
Слёзы коцяцца з неба
Ў засмучоную глебу,
Асядаюць на кветы
Там расой непрыкметнай.
...Адкажы, кат праклятьі,
Загубіў салаўя ты?!

Сеў пачвара за госця,
Кроў вылізвае з поўсці.
На драпежніку гэтым
Кроў ляснога паэта...
Як дзіця, кот гуляе,

Хіжа ўсё ж пазірае.
— Што ты іклы ашчэрыў?
Дзе ты, як ты вячэраў?
Можа, ў дзікі свой звычай,
Лазіў ты па здабычу,
Не баяўшыся грэху,
Пад сялянскую стрэху?
Там, дзе ластавак борздых
Прымацованы гнёзды,
З аднаго, на астатак,
З'еў усіх ты пісклятак,—
Дзетак ластаўкі шчырай?
Свой пакінуўшы вырай,
Гэта птушка спрадвеку
Аддае чалавеку
На апеку-патолю
Сваю радасць і долю:
І гняздо і пісклятак,
Свой святы ўвесь дастатак.
Яна ў нас гаспадыня,
Лета носіць краіне.
Ціхім, цёплым надвор'ем,
Па-над хатай, над дворам
І праз дзень і падвечар
Безупынна шчабеча,
Дадае так ахвоты
Гультаям да работы.
— Ці вам сну не хапае,
Ці хвароба якая?
Дзе вы? Што вы? Ці жывы?
Не марудзьце са жнівам!
Звозьце ў гумны ўсё збожжа! —

Калі ж хмары абложаць,
Нізка лётаюць, сквіляць:
— Дождж! Дождж будзе праз хвілю!

Чуеш?.. Енчаць так глуха!..
Па-над гнёздамі скруха.
След пакінуў ты горкі:
Кроў і дзетак іх пёркі.
Гора ў птушак якое!
Як клянуць нас з табою!
Б'юцца грудцамі ў сцены,
Дзетак клічуць дарэмна...

Чуе, пэўна, ён сорам,
Страшным лыпае зорам.
Больш няма ўжо сумнення,
Больш няма ўжо цярпення!
Загубіць ва ўсім лёсе
Хіжаку давялося
Стрэх вясковых такую
Гаспадыньку малую.

Кот па-здрадніцку муркаць
Стаў, залёгшы ў пячурку.
Сном накрыўся ён потым
Пасля сытнай работы.
Я ж яго цераз спіну
Як пагладзіў дубінай!
Праз адно вокамгненне
Знік драпежнік у сені,
На дварышча, ў прысады...
Даць не спраўлюся рады!

Га! На дрэве?! Ну, годзе!
Пачакай жа ты, злодзей!

Пан дазорца шпіталю
Асачыў мяне здалю.
Загадаў чалядзінцам
З дрэва зняць на дзядзінцы,
Потым зімнай вадою
Паліваць за ўсё тое
І у цесны закутак
Пасадзіць на пакуту.

«Хлеб з вадой на трыднёўку!»
Не вазьму я да толку:
Што? Ды ў чым я правінны?
Помсціў я за нявінных,
За пакрыўджаных птушак,
За малых весялушак.
Што ж магло быць другое
За батурства такое?

Пане! Я ў адчаі:
Тых ён птушак канчае,
Пазірае скрозь шчылін
На пабітых птушылін.
А жывём мы на свеце
Ў дзевятнастым сталецці!
Мабыць, плёну не будзе,
Не палепшаюць людзі!
Што ж мне трэба? Мой божа,
Мне заснуць дапаможаш?!

6

Смешна ходзіць штось такое
    Ў тым пакоі:
Горад збоку, вёску з краю
    Ўспамінаю.
На курынай ножцы хата
    Віхраваста.
Там утульная карчомка
    Сівагронка.
І палац там на адхоне
    Стоваконне.
А касцельчык ледзь мадзее
    Ў ветравеі.
На слупах стаіць падпёрты
    Дах падзёрты.
Залажыў там нехта кветнік,
    Мох і вейнік.
Людзі ходзяць, блудзяць, бродзяць —
    Не даходзяць!
Сонны пойдзе ці паедзе
    Стуль у недзе?!
І няма на свеце смеху
    Ў гэтым грэху.
Кліча з вежы звон пабіты:
    «На малітву!»
На прабойнай каляіне
    Дамавіну
На руках дзяды чатыры
    Цягнуць шчыра.
І разуты, і раздзеты
    Праўдай свету.

Пагљядзеўшы гэтай праўды,
Уцякаў бы.
Бабкі бедныя, з шпіталю,
Свечы ўзялі.
Арганісты перад імі
Ног не ўздыме:
Мусіў выпіць для запалу
Кардыялу [1],
Бо з запалу цягне тоны
Антыфоны.
А як гукне «Адпушчэнне»
Ці «Збавенне»,
«Памяць вечную» як пальне
Капітальна,
Дык, здаволены работай,
Лясне ботам.
За труною малавата
Праважатых.
Выйшлі людзі простых станаў
Для пашаны,
Хлапчукі прыбеглі з поля
Для сваволі.
Сябры два, правёўшы крыху,
Зніклі ціха.
Толькі рэкнулі: — А шкода!
Даўся зводу!
Сэрца, як вулкан, яскравай
Поўна лавай.
Так уласная ўся сіла
І спаліла.

---

[1] «Сардэчныя» кроплі, моцная гарэлка.

А цяпер што? Усё забыта:
Труп і — квіта!

— Што гугніш-пяеш нячыста
Арганісты?
Труп, як бачна, і па сконе
Ў добрым тоне.
Сцяты ў вуснах надзвычайны
Енк адчайны.
Лоб разумны і адкрыты.
Хто ж такі то?!

Так спытаўся пан далёкі
Пры маноклі.
Арганісты растлумачыў:
— Не партачым!
Па-латыні і па нотах
Спеў сумотны.
А нябожчык перад панам —
Апантаны:
Быў на хмарах у вандроўцы,
Вершатворца.

Усё жыццё пароўся ў кнігах.
А на ліха?
Гэта «іншы» быў заўсёдны,
Бо не модны.
Ачмуралі, як малога,
Ўсе нябогу.
Слёзы ліў, казаўшы ў дужках,
На падушку.

А красуня, сэрцу міла,
Знелюбіла.
І сяброў не меў сумленных,
Шчырых, пэўных.
Вершы згрызлі з добрай шаны
Крытыканы.
Ўсё дабро ўзяла ў абоймы
Родных плойма.
Так ішла за справай справа
Нецікава.
Жаль вялікі ў галаву ўзяў —
Цэлы вузел.
Больш — спаткаўшы чалавека
Бег наўцекі.
І пайшла ў людзей гаворка,
Слухаць горка:
— Ў галаве яго мудрэчай —
Кукарэча?!
Захварэў, не мае есці.
Злыя весці!
На камінку корч пылае —
Дагарае.
Ён жа, ў часе найцяжэйшым,
Піша вершы! —
Тут жа з енкам, як у трасцы,
Стаў пытацца:
— Ды калі ў пясок палóжыш,
Моцны божа?
Я ж любіў так! Мне ж, затое,
Ўсё благое?! —
Адышоў ён так са свету...
Што паэту?!

Нам — хавацъ прыйшла калейка
Без капейкі.
Хто заплаціць?! Той, багаты
Літаратар?!
Дармавая песня — гора,
Вяне скора.
Га!.. Дзядулі і бабулі,
Ці вы чулі?!
Гэй! Гукнём мы ля магілы
З поўнай сілы:
Памяць вечную дай божа
Для нябожы!
Хай святло, — спявайце дзеці, —
Вечна свеціць!

## ТЫ ПАМЕРЦІ НЕ ПАВІННА

Мкнуць хвіліны, мкнуць гадзіны,
А за імі зімы, леты.
Трапіш там і ў дамавіну
Ты, залётны госць Сусвету.

Павандруе дух сірочы
У нябесныя вышыні.
А труну пацук паточыць,
Парахно касцей раскіне.

Перад тым жа труп застылы
Урачыста несці мусяць.
І прамоўца, люба-міла,
Пра цябе народу схлусіць.

З плачам пекным апранецца
Чорнай сукняй, як да балю,
І яна... Друг адгукнецца
Вершам сумным, поўным жалю.

Вось і ўсё, бадай, для цела,
Ды зямлі вільготнай груддзе...
Дзе ж усё, што летуцела,
Што агнём паліла грудзі?

Ўсё пагасла, ўсё патухла —
Думкі, сэрца, шчасце, слёзы.
Рэшткі ўсе, як пацяруху,
Вецер звее ў ніцы лозы.

Песня! Я ў табе пакіну
Варты неба дар нябесны!
Ты памерці не павінна,
А з табой і я ўваскрэсну!

Нелюдзь, пэўна, мкнуцца будзе
Здратаваць цябе і сцерці.
Але знойдуцца і людзі
Паратунак даць ад смерці!

# *Максім Рыльскі*

## МОВА

...Трэба даглядаць наш сад.
*Вальтэр*

Як пораст вінаграднае лазы,
Мілу́йце мову. Пільна й неадкладна
Бур'ян паліце. Каб чысцей слязы
Яна была. Надзейна і дакладна
Яна заўжды хай служыць вам усім,
Хоць і жыве жыццём сваім жывым.

Паслухайце, як акіян спявае —
Народ гаворыць. З шумам морскіх вод
Любоў і гнеў. На свеце не бывае
Настаўнікаў мудрэйшых, чым народ.
Тут што ні слова — перлаў зіхаценне,
І чалавек, і праца, і натхненне.

Збірайце плён, як рупны гаспадар
Плады збірае ў дагляданым садзе.
Народны слоўнік — гэта пышны яр,
Цудоўны скарб ён дасць вам пры даглядзе.
Не майце гневу да маіх парад
І не лянуйцеся вы свой дагледзець сад.

# ЗАЎВАГІ

## *Вершы*

*„З часоў маладосці“* (1922—1929). У гэты раздзел уключаны вершы са зборнікаў «Строма» (1923, Вільня), «Трысцё» (1925, Мінск), «Credo» (1926, Мінск) і «Наля» (1927, Масква). Апрача таго, вершы, друкаваныя ў некаторых выданнях тых часоў («Чырвоны Сейбіт», «Узвышша» і г. д.).

*„Што складаць пра каханне вершы“.* У канцы верша даюцца радкі з яўрэйскай народнай песні «Іх гей аройс», якія прыблізна можнаператлумачыць так:

Выйду, выйду ў сені-ганак,
вачыма прастор пацалую,
выйду, выйду ў сені-ганак,
думкай прастор спавію я...

*„І было ўвосень“.* Ван Чжао-цзюнь — кітайская дзяўчына, жыла ў І веку нашае эры. Яна не дала хабару прадажным мастакам, чаму тыя намалявалі яе на партрэце непрыгожай, што ў далейшым выклікала для яе сумныя вынікі. У звязку з яе нешчаслівым жыццём многія паэты, у тым ліку Лі Бо, прысвяцілі ёй свае творы.

*„Залатымі лёсткамі“.* У гэтым вершы згадваецца веснавая кветка «ключыкі», пазлацістага колеру. Паводле беларускай народнай легенды, вясна гэтымі ключыкамі адмыкае неба, адкуль тады пачынае ісці цеплыня на зямлю, а за гэтым — пачынае ўсё красаваць на зямлі, а птушкі — спяваць.

*„Плач навальніцы"*. Мелодыі «Плач навальніцы» навеяны наступнымі фактамі: ...«Варшава. 15.01.1926 г. Беларуская сялянска-работніцкая грамада падала ў польскі сейм інтэрпеляцыю пра катаванні і пабоі трох арыштаваных дэфензівай сялян у Сакольцы. Асабліва сурова катавалі Ладзімера Шаха, якому звязалі рукі і ногі разам, а паміж локцяў прасунулі шаблю і пасля гэтак моцна білі, што ад уздрыгу цела зламалася шабля. Калі з Шаха пачала ліцца кроў, яму ўлілі праз нос некалькі бутэлек вады і воцату»...

*„Ты, Ларыса, таксама Зарніца"*. Ларыса Анатольеўна Папугаева — лаўрэат Ленінскай прэміі, малады ленінградскі геолаг — першая знайшла радовішча алмазаў і назвала яго — Зарніцай. Вось маленькі ўрывачак з апісання яе пошукаў.

...«Па чырвоных каменьчыках (піропы) Ларыса Папугаева прыйшла да трубкі «Зарніца» ў жніўні 1954 года. Больш праўдзіва сказаць, не прыйшла, а прыпаўзла, у літаральным сэнсе гэтага слова. Каменьчыкі прывялі яе да безназоўнага ручая ў паўночнай якуцкай тайзе, але знаходзіць іх у парослай мохам зямлі было вельмі цяжка, і дзяўчына дзень за днём паўзла па беразе ручая з павелічальным шклом у руках, баючыся згубіць след. Часам падвечар у яе не хапала сіл, каб устаць на ногі, а назаўтра — яна зноў ішла, зноў паўзла праз заліўны дождж, праз сцюдзёны вецер. Гэты шлях заняў у яе цэлае лета...» (Ф. Самойлов, Волшебный жезл).

П і р о п — спадарожнік алмазаў, родзіч граната, дзякуючы свайму прыкметнаму чырвонаму колеру дапамагае знаходзіць радовішчы алмазаў.

К і м б е р л і т — агульнапрынятая назва для глебы, якая мае свой уласцівы колер (зеленкавата-сіні, блакітна-шэры), дзе звычайна знаходзяць алмазы.

*„Ластаўка, ластачка, своля"*. Ластаўка — па-беларуску, ластачка — па-руску, а «своля» — была такая мясцовая назва ў нас для гэтае птушачкі, якую мы тады тлумачылі выведзенай ад слова «сваволя», што значыла і «дуронніца» («шалунья»). Была нават дзіцячая песенька, якая пачыналася: «Своля-сваволя, вылеці ў поле...» Але пазней мне прыйшлося сустрэцца з англійскім словам «swallow» («сўоляў»). Як яно заляцела да нас — гэта няхай раскажуць моваэнаўцы.

## *Далёкае і блізкае*

*Ду Фу.* Выдатнейшы кітайскі паэт старога часу (712—770 гг. нашае эры). Ягоныя вершы, пісаныя тысяча дзвесце год таму назад, захапляюць сваёй красой і здзіўляюць сілай незраўнанага таленту. Ён вельмі трапна спалучаў лірыку з грамадскімі матывамі.

*Абуль Фарадж.* Грыгор Іоан Абуль Фарадж Бар-эбрэй нарадзіўся ў 1226, памёр у 1286 г. Ён вядомы не толькі як сірыйскі пісьменнік, але як вучоны-энцыклапедыст свайго часу (гісторык, доктар, філосаф, мовазнавец-граматыст). Мастацкія творы пісаў на сірыйскай і арабскай мовах, але ведаў многа іншых, напрыклад, армянскую, грэчаскую. У сваіх творах шырока карыстаўся скарбніцай народнай творчасці ўсходніх народаў.

Найбольш вядома ягоная кніга «Цікавыя прыгоды» (напісаная прозай), з якой і падаюцца некаторыя творы ў вольнай апрацоўцы, вершам.

*Уладыслаў Сыракомля.* Выдатны польскі паэт Уладыслаў Сыракомля (Людвік Кандратовіч) нарадзіўся, жыў і працаваў усё жыццё на Беларусі (у асноўным — на Палессі). Ён вельмі добра ведаў беларускую мову, сам часам пісаў вершы па-беларуску. Памёр ён у 1862 годзе.

Многія яго творы звязаны з жыццём беларускага працоўнага народа, а многія, пакладзеныя на музыку, сталі народнымі. Адным з такіх з'яўляецца вядомая ва ўсім Савецкім Саюзе «Ямщик» («Когда я на почте служил ямщиком...»). Многія творы Ул. Сыракомлі гучаць так, нібыта яны напісаны не сто гадоў таму назад, а сягоння. Такімі з'яўляюцца, напрыклад, першыя вершы з нізкі «Мелодыі з вар'яцкага дому», напісаныя ім за год да смерці.

Змешчаныя ў гэтай кнізе творы Ул. Сыракомлі напісаны ў 1851 годзе, верш «Ты памерці не павінна» — у 1845 г.

# ЗМЕСТ

НА УСХОДЗЕ КРАСУЕ ЗАРА...

ЧАКАЕ ЛЯ БЕРАГУ ЧОВЕН МЯНЕ



ПАСЛЯ ВАНДРАВАННЯ

## ПАЛЕСКАЯ РАПСОДЫЯ

СВЕТЛЫЯ УСПАМІНЫ